УДК 719.025.4 (476.6–25) (082)
ББК 79.0 (4Беи)я43
Г67

Выдаецца пры ўдзеле Таварыства Беларускай школы і
Беларускага гістарычнага таварыства



У афармленні вокладкі выкарыстаны малюнак Алеся Сурава (Гродна)

**Горад Святога Губерта**: альманах лакальнай гісторыі. Выпуск 9 (2014) / рэдкал. І.Соркіна [і інш.]. — Гродна, 2014. — 32 іл. — 175 с. — (Гарадзенская бібліятэка).

Чарговы выпуск альманаха змяшчае матэрыялы па розных праблемах гісторыі Гродна і Гродзеншчыны. Сярод тэмаў нумару: паліцэйскі нагляд у горадзе над Нёманам у першай палове XIX ст., «сімвалічнае прысваенне» гарадской прасторы «заходнерускімі» дзеячамі 60–х гадоў XIX ст., архітэктурна–планіровачныя змены ў міжваенным Гродна, гродзенскі водгук маскоўскай «справы лекараў» і іншыя праявы дзяржаўнага антысемітызму ў Савецкай Беларусі канца 1940–х — пачатку 1950–х гг., лёс праваслаўнай і каталіцкай царквы на Гродзеншчыне ў 1944 — 1964 гг. ды іншыя. Упершыню друкуюцца гімназічныя атэстаты Івана і Антона Луцкевічаў.

Разлічаны на шырокае кола чытачоў.

**УДК 719.025.4 (476.6–25) (082)**
**ББК 79.0 (4Беи)я43**
**Г67**

# Прадмова

Дзявяты выпуск альманаха лакальнай гісторыі «Горад Святога Губерта» працягвае вырашэнне задачы аднаўлення гістарычнай панарамы горада, падзеленага Крананам. Выданне змяшчае разнастайныя матэрыялы аб невядомых і малавядомых старонках гісторыі нашага горада і рэгіёна.

У традыцыйнай рубрыцы «Рэканструкцыя і памяць» публікуецца даследаванне кандыдата гістарычных навук *Андрэя Чарнякевіча,* прысвечанае архітэктурна–планіровачным зменам ў міжваенным Гродна (1919 — 1939 гг.). Аўтар дзеліцца цікавымі фактамі і цытатамі, выяўленымі ім у архіўных зборах і тагачасным перыядычным друку, а таксама сваімі разважаннямі, якія паказваюць спробу рэалізацыі польскімі ўладамі праекта па «гвалтоўнай эстэтызацыі» з мэтай «нацыяналізацыі» горада, пераўтварэнню яго ў тыпова правінцыйны горад Польшчы.

*Сцяпан Стурэйка* ў рамках культурнай антрапалогіі даследуе ролю спадчыны ў паўсядзённым жыцці жыхароў Гродна. З дапамогай навуковай літаратуры і ўласнага апытання сённяшніх актывістаў руху за абарону спадчыны Гродна ён аналізуе экспертны і абывацельскі пагляды на спадчыну, шукае адказ на пытанне: ці пераадольнае непаразуменне?

Дзякуючы *Таццяне Касатай* працягваем публікацыю ўспамінаў сталых жыхароў нашага горада — Марцінчык Кацярыны Іванаўны (1919 г.н.), жонкі беларускага грамадска–палітычнага дзеяча ў Заходняй Беларусі, доктара, публіцыста Мікалая Міхайлавіча Марцінчыка; а таксама Сальвесюка Казіміра Якубавіча (1922 г.н.), які дзеліцца ўспамінамі пра даваенны час (у тым ліку пра габрэйскі пагром 1935 г.) і перыяд Другой сусветнай вайны.

У рубрыцы «Крыніцы» публікуем новыя знаходкі і інтэрпрэтацыі гістарычных крыніц.

*Андрэй Ціхаміраў* падрыхтаваў да друку і даў цікавую інтэрпрэтацыю «Гродзенскім лістам» Рыгора Кулжынскага, якія былі апублікаваныя ў двух нумарах «Вестника западной России» за 1865–1866 гг.

і з'яўляюцца цікавым прыкладам «сімвалічнага прысваення» гарадской прасторы «заходнерускімі» дзеячамі 60-х гадоў XIX ст.

Упершыню (!) друкуюцца гімназічныя атэстаты знакавых постацей беларускага нацыянальнага руху першай трэці XX ст. Івана і Антона Луцкевічаў (выяўленыя ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве і падрыхтаваныя да друку *Аляксандрам Радзюком).*

Найцікавейшыя звесткі з гісторыі горада і ўсяго Беларуска-Літоўскага краю першай паловы XIX ст. — спіс і біяграмы асоб, што знаходзіліся пад паліцэйскім наглядам у горадзе над Нёманам з 1826 па 1859 гады, складзены кандыдатам гістарычных навук *Аляксандрам Радзюком* на аснове архіўных дакументаў. Сярод іх ёсць такія імёны як прафесар Віленскага ўніверсітэта Ігнат Анацэвіч, які выступіў з шэрагам выкрыццяў супраць адміністрацыі гэтай навучальнай установы, і які быў адным з натхняльнікаў студэнтцва ў справе асветніцкага руху філаматаў і філарэтаў; палкоўнік Ігнат Янкоўскі, які як Дж. Байран і прыкладна ў тыя ж гады дапамагаў грэчаскаму народу ў яго змаганні за незалежнасць; Пётр Цэхановіч, сябра Аляксандра Герцэна; акцёры, урачы, навучэнцы і многія іншыя.

У даследаванні *Любові Зорынай* на аснове дакументальных матэрыялаў Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці паказаны трагічны лёс праваслаўнай і каталіцкай царквы, у тым ліку рэпрэсіі супраць святароў на Гродзеншчыне ў 1944 — 1964 гадах. *Фелікс Акерман* (PhD) на прыкладзе Гродна раскрывае рэгіянальныя водгукі маскоўскай «справы лекараў» і іншыя праявы дзяржаўнага антысемітызму ў Савецкай Беларусі канца 1940-х — пачатку 1950-х гг.

Тэма, узнятая ў даследаванні Ф.Акермана, знаходзіць таксама змястоўнае і вобразнае адлюстраванне ў нарысе доктара гістарычных навук *Барыса Клейна* «Допрос 1953 года», напісаным як на аснове ўласных успамінах аўтара (допыт па «справе лекараў» бацькі аўтара — Самуіла Клейна — адбываўся ў яго прысутнасці), так і вынікаў даследавання, праведзенага на аснове амерыканскіх першакрыніц. Звяртаю асаблівую ўвагу шаноўных чытачоў на выніковую заўвагу ў нарысе Б. Клейна, якая выклікае роздум пра сучасны стан нашага грамадства: «*К сожалению, конца той истории не видно. Мало того: сталинисты настаивают, что взяли у времени реванш. Надеюсь, их в этом разубедят. Увы, скорее всего, без моего участия*».

Рубрыка «У дапамогу настаўніку» змяшчае тэкст доктара гістарычных навук *Алеся Смаленчука*, які прысвечаны вуснай гісторыі як

накірунку гістарычных даследаванняў і магчымасцям яго выкарыстоўвання ў працы школьных настаўнікаў. Паказваецца, што вусная гісторыя з'яўляецца надзвычай эфектыўным спосабам творчага падыходу да выкладання, сродкам «ажыўлення» мінуўшчыны, дазваляе непасрэдна дакрануцца да мінуўшчыны. У дадатках прапануюцца варыянты апытальнікаў па тэмах «1939 год у вусных успамінах жыхароў Беларусі» і «Беларусь у Другой сусветнай вайне. 1939 — 1945».

Завяршаюць дадзены выпуск альманаха анатацыі новых выданняў — працы Сяргея Токця і Мікалая Дзелянкоўскага «*Скідзель і ваколіцы. Жывая гісторыя*» (Мінск, 2013) і напісанай калектывам аўтараў кнігі з серыі «Гарадзенская бібліятэка»: «*Гародня X — XX ст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам*» (Гародня, 2014).

Спадзяёмся, што чарговы выпуск альманаха «Горад Святога Губерта» паспрыяе здзяйсненню нашай агульнай мары — фарміраванню і ўзмацненню ў гарадзенцаў пачуцця гонару і годнасці, набыццю большага аптымізму, надзеі і веры ў тое, што Гародня/Горадня/Гродна стане горадам свабодных людзей! Хоць бы ў сілу агульнагістарычнага закона свабоды (рух ад несвабоды да свабоды, ад свабоды меншай, да свабоды большай).

**Іна Соркіна**

**Андрэй Чарнякевіч,**
**кандыдат гістарычных навук**
**(Гродна–Познань)**

# «Гвалтоўная эстэтызацыя»: архітэктурна–планіровачныя змены ў міжваенным Гродна. 1919 — 1939 гг.

«Калі нехта жадае пазбавіцца ад вельмі яму несімпатычнай асобы, — пісала на пачатак 1920–х гадоў адна з гарадзенскіх газет, — дык няхай смела адпраўляе яе ў Гродна.... Мы амаль упэўнены — гэтым ён дасягне сваёй мэты... Хаджэнне па нашым тратуарам адносіцца да рэчаў вельмі небяспечных для жыцця. Той жа, хто здолее без здарэнняў прайсці па галоўным вуліцам Ажэшка і Дамініканскай, можа смела аднесці сабе да шчаслівчыкаў…»[1]. Уздагон газета прыводзіла гісторыю пра пэўную паню Амелію, якая прыехала ў Гродна з мэтаю пазнаёміцца з яе гістарычнымі помнікамі. Аднак, на пераправе яна паслізнулася і праз паламаныя поручні… трапіла наўпрост на пакрыты лёдам Нёман. Што праўда, з самой жанчынай нічога не сталася, аднак, пасля падобнага здарэння яна адмовілася заставацца ў горадзе на даўжэйшы час. «Добрае ж уражанне будзе ў свеце пра Гродна? — Задавалася рытарычным пытаннем газета, пасля чаго падвозіла выснову. — Нездарма, напэўна, нават некаторыя еўрапейскія дыпламаты за мяжой лічаць, што яно ляжыць далёка ў глыб Расіі»[2].

Падобнае атаясамленне заняпаду гарадской гаспадаркі з прыналежнасцю да іншага культурнага тыпа сталася характэрнай прыкметай міжваеннага Гродна. Упершыню ў гісторыі горада быў рэалізаваны праект па свядомым стварэнні пэўнай культурна–эстэтычнай мадэлі, якая б адпавядала нацыянальна–дзяржаўнай прыналежнасці.

[1] «Dziennik Grodzieński». 6.2.1922. № 1. Str. 5.

[2] «Dziennik Grodzieński». 18.2.1922. № 3. Str. 3.



**Панарама горада з мастом праз Нёман.**
**Фота з калекцыі Фелікса Варашыльскага.**

Фактычна, барацьба за мадэрнізацыю Гродна сталася ўласна змаганнем за польскі «*Grodna*».

Стварэнне польскай мадэлі горада на фоне шматкультурнага, поліэтнічнага і вельмі сацыяльна стракатага Гродна адбывалася паступова. Значную ролю ў гэтых пераўтварэннях меў адыграць будаўнічы аддзел гродзенскага магістрата. Першапачаткова ён быў пры тэхнічным аддзеле, але разам з развіццём гарадской гаспадаркі быў выдзелены ў асобную адміністратыўную адзінку. Аддзел займаўся правядзеннем будаўнічых прац, зацвярджэннем праектаў, выдачай дазволаў на будоўлю, утрыманнем бетоннага завода ў горадзе, рэгуляцыяй гарадскіх вуліц і плошчаў ды аховай помнікаў архітэктуры[3].

Як мы ўжо не аднойчы адзначалі, самі змены ў аблічы горада былі прасякнуты глыбокім сімвалізмам. Гарадзенская газета «Czyn Młodych» у артыкуле «Напамін аб сумным мінулым» адзначала з задавальненнем: «З кожным днём знікае адна за другой «расейская» камяніца з вуліц Гродна. Горад набывае зусім іншы выгляд. Знікае напамін пра сумнае мінулае. Аднак, мы добра ўсведамляем, што разам

[3] Казак Т. Дакументы магістрата г. Гродна 1919 — 1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV — XX ст. Гародня, 2009. С. 361.

з выглядам камяніц, на жаль, не знікаюць і не змяняюцца ўсе сляды па часах «вешальнікаў»…»[4]. Эклектыка часоў Расійскай імперыі, як, напрыклад, пажарная каланча ў цэнтры горада, зараз успрымалася, як нешта чужое для Гродна. Нават, Юзаф Ядкоўскі, адзін з вялікіх аматараў гродзенскай старажытнасці, пісаў: «Калі б знайшоўся нехта, хто б меў уладу і сродкі, як Мусаліні ў Рыме, дзе руйнуюцца цэлыя кварталы прыгожых домікаў, з тым, каб вярнуць страчаную спадчыну былога Рыма, з цэнтральнай плошчы Гродна адчыніліся б цудоўныя перспектывы»[5].

Паступова горад набывае рысы тыповага «крэсовага» горада. Своеасаблівай прыкметай польскага Гродна становіцца архітэктурны стыль канструктывізм[6]. Цікава, што яшчэ сябра таварыства аматараў горада Гродна (Towarzystwo miłosników m. Grodno), ветэрынарны лекар Вінцэнты Леановіч на адным з паседжанняў таварыства выступіў з ідэяй выпрацаваць пэўны тып будоўлі, які б адпавядаў рысам і гістарычнаму тыпу самаго горада, дзеля ягонай разбудовы ў недалёкім будучым[7]. Яшчэ адной новай з'явай стала комплекснае будаўніцтва жылых кварталаў па сацыяльна–прафесійнай прыкмеце. За дастаткова кароткі час паўстаюць новыя раёны для вайсковых, чыноўнікаў, настаўнікаў, а, нават, беспрацоўных[8]! Адначасова, адбываліся змены ў характары самаго жытла. Сярод іншага, гарадская рада разглядала пытанне пра будаўніцтва чатырох жылых дамоў на трыццаць кватэр кожны па праекту гарадскога архітэктара Яна Захажэўскага па вул. Нова–Артылерыйскай. Кватэры планаваліся адна— і двухпакаёвыя, з прыбіральняй, кухняй і ваннай[9]. У выніку, у Гродна адбываецца сапраўдны «будаўнічы бум». Хрысціянская фракцыя гарадской рады нават была вымушана выступіць з асобнай інтэрпеляцыяй адносна

[4] «Czyn Młodych». 18.09.1938. № 1. Str. 3.

[5] J. Jodkowski. Śródmieście Grodzieńskie dawne a jutrzejsze. Grodno, 1930. —Osobne odbicie z Nowego Dziennika Kresowego. S. 4.

[6] Жылыя дамы ў стылі канструктывізму — захаваліся па вуліцах Батанічнай, Чкалава, Астроўскага, 17 верасня і інш.. Найбольш значнымі пабудовамі канструктывізму ў горадзе сталі «Дом Стральца» (вядомы зараз, як Дом афіцэраў) і Польскі банк (зараз Нацбанк па вуліцы Карбышава) // Renikowa W. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennym // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy lipiec–październik 2001. Pelplin–Gdańsk, 2001. S. 19.

[7] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (ДАГВ) Ф. 46, воп. 1, спр. 188, арк 43.

[8] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 281, арк. 38 зв.–39.

[9] ДАГВ. Ф. 46, воп., спр. 18, арк. 39–39 зв.

таго, што гарадскія будаўнічыя службы занялі пад працы ўсе мясцовыя скверы ў цэнтры горада[10].

Разам з ростам горада з'яўляліся і новыя патрэбнасці. Пашырэнне колькасці аўтамабіляў ды з'яўленне грамадскага аўтатранспарту ў горадзе выклікалі патрэбу ў вызначэнні месцаў аўтастаянак[11]. Адначасова з модаю на лецішча магістратам быў створаны камітэт па арганізацыі Таварыства загарадных агародаў (Komitet Organizacyjny T–wa Ogródków Działkowych)[12]. Гродзенскі староста звярнуўся да магістрата з патрабаваннем вызначыць і падрыхтаваць пляж на Нёмане[13]. Была нават створана асобная камісія па пытанні пераносу гарадскіх могілак[14]!

Яшчэ адной прыкметай часоў Расійскай імперыі была адсутнасць гарадской каналізацыі. «Гродна зялёны — але смярдзіць» — адна з найбольш распаўсюджаных прымавак таго часу[15]. Часткова, аднак, гэтая праблема вырашалася коштам вялікіх прадпрыемстваў[16]. У выніку, за два гады было пакладзена больш за пяць тысяч км розных каналізацыйных каналаў. Сам пачатак карыстання гарадской каналізацыяй быў прызначаны на 1 студзеня 1937 г.[17].

Асабліва цікавымі, і не толькі з пункту гледжання развіцця гарадской прасторы, выглядаюць гісторыя футбольнага стадыёна яўрэйскага спартовага таварыства «Макабі» ды справа пераносу г.зв. Рыбнага рынка. Пытанне аб выдзяленні плошчы пад спартовую пляцоўку для розных грамадскіх таварыстваў Гродна абмяркоўвалася на паседжанні магістрата яшчэ ў красавіку 1927 г., пад час планавання гарадскога бюджэту. Яшчэ тады высветлілася некалькі галоўных напрамкаў — гэта фінансаванне праз гарадскі бюджэт таварыства «Макабі», ці падтрымка Камітэта фізічнага выхавання, якому Магістрат вызначыў, між іншым, велатрэк пры вул. Станіслававоўскай. Віцэ–прэзідэнт Гродна Стэфан Цыдзік наогул высунуў прапанову, каб у сувязі з адсутнасцю свабодных пляцаў, прыватным таварыствам іх не выдзяляць, а ўсе

---

[10] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 285, арк. 24 зв.

[11] ДАГВ. Ф. 17, воп. 1, спр. 200, арк. 192.

[12] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 19, арк. 23.

[13] ДАГВ. Ф. 17, воп. 1, спр. 200, арк. 117.

[14] ДАГВ. Ф. 46. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 52–52 зв.

[15] «Słowo». 13.07.1939. № 190. Str. 3.

[16] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 285, арк. 55.

[17] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 284, арк. 95 зв.

ўжо існуючыя дазволы — адклікаць. У выніку Магістрат зацвердзіў перадаць таварыству «Макабі» пляцоўку пад стадыён каля кафлярні Станіслава («Пся Горка» — ?) і адначасова захаваць у бюджэце квоту ў 2802 злотых на ўтрыманне трэка для Камітэта фізічнага выхавання[18].

Тады ў ліпені 1930 г. «Makabi» звярнулася да Магістрата з просьбаю аб набыцці зямельнага ўчастка па вуліцы Ажэшка. Магістрат просьбу падтрымаў. Таварыства выкарыстала гэты надзел пад дзіцячую пляцоўку, плануючы ў будучым збудаваць тут футбольны стадыён. Супраць гэтага выступіў *пробашч* праваслаўнага кафедральнага сабора, які знаходзіўся побач, маючы на ўвазе, што спартовыя мерапрыемствы будуць перашкаджаць службе. Хаця Магістрат царкоўную скаргу і адхіліў, аднак само Таварыства вырашыла шукаць іншае месца пад стадыён. Першапачаткова горад прапанаваў яму пляц каля г.зв. «Паляўнічай горкі», аднак «Makabi» вымушана было адмовіцца, патлумачыўшы гэта не адпаведнаю формаю самога месца. Наступным быў участак па вул. Нарутовіча — на месцы, дзе было запланавана раней будова гарадской школы. Пасля чарговай змены, новае месца пад стадыён было вызначана па Грандзіцкай шашы насупраць Калоніі паштовых служачых. Дамова, аднак, не была зацверджана Беластоцкім *ужэндам* ваяводскім па прычыне, як адзначалася, фінансавай немэтазгоднасці[19]. На 1937 г. спартовая пляцоўка яўрэйскага спартова–гімнастычнага таварыства «Макабі» знаходзілася ў двары г.зв. «*Батарувкі*» (характэрна, што яшчэ ў жніўні 1927 г. Гарадская Рада адхіліла зварот Польскай Мацежы школьнай адносна перадачы ёй спартовага пляца, які знаходзіўся ва ўладанні клуба «Cresovia», па той прычыне, што дзеля гэтага не было ніякіх падстаў)[20].

Галоўная спрэчка вакол пераносу Рыбнага рынка на вул. Вызвалення побач з г.зв. Мясным рынкам тычылася суадносін паміж эстэтычным выглядам ды санітарнымі нормамі — з аднаго боку, ды эканамічнымі інтарэсамі часткі мясцовага насельніцтва — з іншага. Яшчэ ў 1928 г. на паседжанні Гарадской Рады прагучалі словы аб патрэбе будаўніцтва маста на Каложу ды Завершчызну, праект якога распрацоўваўся яшчэ пад час расійскай рэгуляцыі горада. Яўрэйскія Радныя — Троп–Крынскі, Гітлер — згаджаючыся з патрэбаю паляпшэння ўмоваў гандлю, прапаноўвалі зрабіць навесы на старым месцы.

---

[18] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 3, арк. 31–31 зв.

[19] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 199, арк. 3, 5, 17.

[20] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 3, арк. 73.



**Рыбны рынак. Фота з калекцыі Ф.Варашыльскага.**

На рукі Гарадской Рады быў перададзены Мемарыял, падпісаны 136 гандлярамі ды навакольнымі жыхарамі, якія выступалі супраць пераносу Рыбнага рынка. На гэта віцэ–прэзідэнт К.Лашкевіч адзначыў, што: «Гэтыя некалькі дзясяткаў подпісаў супраць пераносу рынка разам з подпісамі членаў іх сямей не ў стане затрымаць развіццё горада і перашкодзіць у ягоным добраўпарадкаванні...». У выніку, аднак, Рада большасцю галасоў падтрымала рашэнне пра будоўлю навесаў на старым месцы[21] (дарэчы, на 1938 г. Гарадская Рада запланавала «урэгуляванне» яшчэ аднаго — Грандзіцкага рынка[22]).

Прыярытэты ў развіцці Гродна, зазвычай, высвятляліся пад час дэбатаў вакол гарадскога бюджэту. Гэтак, пад час абмеркавання бюджэтных выдаткаў на 1928–1929 гг. было вырашана павялічыць фінансаванне на рамонт мастоў па вул. Віленскай і Рэзніцкай, «splantowanie pochyłości» па вул. Падгорнай і каля Пажарнай каланчы, правядзенне памераў гарадскіх тэрыторый (выдаткі павінны былі складаць 20 тысяч злотых — амаль трэцяя частка ад усіх г.зв. «надзвычайных» выдаткаў), рамонт тратуараў па вул. Дамініканскай, будаўніцтва навесаў

[21] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 4, арк. 130, 136 зв. — 137.

[22] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 285, арк. 11.



**Даліна р. Гараднічанкі. Фота з калекцыі Ф. Варашыльскага.**



**Мост праз р. Гараднічанку. Фота з калекцыі Ф. Варашыльскага.**

на Рыбным рынку ды ўпарадкаванне пляжа. Скарацілі затое выдаткі на будову маста над ручаём Юрыдыка па вул. Крэсовая–Пушкінская, укладанне новых брукаў па вул. Кашаровай ды на ўскрайку горада[23].

Выступаючы пры абмеркаванні пытання пра паляпшэнне гарадскіх фінансаў прэзідэнт Р. Савіцкі меў сказаць: «...Калі ж гаворка ідзе пра горад Гродна, дык знаходзіцца ён у вельмі цяжкім становішчы. Магчымасці нашага бюджэту з'яўляюцца нязмерна меньшымі за рэальныя патрэбы. Мы маем 43,34% незабрукаваных і неўпарадкаваных вуліц ды 54,4% рынкавых пляцаў. У высокай ступені адчуваем недахоп школьных будынкаў, а цяснота шпітальных памяшканняў пры існуючым наплыве гэтак вялікая, што хворых прыходзіцца часамі класці ўпрост на калідорах. Стан гандлёвых пляцаў кепскі, а на будоўлю няхай і сціплага гандлёвага павільёна горад не мае ніякіх фондаў. Велізарная існуе патрэба ў лазні–купальні. Распачатая будова каналізацыі і разбудова водаправоду ідзе далей усё больш павольна з прычыны выдзялення на наступны будаўнічы перыяд меньшых квотаў... На будаўніцтва жытла ў Краёвым гаспадарчым банку ў Гродна не прызначана ніякіх крэдытаў. Яшчэ больш гэты стан ускладняе абавязак ўладкавання беспрацоўных — каля 3200 чалавек[24].

Затое, пад час дыскусіі над гарадскім бюджэтам у сярэдзіне 1930–х г. адным з галоўных пытанняў, фактычна, стала будова «Doma Strzelca» (гэтая, яшчэ не паўсталая ўстанова, ужо насіла на той момант імя генерала Рыдз–Сміглы). У маі 1935 г. Рамуальд Палуян прапанаваў асігнаваць запланаваны крэдыт на будоўлю Дома ў памеры 33 тыс. злотых на пагашэнне гарадскога дэфіцыту. Сярод выступаючых, якія аспрэчвалі заяву прадстаўніка гарадзенскай хадэцыі, быў і прэзідэнт Гродна Віктар Міскы. Ён падкрэсліў, што крэдыт на «Dom Strzelca» мае дачыненне да выхавання будучых абаронцаў айчыны, таму нельга разглядаць гэтае пытанне выключна ўтылітарна. Акрамя таго, «Dom Strzelca» мае супрацьгазавы прытулак —на 550 асобаў коштам 40 тысяч злотых, а на самаўрадзе таксама ляжыць абавязак падрыхтаваць насельніцтва да падобнай небяспекі[25].

У маі 1936 г. пад час абмеркавання бюджэту радны Рамуальд Палуян прапанаваў выкрасліць субсідыю ў памеры 5 тыс. злотых на будоўлю «Doma Strzelca», а замест гэтага асігнаваць гэтую суму на

[23] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 4, арк. 158.

[24] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 285, арк. 110 зв.

[25] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 284, арк. 22.

дапамогу найбольш беднай часткі жыхароў. У адказ радны Канстанцін Тарлікоўскі (Terlikowski) выказаў вялікі жаль, з якім прыходзіцца чуць прапанову папярэдняга выступоўцы. «У той час, калі, — дадаў ён, — навокал і паўсюль чуваць лязг зброі, а суседнія краіны ўзмацняюцца кожным коштам, мы таксама павінны быць падрыхтаваны. Наша моладзь павінны быць прыстасавана да абароны краю, і справа гэтая павінна стаць першаснай патрэбай кожнага грамадзяніна. У момант, калі складкі на будоўлю «Doma Strzelca» прыходзяць з усіх бакоў вайсковага вокруга, тым больш сярод дабрачынцаў ня можа не быць Гродна, у якім гэты дом будуецца... Сучасны гэты будынак стане сапраўдным упрыгожваннем горада»...[26]!



**Дом Стральца. 1930–я гг.**

Паступова з вырашэннем галоўных праблемаў у развіцці гарадской прасторы, паўстае пытанне яе «эстэтызацыі». У бюджэце Гродна на 1931 г. прадугледжвалася 150 злотых на ўзнагароду за найлепшае ўпрыгожванне дома кветкамі[27]. У канцы 1936 г. Гарадская Рада пастанавіла асігнаваць 1.200 злотых на рамонт гадзінніка на фарным касцёле, які не працаваў з часоў вайны (некаторыя з частак механізма нагогул зніклі, а самім рамонтам павінна была заняцца фірма «Męsowicz»

[26] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 285, арк. 32 зв.— 33.

[27] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 18, арк. 64.

з Кросна)[28]. Падобныя захады набывалі асаблівую актуальнасць напярэдадні візіту ў горад кіраўніцтва краіны. У сувязі з краёвай выставай у Познані і прыездам замежных гасцей, якія маглі адведаць і іншыя гарады, Беластоцкі ваявода ў маі 1929 г. разаслаў цыркуляр да старастваў — у тым ліку і ў Гродна, у якім загадваў прывесці ўсе дамы і платы ўздоўж шашэйных і чыгуначных дарог да «эстэтычнага выгляду»: фасады памаляваць фарбаю ці пабяліць, а платы — «фарбаю неяскравага колеру»[29]. На маючы адбыцца візіт прэзідэнта ў Гродна ў канцы кастрычніка 1929 г. на рагу вуліц Брыгіцкай і плошчы Баторага была пабудавана спецыяльная святочная брама, якая абыйшлася гораду ў 361, 31 злоты[30]. 13 мая 1930 г., у сувязі з маючым адбыцца візітам прэзідэнта Польшчы, Магістрат Гродна вырашыў тэрмінова пералажыць брукаванку па вул. Маставой, Брыгіцкай, Ажэшка, плошчы Баторыя, Ласасянскай, Дамініканскай, ды правесці рамонтныя працы па вул. Назарацянскай, Баніфратэрскай, Бернардынскай і завулку да галоўнай Сінагогі. Акрамя таго, прадугледжваўся рамонт фасадаў Ратушы, Магістрата ды г.зв. Старых казармаў[31]. Так як прэзідэнт меўся спыніцца на старым замку, Магістрат вырашыў выдзеліць дадатковыя 5 тысяч злотых (з агульнага рахунка на 28 тысяч) на яго рамонт[32].

У сувязі з гэтым гродзенская газета «Wieczorny kurier Grodzieński», адзначаючы вялікія змены ў лепшы бок, якія адбыліся з нагоды святкавання юбілея Баторага, жалілася: «шкада толькі, што Гродна было сядзібаю толькі аднаго караля — у сувязі з чым у нас каралеўскія святы адбываюцца не так часта, інакш мы таксама маглі б стаць падобнымі да сталічных гарадоў»[33].

Гэтыя вонкавыя змены не пакідалі абыякавымі знешняга назіральніка. Гэтак, Казімір Лечыцкі, вярнуўшыся з адкрыцця помніка Э. Ажэшка і які не бачыў Гродна апошнія шэсць год, з захапленнем і, нават, залішнім патасам пісаў у віленскім «Słowie»: «...Змены вялікія, якія выклікаюць здзіўленне. Прыбыло шмат школаў, арганізацый, крамак, таварystваў ды кнігарняў. Асфальту яшчэ няма, але тратуары ўжо адбудаваны. Рэгулюецца бераг Нёмана, на месцы якога

[28] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 285, арк. 102 зв.

[29] ДАГВ. Ф. 17, воп. 1, спр. 200, арк. 101.

[30] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 17, арк. 16.

[31] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 19, арк. 54.

[32] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, спр. 19, арк. 76 зв.

[33] «Wieczorny kurier Grodzieński». 23.10.1933. № 290. Str. 4.

ствараецца сімпатычны бульвар, у будучым — упрыгожванне ўсяго горада. Ад ваенных руінаў не засталося ні сляда, а горад жа калісьці некалькі разоў бачыў крывавыя баталіі. Вялікага дастатку няма, аднак і бядоты таксама. Яшчэ шмат працы, каналізацыя, асфальт, больш старанная апека над помнікамі гісторыі, і горад, які гэткім цудоўным чынам месціцца на беразе Нёмана, прыцягне да сабе тлумы турыстаў, едучых у Вільню, ды адпачываючых у Друскеніках»[34].

Былі, аднак, і выключэнні. Пад час паседжання 13 снежня 1928 г. радны Ян Падвінскі выступіў з пратэстам супраць правядзення прэзідыумам Магістрата рамонту ўнутры будынка Магістрата. «Хаця гарадскі бюджэт, — адзначыў радны, — не прадугледжваў выдаткаў на грунтоўнейшыя ўнутраныя перапробкі будынка Магістрата, тым ня меньш прэзідыум Магістрата самавольна пад уплывам пана Віцэ–прэзідэнта, маральна неадказнага перад Гарадской Радай па той прычыне, што ён ёю не быў абраны, загадаў грунтоўную пераробку будынка Магістрата коштам некалькі тысяч злотых. Тым больш дзіўна, што віцэ–прэзідэнт, нібыта адкрыта ігнаруючы раду, арганізаваў рамонт амаль што ў тайне ад усіх...»[35].

Паступова, аднак, «эстэтызацыя» ператвараецца ў галоўны элемент гарадскога жыцця. У маі 1938 г. надкамісар гродзенскай паліцыі В. Нагорскі загадаў прыбраць з платоў у горадзе і павеце калючы дрот «як мага ў больш кароткі час». Асобна прыйшлося дамаўляцца з чыгуначнымі, вайсковымі ўладамі, самаўрадам (не былі зняты агароджы з некаторых прыватных участкаў, пры школцы садовых дрэваў ды ўчастку насупраць шпіталя па вул. Рэзніцкай, па вул. Грандзіцкай № 18, вул. Віленскай насупраць дамоў № 16 ды 18, на ўчастках Ю. Макароўскай па вул. Каложа № 5 ды П. Хадароўскага па вул. Рыбацкай № 10)[36].

Запланаваныя інвестыцыі на 1937–1938 г. прадугледжвалі будоўлю лазні з крытым басейнам над Гараднічанкай па вул. Ажэшка за праваслаўным саборам; разбудову гарадскога шпіталя па вул. Рэзніцкай; упарадкаванне Скідзельскай плошчы... Газета «Głos Polski» наракала, пры гэтым, на дыспрапорцыі: «Дзіўна гэта выглядае: над Нёманам плітка тратуара ідзе на кіламетры, а на доўгай і не найгоршай вуліцы (гаворка пра Артылерыйскую. — А.Ч. ) ...людзі ўвесь час тонуць у балоце»[37].

[34] «Słowo». 23.10.1929. № 245. Str. 2.

[35] ДАГВ.Ф. 46, воп. 1, спр. 4, арк. 222–222 зв.

[36] ДАГВ. Ф. 17, воп. 1, спр. 334, арк. 2, 4, 14.

[37] «Głos Polski». 7.3.1937. № 1. Str. 7–8.

Вынікам падобнай «гвалтоўнай эстэтызацыі», якая канчаткова павінна была ператварыць Гродна ў польскі горад, стаўся загад гарадзенскіх уладаў змяніць па ўсяму гораду старыя навесы ды брамы на аднолькавыя «штахеціны». Вось як красамоўна апісвае наступствы гэтага карэспандэнт віленскага «Słowa»: «...Тое, што Гродна зараз выглядае быццам бы пасля вялікага землятрусу, асаблівай сенсацыяй напэўна не з'яўляецца. На вуліцы Пілсудскага ляжаць яшчэ па агародах ды дварах паваленыя платы. Шэрыя стаўпы брамаў, маляваныя на нябескі колер гуртом павырываныя дошкі, знятыя з навесаў падвоі (?). ...На вуліцы Ганчарнай тое ж самае. На Пераца, на Ажэшка, на Грандзіцкай, на Вітальдовай.

Гэтак я збіраўся пісаць, калі адразу пасля прыезду хадзіў тымі вулачкамі. Аднак, пасля некалькіх гадзін я пераканаўся, што па ўсіх вуліцах Гродна пануе гэты самы дзіўны *раздор*, нагадваючы болей сцэны вялікай перабудовы пасля пажару, пасля вайсковага набегу, рэвалюцыі ды іншых жыццёвых патрасенняў.

Вырваныя *стаўні* ляжаць альбо стаяць на тратуары. Вокны на ноч латаюцца дошкамі ды дыктам. На галоўнай вуліцы Дамініканскай не засталося ніводнай уваходнай дзьверы ў камяніцах. Тырчаць толькі вялікія завесы, што шмат гадоў таму сюды ўмуравалі, каб падтрымаць цяжкія масіўныя брамы. Бо гэткім быў спрадвечны стыль і характар Гродна. — За справаю чыноўнікаў гарадзенскага магістрата характар гэты на караню адменены! З гэтага дня ўсё павінна быць іначай. Паўсюль маюць быць лёгкія, *тонкія* штахеты. І ў новых дамах, і ў расійскага тыпу «дачах», і ў сучасных вілах, і ў кляштарных мурах, і ў камяніцах былога касцёла св. Духа».

Сам аўтар прыйшоў да нечаканай высновы: «Не ведаю, ці існуе іншы такі горад у Польшчы, на якім ўсе добрыя і кепскія бакі вымушанай *эстэтызацыі* адбіваюцца гэтак пластычна, як Гродна. …У Гродна ў сам раз пасавалі да старых мураў цяжкія, масіўныя брамы. Можна іх было стылізаваць, як стылізуюць пры рэканструкцыі гістарычныя помнікі, аднак нельга гэтыя помнікі нішчыць! Гарады славяцца не толькі асобнымі гістарычнымі аб'ектамі, яны самі ў сабе могуць уяўляць гістарычны помнік, адлюстроўваючы характар, асаблівасці архітэктуры, традыцыю. Гэткім горадам з'яўляецца Гродна»[38].

Паўстала дастаткова парадаксальная сітуацыя. За міжваенны час Гродна паспеў вельмі моцна змяніцца, і гэтыя змены шмат у чым

[38] «Słowo». 13.07.1939. № 190. Str. 3.

павінны былі замацаваць менавіта «польскі характар» горада. Аднак, па сутнасці, гэта быў усе той жа самы Гродна, што і дваццаць год назад. Па сапраўднаму сваё аблічча Гродна змяніў толькі ў выніку той катастрофы, якой для яго стала Другая Сусветная вайна.

Каб у гэтым пераканацца, дастаткова глянуць на замалёўку «Co słychać w Grodnie?» карэспандэнта віленскага «Słowa», які пісаў у маі 1939 г.: «Ёсць у Гродна вуліца Пясковая. Невядома чаму яна так называецца, так як пяску на ёй не відаць і яна сама — брукаваная, што, напэўна, было зроблена яшчэ за часаў караля Стэфана Баторага, ці можа на яго павітанне. Пліткі–брукаванкі на гэтай вуліцы, гэта ўжо не «кашачыя лбы», але сапраўдныя лбы тыгра. Камяні выступаюць адзін над другім, што і не праедзеш. Там жа, дзе іх наогул няма, яміны сягаюць у глыбіну на паўметра. Не так даўно прыгожым чынам выбрукавалі ў Гродна галоўную вуліцу, а таму ёсць надзея, што і на гэтую Пясковую прыйдзе калісьці чарга. Можа так атрымацца, што паселіцца на ёй пэўны гарадскі радца, альбо нейкі іншы гарадскі чыноўнік, намочыць там ў калужані нагу. Ніхто не ў стане прадбачыць шляхі Прадназначэння! А пакуль што, няшчасны той падарожны, што памылкова заехаў на Пясковую на сваім аўтамабілі. Ты можа і вернешся, але аўто застанецца там напэўна»[39].

[39] «Słowo». 24.05.1939. № 141. Str. 4.

**Сцяпан Стурэйка, магістр гісторыі**
**(Гродна–Вільня)**

# Экспертны і абывацельскі пагляды на спадчыну. Ці пераадольнае непаразуменне?

*Прысвячаецца гарадзенскім актывістам,*
*якія змяняюць аблічча гэтага горада*

Захаванне і актуалізацыя архітэктурнай спадчыны — неад'емная частка ўнутранай палітыкі любой еўрапейскай дзяржавы. Пасля распаду Савецкага Саюзу новыя краіны сутыкнуліся з новай эканамічнай, палітычнай і сацыяльнай рэчаіснасцю, якая спарадзіла ў разгляданай сферы такія праблемы, з якімі дагэтуль не даводзілася сутыкацца ні дзяржаўным органам, ні грамадскім сілам. Першым чынам гэта развіццё бізнэсу і з'яўленне прыватнай уласнасці на аб'екты нерухомасці, развіццё міжнароднага турызму, рэнесанс усходнееўрапейскіх нацыяналізмаў і г.д. Адным з наступстваў новай эканамічнай і культурнай сітуацыі стала змена канфігурацыі грамадскай цікавасці да спадчыны.

Укаранёнасць у традыцыі, нацыяналізм, а таксама адраджэнская рыторыка характэрныя перадусім для права–ліберальных і кансерватыўных палітычных плыняў. Менавіта гэтым шляхам пайшлі новыя ўсходне–еўрапейскія дзяржавы ў першыя гады свайго існавання. І менавіта для пачатку 1990–х гг. характэрны ўсплёск грамадскай цікавасці да гістарычнай спадчыны.

На мяжы 1980–1990–х гг. у постсавецкіх гарадах з'яўляюцца некантралюемыя ўладай ініцыятыўныя групы, арганізацыі і рухі, якія ставяць сваёй мэтай недапушчэнне разбурэння і аднаўленне адзінкавых помнікаў і цэлых гарадскіх ансамбляў. Упершыню ініцыятыва захавання і актуалізацыі спадчыны стала зыходзіць не ад адмысловых дзяржаўных органаў або прафесійных супольнасцяў, але «знізу», ад

простых людзей, якія бачаць у архітэктурных помніках аснову нацыянальнага адраджэння.

Такія групы спрабуюць браць на сябе адказнасць за помнікі, і тым самым непазбежна ўкліньваюцца ў зону адказнасці «старых» інстытутаў аховы. Нават праз два дзесяцігоддзі працягваецца спрэчка за права на прафесійныя адносіны да спадчыны, якія на постсавецкай прасторы традыцыйна прызнаюцца галоўным чынам толькі за архітэктурна–тэхнічнымі прафесіяналамі. Гуманітарыі і грамадскія актывісты вымушаны ўступаць у своеасаблівую сутычку за гэта дысцыплінарнае поле, спрабуюць ухапіць частку адказнасці ў прыняцці рашэнняў па спадчыне.

Але адкуль дзяржаўныя органы і актывісты чэрпаюць легітымнасць для ўласнай дзейнасці? Менавіта клопат пра нацыянальную свядомасць «шараговых» грамадзян стала краевугольным камянём інстытута аховы спадчыны. Грамадская зацікаўленасць і клопат пра культурнае развіццё будучых пакаленняў — вось якім быў асноўны матыў творчасці французскіх, аўстрыйскіх і брытанскіх інтэлектуалаў — заснавальнікаў сучаснай тэорыі спадчыны. Такім чынам, грамадства ў самым шырокім сэнсе з'яўляецца найважнейшым стэйкхолдэрам аховы помнікаў.

Але што мы насамрэч ведаем пра яго пазіцыю адносна архітэктурнай спадчыны, пра яго ўспрыняцце аб'ектаў аховы? Пасля вывучэння ўсяго спектру літаратуры, што тычыцца аховы помнікаў ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне, аказалася, што грамадская думка надзейна пахавана пад грудай экспертных даследаванняў і папулярызатарскага інфармацыйнага шуму.

Дадзены артыкул стаў першай спробай вывучэння ролі спадчыны ў паўсядзённым жыцці жыхароў Горадні. Даследаванне ў рамках культурнай антрапалогіі сканцэнтравана на вывучэнні спосабаў і структуры паўсядзённага ўспрыняцця і ўзаемадзеяння з архітэктурнай спадчынай розных катэгорый жыхароў, а таксама стратэгій уключэння помнікаў у сучасны палітычны, культурны і эканамічны дыскурс рэгіёна.

Тэарэтычнай базай работы паслужылі тэксты Д. Лоўэнталя[1],

[1] Лоуэнталь Д. Прошлое — чужая сторона. Москва, 2004. 624 с.

С. Пірса[2], С.М. Вінаса[3], Дж. Ашварда[4], Р. Мэйсана[5], Р. Тураўскага[6]. Асобна варта адзначыць кнігу даследчыка польска–беларускага памежжа Радаслава Пашчэкоўскага «Лакальнае вымярэнне памяці»[7], напісаную выключна на матэрыялах палявой працы.

Грамадскія градаабарончыя рухі ўжо станавіліся аб’ектам даследавання шэрагу аўтараў. Першым чынам неабходна адзначыць досыць глыбокія сацыялагічныя даследаванні рухаў Санкт–Пецярбурга[8] і Амстэрдама[9]. Аўтары гэтых даследаванняў разглядаюць і аналізуюць пэўныя выпадкі барацьбы за захаванне помнікаў, сацыяльны склад, мэты актывістаў. Пецярбургскі сацыёлаг Барыс Гладараў робіць гэта на шырокім эмпірычным матэрыяле, сабраным падчас працяглага «палявога» даследавання (мноства глыбінных інтэрв’ю з пецярбургскімі актывістамі). Аўтары незалежна адзін ад аднаго сыходзяцца ў канстатацыі таго, што большасць градаабарончых праектаў загадзя асуджаны на няўдачу.

Пытанні ўзаемадзеяння актараў грамадзянскай супольнасці і няўрадавых арганізацый, што займаюцца аховай і папулярызацыяй спадчыны, прааналізаваны таксама ў аглядных артыкулах Д. Кергарлэй[10] ды Д. Бартэля[11].

---

[2] Pearce S.M. The Making of Cultural Heritage // Values and Heritage Conservation. Research Report. P. 59–64.

[3] Salvador Munoz Vinas. Contemporary Theory of Conservation. Oxford. 239 p.

[4] Ashworth G.J., From History to Heritage — from Heritage to Identity. In Search of Concepts and Models. *In*: Building a New Heritage. Tourism, Culture and Identity in the New Europe (ed. by G. J. Ashworth and P. J. Larhkam), London, Routledge, 1994. P. 13–30.

[5] Mason R. Assessing Values in Conservation Planning: Methodological Issues and Choices // Assessing the Values of Cultural Heritage. Research Report. — The Getty Conservation Institute, Los Angeles. PP. 5–30.

[6] Туровский Р. Соотношение культурных ландшафтов и региональной идентичности в современной России // Идентичность и география в современной России. СПб., 2003. С. 139–173.

[7] Poczykowski Radosław. Lokalny wymiar pamięci. Pamięć zbiorowa i jej przemiany w północno–wschodniej Polsce. Uniwersytet w Białymstoku, 2012. 280 s.

[8] Гладарев Б. Историко–культурное наследие Петербурга: рождение общественности из духа города // От общественного к публичному / под ред. О. Хархордина. СПб., 2011. С. 71–304.

[9] Pruijt H. The impact of citizens’ protest on city planning in Amsterdam // Cultural Heritage and the Historic Inner City of Amsterdam. Amsterdam, 2004. P. 228–244.

[10] Kergorlay D. The role of associations in the protection of Europe’s cultural heritage // Cultural heritage in the 21st century. Opportunities and challenges. Krakow, 2007. P. 247–250.

[11] Barthel D. Historic Preservation: A Comparative Analyses // Sociological Forum, Vol. 4, No. 1 (Mar., 1989). P. 87–105.

Для высвятлення агульных тэндэнцый успрыняцця помнікаў вырашана было правесці шэраг даследчых інтэрв'ю з людзьмі, непасрэдна занятымі папулярызацыяй спадчыны сярод неангажаваных гараджан — экскурсаводамі і музейнымі супрацоўнікамі. Варта абмовіцца, што апытанне экспертаў дазваляе выявіць хутчэй меркаванне саміх экспертаў, а не меркаванне грамадскасці. Сапраўды, гэта так. У дадзеным выпадку вынікі сапраўднага даследавання варта тлумачыць у якасці папярэдняй гіпотэзы для распрацоўкі дызайну больш маштабнага сацыялагічнага і культурна–антрапалагічнага даследавання. Правядзенне дадзенай серыі інтэрв'ю стала своеасаблівым спосабам намацвання асноўных невядомых сюжэтаў і лакун у сучаснай карціне ведаў пра спадчыну.

## Экспертнае і побытавае ўяўленні пра спадчыну: фарміраванне і межы

Найбольш відавочным фактам, які кінуўся ў вочы ўжо напачатку даследавання, стала прынцыповае адрозненне паміж абывацельскім і экспертным поглядамі на спадчыну. Па меркаванні экспертаў (актывістаў градаабарончага руху, гісторыкаў, супрацоўнікаў гарадскіх музеяў), базавая каштоўнасць аб'ектаў, якія належыць ахоўваць — іх аўтэнтычнасць. Аўтэнтычнасць, як катэгорыя, зручная тым, што можа быць дэфінаваная паводле шэрагу больш–меньш выразных крытэраў. Яна ўласцівая ўсім тыпам прызнанай спадчыны, ад будынкаў і ландшафтаў да «нябеснай лініі» горада. Зусім іншай катэгорыяй з'яўляецца эстэтыка, гістарычнасць, грамадская значнасць і інш. (напрыклад, агароджа гарадзенскага брыгіцкага кляштара можа быць не надта эстэтычнай і ўжо амаль страціўшай сваю функцыю, аднак па–ранейшаму ўяўляе сабою аўтэнтычны аб'ект XVIII ст., і менавіта за гэта яна каштоўная ў вачах адмыслоўцаў).

Наадварот, гараджане мала звяртаюць увагі на аўтэнтычнасць. У іх уяўленні пра спадчыну яна размешчана, мабыць, на другім–трэцім месцы пасля эстэтыкі і гісторыка–культурнай значнасці. Тут ёсць пункт узаемнага неразумення паміж адмыслоўцамі і астатнімі гараджанамі, на пераадоленне якога экспертам неабходна марнаваць вялікую колькасць інтэлектуальнага рэсурсу: «*Гарадзенцы, жывучы сярод спадчыны, зусім яе не заўважаюць. Больш таго, ставяцца да яе досыць крытычна. Я распавядаю ім пра нейкі будынак, а мне кажуць, маўляў, я жыў там да 10–ці гадоў, і гэта было жудасна. Ніякай*

*каштоўнасці гэта не ўяўляе, і лепш як мага хутчэй з'ехаць адтуль у добраўпарадкаванае жыллё. Палякі значна больш шануюць гэту спадчыну. Ім як раз падабаюцца аўтэнтычныя аб'екты, аб'екты з багатай гісторыяй. У беларусаў наогул адсутнічае ўспрыняцце спадчыны. Беларусы ў цэлым вядуцца на вонкавыя эфекты, на акуратнасць»*[12].

Тлумачэннем дадзенай дылемы могуць служыць вынікі даследаванняў, якія прыводзіць у сваёй кнізе С.М. Ванас. Паводле яго, успрыняцце помніка можа быць умоўна падзеленае на тры складнікі:

1. вонкавыя характарыстыкі помніка, яго атрактыўнасць (эстэтыка);
2. уяўленні пра мінулае, якія помнік транслюе назіральніку (магчымасць інтэрпрэтацыі);
3. прыватныя сентыментальныя пачуцці назіральніка, якія ён экстрапалюе на аб'ект.

Атрактыўнасць помніка — яго здольнасць прыцягваць увагу — гэта найважная характарыстыка як у інфармацыйным, так і ў забаўляльным сэнсе. Атрактыўнасць можа дасягацца двума шляхамі: праз ацэнку вонкавых эстэтычных якасцяў аб'екта (напрыклад, Фарны касцёл і Пакроўскі сабор цалкам раўназначныя паводле сваёй атрактыўнасці) або праз успрыманне гістарычных падзей, звязаных з помнікам (Курган славы або домік Элізы Ажэшкі).

Атрактыўнасць помніка грае розную ролю для гараджан і для прыезджых. З пункту гледжання турыстаў яна з'яўляецца адной з найважнейшых вартасцяў помніка, бо для большасці турыстаў мэта паездкі зводзіцца да простага нязмушанага баўлення вольнага часу. Акрамя таго, вялікая частка прыезджых не карыстаецца паслугамі экскурсаводаў, такім чынам не падвяргаецца ўздзеянню інтэрпрэтацыйных мадэляў, успрымаюць толькі вонкавы бок архітэктурных аб'ектаў.

У нейкай ступені гэта датычыць і гарадзенцаў, незнаёмых з гісторыяй уласнага горада. На большасць сапраўды гістарычных будынкаў абывацелі не звяртаюць ніякай увагі, калі толькі сваім вонкавым выглядам яны не вылучаюцца з асяроддзя. Шараговая, тым больш драўляная забудова, прадстаўленая ў вялікай колькасці, не ўяўляе для іх вялікай цікавасці. Як і для прыезджых, для гараджан

[12] Тут і далей курсівам — вытрымкі з праведзеных аўтарам экспертных інтэрв'ю з гарадзенскімі актывістамі і гісторыкамі.

інтэрпрэтацыйныя высілкі мясцовых гісторыкаў не могуць быць эфектыўныя (яны проста не карыстаюцца іх паслугамі).

Трэба адзначыць, што рэлігійныя збудаванні ва ўспрыняцці помнікаў абывацелем заўсёды апынаюцца ў больш выйгрышным становішчы. Яны камбінуюць эфектнасць вонкавага выгляду і глыбокі асабісты духоўны сэнс (нават безадносна даты пабудовы, архітэктурных асаблівасцяў і г.д.): «*Шараговая забудова ўспрымаецца гарадзенцамі ў лепшым выпадку як дадатак да нашых касцёлаў, цэркваў і замкаў. Ёсць пэўная іерархія ў гэтым*». Зрэшты, шматлікія гарадзенцы таксама не з'яўляюцца сталымі наведвальнікамі сваіх касцёлаў і цэркваў, былі там толькі 1–2 разы, а некаторыя — зусім ніколі.

Ва ўспрыняцці гараджан помнік не павінен выглядаць старым, закінутым. Помнік мусіць быць «прэзентабельным», дагледжаным. «*Дагледжанасць і чысціня*» — сведчанне клопату і павагі, аднак разам з тым неабходнасць яе дасягнення з'яўляецца падставай для выдалення слядоў часу і адпаведна прыкмет узросту з каштоўных будынкаў (напрыклад, дагледжанымі і досыць навюткімі глядзяцца будынкі на вул. Савецкай).

Наогул, звычайна для шараговых жыхароў новае пераважае над старым. Старое (гэта відаць на шматлікіх прыкладах паўсядзённага жыцця) не ўспрымаецца як само па сабе каштоўнае. Яно ўстойліва асацыюецца з негатыўнымі эмоцыямі, заняпадам і г.д. Яшчэ адной ілюстрацыяй гэтага з'яўляецца супастаўленне коштаў на жыллё ў гістарычным цэнтры і на гарадзенскіх ўскрайках. Прааналізаваўшы рэкламныя аб'явы, можна прыйсці да высновы, што ўвесну 2013 г. у Горадні розніца ў коштах складала не больш за 10–20 % пры параўнанні аналагічных кватэр у цэнтры і ўскрайках. Пры гэтым кватэры трохі лепшых спажывецкіх якасцяў у спальных раёнах маглі каштаваць нават даражэй, у параўнанні з прапановамі аналагічнага метражу ў цэнтры: «*У нас жыць у цэнтры не вельмі ганарова. Хоць нейкая прытоеная цікавасць да гэтых аб'ектаў у цэнтры прысутнічае*».

Такая сітуацыя зусім не характэрная для цэнтральна— і заходнееўрапейскіх гарадоў. Паводле брытанскіх даследаванняў, гістарычныя будынкі ўяўляюць сабой «больш багатую крыніцу дабрабыту, чым сучасная архітэктура». ¾ англічан, якія ўпершыню купляюць жыллё, хацелі б мець больш старыя дамы, чым тыя, у якіх яны жылі дагэтуль[13].

[13] Лоуэнталь Д. Прошлое — чужая сторона… С. 585.

Наступны складнік, які дэтэрмінуе ўспрыняцце помніка — гэта трансляваная аб'ектам інфармацыя пра мінулае або тыя «гістарычныя ўспаміны», якія аб'ект выклікае ў назіральніка. Як ужо адзначалася, абсалютная большасць абываценяў не здольныя самастойна «чытаць» старадаўнія будынкі, такім чынам яны не атрымліваюць ад помніка ніякай дакладнай інфармацыі і адпаведна маюць патрэбу ў дапамозе інтэрпрэтатара, які б падказаў ім «правільныя» пытанні і адказы аб мінулым.

Інтэрпрэтацыя ў сваю чаргу найбольш эфектыўная толькі тады, калі яна заснавана на зразумелай і прымальнай мадэлі гісторыі. Для Горадні і Гарадзенскай вобласці ўжо сфармаваліся прынамсі тры інтэрпрэтацыйныя мадэлі, што выкарыстоўваюцца экскурсаводамі: для беларусаў, для расіян (турыстаў з усходніх беларускіх рэгіёнаў) і для палякаў. Суб'ектамі інтэрпрэтацыі выступаюць аўтары гістарычнай літаратуры, артыкулаў, тэлевізійных перадач, але асабліва — экскурсаводы. Дзейнасць экскурсаводаў арыентавана не толькі на турыстаў, але і на саміх гараджан.

Але гэтую дзейнасць ня варта пераацэньваць. У святле ідэйных пераваротаў 1990–х гг. дзейнасць гісторыкаў у вачах абываценя набыла залішне палітызаванае аблічча. Наяўнасць своеасаблівага калейдаскопа поглядаў на мінулае і агульны крызіс гуманітарнай навукі падарвалі ў абываценяў давер да рэпрэзентантаў мінулага наогул, і да экскурсаводаў у прыватнасці. Іх аповед успрымаецца не больш як цікавая версія гістарычнай праўды, не абавязковая да засваення і рэтрансляцыі.

У апошні час сярод беларускіх гісторыкаў вялікую папулярнасць атрымала канцэпцыя «месца памяці» — аб'екта, які акумулюе пэўныя ўяўленні пра мінулае і адначасова з'яўляецца каталізатарам грамадскай салідарнасці. Але ці існуюць тыя месцы памяці для саміх гарадзенцаў і турыстаў? Бадай не. Нам неабходна выразна разумець межы лакальных і нацыянальных дыскурсаў гісторыі. На жаль, «нацыянальныя» месцы памяці (камень «Пагоня на Грунвальд» ля Каложскай царквы або музей Васіля Быкава), як правіла, зусім невядомыя большасці гарадзенцаў. Або, напрыклад, будынкі, звязаныя з гісторыяй падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст., несумнеўна, становяцца для гараджан значнымі аб'ектамі гарадской прасторы, але ж яны не ператвараюцца ў месцы памяці.

Хоць і не ўсё так песімістычна. Можна канстатаваць наяўнасць у горадзе вялікай колькасці лакальных, «пабытавых» месцаў памяці.

Амаль кожны аб'ект у горадзе з'яўляецца месцам памяці для пэўнай групы гараджан. Напрыклад, будынак, дзе размяшчаўся рэстаран «Беласток», «аб'ядноўвае» яго былых наведвальнікаў і адначасова служыць ім напамінам аб савецкім мінулым. Такім побытавым месцам памяці з'яўляецца таксама прывакзальная плошча. Адначасова ў «народнай» свядомасці яна вельмі мала звязана з падзеямі паўстання Кастуся Каліноўскага, пра што напісана на адмысловай шыльдзе, усталяванай каля будынка вакзала.

Эксперты вылучаюць яшчэ такую важную характарыстыку чалавека, як яго здольнасць адчуваць гістарычны час: «*Калі чалавек не адчувае час, ён не можа нават уявіць наколькі даўно адбылася тая ці іншая падзея. XVI ст? Ну і добра... Чалавек проста бярэ пад увагу, але ён гэту інфармацыю проста не здольны ацаніць, зразумець яе значнасць*».

Таксама сярод гарадзенцаў зафіксавана з'ява ўяўнага знаёмства з помнікам, калі ў чалавека, які жыве ў гістарычным асяроддзі і неяк успрымае навакольны інфармацыйны шум, з урыўкаў гістарычнай інфармацыі складаецца адчуванне разумення гісторыі ўласнага горада. Насамрэч гэтыя гістарычныя ўяўленні ўяўныя і могуць быць вельмі далёкія ад рэальнай гісторыі. Цікаўна, што менавіта сярод мясцовых жыхароў нярэдкая рэакцыя адрыньвання на словы экскурсавода: «*Я пра тое, што вы кажаце ніколі ня чуў, значыць гэтага не можа быць*». Менавіта жыхары з'яўляюцца носьбітамі найвялікшай колькасці міфаў і стэрэатыпаў аб ўласным горадзе.

Так мы паступова падышлі да трэцяга складніку ўспрыняцця спадчыны — сентыментальных ўяўленняў чалавека пра самога сябе. У пэўным сэнсе ўспрыняцце спадчыны вызначаецца квінтэсенцыяй усяго жыццёвага досведу грамадзяніна, і яго стаўленне да старых будынкаў можа неаднаразова мяняцца з гадамі. Як адзначае Д. Лоўэнталь, блізкасць па духу застаецца галоўным матывам захавання[14]. Сапраўды, месцы, дзе мы шпацыравалі ў дзяцінстве ці пра якія так патэтычна распавядалася ў гістарычнай кніжцы, ці найсмачнейшыя бабуліны піражкі ў старадаўнім асабняку — вось адпраўныя пункты стаўлення да даўніны. Нават у чужых гарадах людзі шукаюць водгукі роднасных пачуццяў, своеасаблівыя сэнсавыя якары, якія дазваляюць супаставіць чужое асяроддзе з уласным жыццём.

Нельга недаацэньваць і такі аспект як трансфармацыю свядомасці чалавека пад уздзеяннем сучаснага стану грамадства і тэхнічнага

[14] Лоуэнталь Д. Прошлое — чужая сторона… С. 584.

прагрэсу. У сучасным горадзе спадчына — прадукт культуры спажывання (у адрозненне ад канца 1980–х гг., калі ў беларускіх і ўкраінскіх помніках бачылі сродак нацыянальнага адраджэння). Адмысловую ролю ў горадзе граюць тыя аб'екты, якія можна паказваць прыезджым, і якія патэнцыйна могуць прыносіць прыбытак. У адсутнасць прыезджых і гледачоў аб'екты паступова губляюць грамадскую значнасць. Гэта верна і для Горадні, гістарычны цэнтр якой можна ўмоўна падзяліць на некалькі частак: дагледжаны і актуалізаваны турыстычны раён, і ўсё астатняе — забытыя, недагледжаныя, цікавыя толькі вузкаму колу адмыслоўцаў кварталы, абдзеленыя грамадскай увагай (пры гэтым там не меньш каштоўныя з гістарычнага пункта гледжання). Спажывецкая культура выяўляецца і ў тым што спадчына надзяляецца шэрагам чаканых характарыстык: «*Даказаць каштоўнасць будынка цяжэй усяго яго жыхарам. Таму што яны штодня сутыкаюцца з побытавымі праблемамі, і ў гэтым іх жалезная пазіцыя. Яны ж ніякай выгады ад жыцця ў гістарычным доме не адчулі, таму гэта вельмі праблемны сегмент*»; «*Якая ж гэта спадчына? Гэта старая прагнілая хата*».

Бясспрэчны ўплыў інтэрнэту і магчымасцяў вольнага перасоўвання. Новы досвед успрыняцця спадчыны і іншага, нязвыклага культурнага асяроддзя за мяжой уплывае на ўспрыняцце помнікаў уласнага горада дваіста. У большасці выпадкаў — павялічвае гонар за ўласную спадчыну: «*У нас зараз людзі паездзілі ўжо галоўным чынам за мяжу, яны бачылі як можа быць у цэнтры, у Еўропе, дзе ўсё ахоўваецца, і яны пасля вяртання таксама пачынаюць неяк па–іншаму бачыць уласны горад*». У меньшасці выпадкаў — робіць відавочным мізэрнасць уласнай культурнай спадчыны.

## Псіхалагічныя і ідэйныя перадумовы дзейнасці градаабарончага руху

Для таго, каб пачаць градаабарончую дзейнасць, чалавек павінен валодаць вызначанымі функцыянальнымі якасцямі й кампетэнцыямі. Чалавек любой прафесійнай прыналежнасці і займанай пасады працягвае заставацца «абураным грамадзянінам–адзіночкай» датуль, пакуль не пачынае займацца арганізацыйнай дзейнасцю, г.зн. пакуль не пачынае падштурхоўваць іншых людзей да здзяйснення тых ці іншых учынкаў, накіраваных на прадухіленне разбурэння аб'екта. У гэты момант ён пераўтвараецца ў актывіста–арганізатара.

Актывісты–арганізатары, якія займаюцца аховай спадчыны, у адрозненне ад руху «за веласіпедныя дарожкі» або «за развіццё вулічнага мастацтва», успрымаюць сваю дзейнасць у якасці рэалізацыі нацыянальнага інтарэсу. Альтэрнатывай нацыянальнаму інтарэсу можа быць «служэнне» роднаму гораду, які гэтаксама ўспрымаецца ў якасці малой радзімы, надзяляецца ўласным «духам» і г.д. Як піша Барыс Гладараў, «для сцвярджэння значнасці подзвігу асобнага актывіста, які пайшоў пад бульдозер, трэба звязаць яго дзейнасць з якім–небудзь наратывам каштоўнасці і значнасці большага маштабу»[15].

Якім менавіта шляхам людзі самай рознай прафесійнай прыналежнасці прыходзяць звычайна да свядомага публічнага выступу ў градаабарончай сферы? Прыкметай, якая маркіруе «прафесійнага гараджаніна» (патэнцыйнага актывіста любога гарадскога руху), можна лічыць шматграннасць яго/яе практык узаемадзеяння з урбаністычным асяроддзем. Горад для такога чалавека — гэта не толькі шлях ад кватэры да працы плюс некалькі крамаў ды забаўляльных цэнтраў, але ж складаны, часта «жывы» контрагент, з якім можна розным чынам узаемадзейнічаць і «мець зносіны». Тыповы рэпертуар падобных зносін складаюць шпацыры, наведванне публічных месцаў (кавярняў, пешаходныя зоны, месцы тусовак, галерэй і да т.п.), самадзейныя экскурсіі (якія праводзяцца, напрыклад, для іншагародніх сяброў), а таксама сталае «ўгляданне» ў атачальную гарадскую прастору[16]. Пры такім актыўным «спажыванні» горада яго прастора паступова засвойваецца, адбываецца суаднясенне месцаў, будынкаў, гісторыі горада са сваім жыццём. І разам з тым прыходзіць усведамленне таго, што гэтыя пачуцці значныя і для іншых, досвед засваення становіцца падзяляемым досведам[17].

Услед за французскім сацыёлагам Ларанам Тэвена Барыс Гладараў вылучае розныя чыннікі ўцягвання ў грамадскую градаабарончую дзейнасць. У першую чаргу гэта парушэнне так званых «рэжымаў уцягнутасці» жыхароў у гарадское жыццё. Матэрыялы, сабраныя Гладаравым падчас даследавання Санкт–Пецярбургскага руха абаронцаў спадчыны, дазваляюць казаць, што іх актывісты схільныя ўзаемадзейнічаць з гарадской прасторай у трох формах «рэжыму блізкасці»: 1) глыбокае асабістае знаёмства з гарадской прасторай; 2) багацце

[15] Гладарев Б. Историко–культурное наследие Петербурга… С. 182.

[16] Тамсама. С. 157.

[17] Тамсама.

практык выкарыстання (эксперыментавання) з гарадскім асяроддзем (шпацыры, стыхійныя экскурсіі і інш.); 3) звычка да маўклівага сузіральніцтва[18].

У той час як у звычайных людзей у зоне камфорту размяшчаецца асабістая прастора, дом, магчыма праца, шэраг гараджан уключаюць ва ўласную зону гістарычны цэнтр. Ён асацыюецца з выгодай, простым і звыклым ладам, і такім чынам патрабуе клопату, асцярожнага стаўлення і ўвагі. Далей логіка даволі простая: калі хтосьці пачынае здзяйсняць неправамерныя дзеянні ў вашай хаце (вашай зоне камфорту), у адказ ён атрымае як мінімум справядлівае абурэнне. Тое ж самае адбываецца і ў выпадку ўмяшальніцтва ў тканіну гістарычнага цэнтра.

Ахова спадчыны паходзіць з тых жа псіхалагічных механізмаў, што і ахова парадку ва ўласнай кватэры, на ўласнай вуліцы, у працоўным кабінеце. Такім чынам, сучасныя градаабарончыя рухі нічым прынцыпова не адрозніваюцца ад руху эколагаў, якія пратэстуюць супраць высечкі дрэў, руху веласіпедыстаў, што выступаюць за пабудову веладарожак, жыхароў, якія пратэстуюць супраць ушчыльнення забудовы.

Асноўнае адрозненне складаецца ў тэматычнай скіраванасці, а таксама ў тым, што краязнаўцамі і блізкімі да іх людзьмі дадзеныя гістарычныя аб’екты надзяляюцца грамадскай важнасцю, аб’ектывізуюцца праз такія катэгорыі як помнік, спадчына, гісторыка–культурная каштоўнасць (чытай — нацыянальная). Матывы аховы гісторыка–культурнай спадчыны служаць у такім выпадку толькі прыладай для прыцягнення грамадскай увагі да сваёй асабістай праблемы і «вербаванню» новых прыхільнікаў. Бо асабліва калі гаворка вядзецца пра грамадскія прасторы, заўсёды існуе шанец, што гэтыя месцы былі ў «рэжыме блізкасці» яшчэ ў кагосьці, магчыма нават у вялікай колькасці людзей. Адпаведна адной з прыладаў барацьбы з’яўляецца пошук і кансалідацыя такіх людзей: «*Прыходзяць і ўдзельнічаюць у нейкіх грамадскіх мерапрыемствах тыя людзі, якія актыўна цікавяцца горадам і падзеямі, што там адбываюцца. Нават не столькі гісторыяй, колькі сучаснасцю. І калі гэтая сучаснасць злучаная з мінулым, то ім і мінулае цікава. А ёсць людзі сапраўды дасведчаныя ў гісторыі, але яны не вельмі актыўныя, не імкнуцца падзяліцца з іншымі сваімі ведамі, і ў выніку яны не ажыццяўляюць ніякіх адмысловых актыўнасцяў. Вось*

[18] Тамсама. С. 158.

*яны сядзяць і чытаюць інфармацыю ў інтэрнэце ці могуць у прыватнай гутарцы штосьці цікавае паведаміць*». Такім чынам, людзі, якія займаюцца аховай спадчыны, працуюць не столькі з мінулым, колькі з сучаснасцю. Яны зусім не абавязкова з'яўляюцца, як гэта парой уяўляецца ў СМІ, аматарамі гісторыі. Насупраць, гісторыя можа нават не асабліва моцна іх цікавіць, у адрозненне ад рэальных гарадскіх працэсаў, якія адбываюцца тут і цяпер.

Але рэй у такіх градаабарончых рухах усё адно вядуць гісторыкі. Безумоўна, спецыфіка тэматыкі руху — ахова гісторыка–культурнай спадчыны — прадугледжвае адмысловыя адносіны з гісторыяй горада («*Мы калісьці цікавіліся проста гісторыяй горада, ведалі шмат фактаў, перамагалі ў конкурсах краязнаўчых, напрыклад «Я гэтым горадам апекаваны». Але тады гэта ўсё ўспрымалася інакш. А вось калі гэтае гістарычнае асяроддзе пачало знікаць імкліва... Гэта значыць яно і так увесь час сціралася, але тут хуткасць стала вельмі вялікай. Адсюль і абуджэнне нашага актывізму*»). У Горадні менавіта гісторыкі складаюць асноўны касцяк грамадскага руху.

Пры гэтым прафесійная прыналежнасць саміх актывістаў можа быць любой. Часцяком гістарычныя веды патрэбныя ім толькі для больш выразнай артыкуляцыі ўласнай эмацыйнай пазіцыі. Гістарычныя факты могуць быць нават не асновай пратэсту, але толькі дадатковымі аргументамі, што маскіруюць агульную незадаволенасць уварваннем у «зону камфорту». У гэтым сэнсе карысна было б адрозніваць акцыі, дзе барацьба вакол спадчыны складае сутнасць матывацыі грамадзян (калі, напрыклад, рэканструявалі Савецкую плошчу ў 2005 г.) і акцыі, дзе спадчына выступае толькі як фон незадаволенасці (рэгуляванне транспартных плыняў у гарадскім цэнтры). У апошнім выпадку роля гісторыкаў можа застацца кансультатыўнай. Такім чынам, падобныя ініцыятывы з'яўляюцца своеасаблівай кропкай выйсця грамадзянскай актыўнасці людзей.

Што праўда, у Беларусі сітуацыя з любым грамадскім рухам моцна палітызаваная. Гарадзенскіх актывістаў гэта непакоіць: «*У Беларусі ўсе віды грамадскай актыўнасці — веласіпедысты, эколагі, ахоўнікі спадчыны — усё гэта па вялікім рахунку адно і тое ж. Таму што ёсць адкрытая палітыка, за якую цябе б'юць па галаве, прычым літаральна. А ёсць увесь астатні актывізм, за які таксама можна паплаціцца, але пакуль у турму не садзяць*». Сапраўды, менавіта з–за сваёй прынцыповай пазіцыі па абароне шэрагу помнікаў згубілі працу некалькі выкладчыкаў Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэту.

Усе гэтыя псіхалагічныя перадумовы наклаліся на пераасэнсаванне ідэі горада, ідэі сумеснай адказнасці гараджан і функцыянавання лакальных супольнасцяў.

Працэс узнікнення градаабаронччых ініцыятыў з'яўляецца следствам агульных тэндэнцый развіцця грамадскага жыцця ў постсавецкіх краінах. Ахова спадчыны — адно з тэматычных кірункаў гарадскіх сацыяльных рухаў. Ва ўсіх еўрапейскіх гарадах яны функцыянуюць па падобных прынцыпах. Пашырэнне «зоны камфорту» на помнікі спрыяе актывізацыі менавіта гэтага кірунку. Градаабаронцы тым больш актыўныя, чым больш насычаная гістарычнымі аб'ектамі тэрыторыя іх паўсядзённага функцыянавання. Чым большая колькасць гараджан, уключаных у жыццё горада, якія шануюць яго гісторыю, тым больш прыхільнікаў маюць градаабаронцы і тым большы лік патэнцыйных актывістаў. Гэты працэс фактычна немагчыма спыніць.

## Гарадзенскі досвед актуалізацыі спадчыны

Так мы падышлі да апошняга пытання пра тое, ці можна, ведаючы асноўныя ўзроўні і складальнікі ўспрыняцця спадчыны як на экспертным, гэтак і на абывацельскім узроўнях, мэтанакіравана актуалізаваць спадчыну. Ці існуюць такія тэхналогіі актуалізацыі, хто яе ажыццяўляе і на каго павінна быць накіравана гэта дзейнасць?

У перыяд 2006–2012 гг. у Горадні быў прадпрыняты шэраг спроб актуалізацыі перадусім «новай» драўлянай гарадской спадчыны.

Па вялікім рахунку ўся барацьба за горад мае адценне барацьбы за доказ вартасці і значнасці тых ці іншых аб'ектаў. За выключэннем самых выбітных помнікаў асноўны масіў старых гарадзенскіх будынкаў дагэтуль не з'яўляецца агульнапрызнанай спадчынай. Зрэшты, з фармальнага пункта гледжання прагрэс існуе — пераважная колькасць каменных будынкаў старэй за 100 гадоў усё ж валодаюць юрыдычным статусам помніка. Але ж драўляныя будынкі яшчэ не дасягнулі такога ўзроўню прызнання. Таму асноўныя высілкі градаабаронцаў апошнія пяць гадоў былі сканцэнтраваныя на раёне драўлянай забудовы «Новы свет», а таксама на будынках старой электрастанцыі і паравога млына. Апошнія два аб'екты ўсё ж былі знесеныя, а вось працы па дэмантажы будынкаў у Новым свеце замарудзіліся і набылі млявапраяўны характар.

Асноўныя дзеянні, якія здзяйснялі актывісты, гэта папулярызацыя спадчыны сярод гарадзенскай грамадскасці (публікацыі

ў інтэрнэце, артыкулы ў прэсе, выпуск кніжак, здымкі кароткаметражнага фільма), сустрэчы з жыхарамі раёна і арганізацыя грамадскіх мерапрыемстваў (калектыўныя экскурсіі па раёне, фотаплэнер, навуковая канферэнцыя — маштаб іх быў невялікі, аднак дадатковая эфектыўнасць падобных мерапрыемстваў дасягалася за кошт таго, што яны ўяўлялі сабою інфармацыйныя нагоды для гарадскіх СМІ). Нарэшце, былі прадпрынятыя спробы заканадаўчага афармлення аховы. У дадзеным выпадку асноўным ініцыятарам і рухавіком усяго працэсу была група зацікаўленых актывістаў. Сваю дзейнасць яны накіроўвалі на жыхароў раёна, гарадскую грамадскасць і экспертную супольнасць, мясцовую адміністрацыю і нават на рэспубліканскія органы кіравання.

Асноўнае пытанне, якое ўзнікла падчас папулярызацыі, заключалася ў тым, чаму прапанаваныя аб'екты павінны быць пераведзены ў грамадскай свядомасці з разраду трухлявага жылля ў разрад помнікаў гісторыі і культуры. Асновай аргументацыйных стратэгій ахоўнікаў стала трансляцыя ўяўлення пра ідылічнае жыццё ў міжваенны перыяд, падмацаваная аповедамі пра вядомых людзей, біяграфіі якіх так ці інакш злучаны з гэтым раёнам (інтэрпрэтацыйная дзейнасць). У сістэме аргументацыі раён таксама ўяўляўся як нейкае асобнае ад горада мястэчка з адмысловым укладам жыцця («вёска ў горадзе»), што валодае адмысловай эстэтыкай і атрактыўнасцю («рускі мадэрн» і «драўляны канструктывізм»). Такім чынам, былі задзейнічаны ўсе тры разгледжаных у дадзеным артыкуле ўзроўня ўспрыняцця спадчыны.

Была здзейсненая спроба калектыўнага ўсведамлення помніка праз аднаўленне трансляцыі ім пэўнай інфармацыі. У дадзеным выпадку сама па сабе важнасць інфармацыі не мае вялікага значэння. Важны сам акт трансляцыі, бо гэта сутнасць культуры[19]. Таму нават пры адсутнасці відавочных архітэктурных і мастацкіх каштоўнасцяў, культура можа пэўным чынам «навязвацца» аб'екту.

Але ж, нягледзячы на ўсе высілкі, дзейнасць гісторыкаў не ўвянчалася поспехам, і ў раёне працягваюцца перыядычныя зносы (у тым ліку самых яркіх прадстаўнікоў яго архітэктурнага аблічча).

[19] Адно з азначэнняў культуры — як раз трансляцыя.



**Пякарня Любэга (вул. 17 верасня,8). 24.09.2009 г.**
**пажар знішчыў другі паверх, у выніку дом быў знесены.**



**Дом доктара Беклямішава (вул. Астроўскага, 15).**
**Знесены 12 мая 2012 г.**



**Дом інжынера–чыгуначніка Астроўскага (вул. Астроўскага, 24). Рэканструяваны да непазнавальнасці ў 2013 г.**



**Забудова 1930–х гг. на вул. 17 верасня. Паступова нішчыцца.**

У чым могуць складацца асноўныя чыннікі няўдачы? З аднаго боку, аргументацыя актывістаў не знаходзіла відавочнага падмацавання ва ўнутранай каштоўнасці асобных аб’ектаў. Некалькі цікавых з архітэктурнага пункта гледжання драўляных будынкаў не складаюць асноўнай масы забудовы раёна. Большасць будынкаў недастаткова эстэтычныя і недастаткова старыя, каб быць атрактыўнымі для вялікай колькасці людзей. Іншымі словамі, творчая энергія актывістаў «размазвалася» па ўсім раёне, а не канцэнтравалася на асобных сапраўды вельмі каштоўных аб’ектах.

Безумоўна, падчас актуалізацыі істотную ролю адыграла і мэтанакіраванае адміністрацыйнае процідзеянне актывістам з боку гарадской улады. Аднак самае важнае — ініцыятарамі руху былі не ўласнікі жылля, а вонкавая грамадская сіла ў абліччы гісторыкаў. Нягледзячы на шэраг паспяховых сумесных з жыхарамі праектаў, апошнія так і не сталі носьбітамі ідэі захавання кварталаў у імя падтрымання культурнага іміджу горада. Думаю, калі б актывістам удалося па–сапраўднаму ўцягнуць жыхароў у сваю дзейнасць, узровень пратэсту і адпаведна ягонай эфектыўнасці быў бы нашмат вышэйшы.

Нягледзячы на бягучыя паразы, актыўнасць градаабаронцаў усё ж прывяла да таго, што раёну была нададзена значна большая грамадская ўвага, чым перад тым. Шэрагу будынкаў, якія не замінаюць інвестыцыйным планам гарадской адміністрацыі, быў сапраўды нададзены афіцыйны статут гісторыка–культурнай каштоўнасці.

У выніку аналізу прамежкавых вынікаў грамадскай кампаніі можна зрабіць шэраг высноў адносна самага механізму ўсведамлення помніка гараджанамі. Вялікая частка інтэрв’юяваных экспертаў сыходзяцца на наступных этапах усведамлення:

1. стадыя недаверу, калі чалавек сумняецца ў каштоўнасці таго аб’екта, на які звяртаецца яго ўвага;
2. стадыя пошуку рацыянальных пацверджанняў ва ўнутраных каштоўнасцях аб’екту (эстэтыка, аўтэнтычнасць, унікальныя тэхналогіі і г.д.);
3. узмоцненыя разважанні пра аб’екты, усведамленне і прыняцце інтэрпрэтацыйнага ўзроўню аргументацыі;
4. прызнанне каштоўнасці і распаўсюд уяўленняў пра каштоўнасць на аналагічныя аб’екты.

Пэўныя тэрміны прадуктыўнай актуалізацыі спадчыны сярод большасці гараджан назваць практычна немагчыма. Кожны раз яны залежаць ад мноства аб’ектыўных і суб’ектыўных фактараў.

## Высновы

Ахова спадчыны будзе тым больш паспяховая, чым больш пазітыўным з’яўляецца ўспрыняцце помнікаў шырокім колам грамадскасці, чым больш людзей прымаюць помнік як элемент сваёй уласнай зоны камфорту. Да асноўных уласцівасцяў помніка належаць першым чынам яго атрактыўнасць, эстэтыка даўніны і аўтэнтычнасць. Акрамя таго, аб’ект мусіць быць прызнаны важным пасланнем гісторыі.

Уяўленні пра тыя ці іншыя гістарычныя падзеі і сентыментальныя пачуцці гараджан дэтэрмінуюць успрыняцце помніка. Задача інтэрпрэтатараў спадчыны — правільнае іх выкарыстанне для актуалізацыі, пошуку максімальна даступных вобразаў спадчыны. Усталяванне персанальнай сувязі з гледачом — распаўсюджаны, дарэчы, маркетынгавы прыём, які выкарыстоўваецца і ў экскурсійнай дзейнасці. На жаль, гэты доўгі і педантычны працэс актуалізацыі парой падмяняецца больш–менш карэктным інтэрпрэтацыйным сурагатам з вуснаў фармальных і нефармальных экскурсаводаў. Адпаведна іх дзейнасць не можа дасягнуць сапраўды стваральнага эфекту.

Неабходныя інтэрпрэтацыйныя мадэлі досыць проста ўкараніць у свядомасць абывацеля, аднак яны апынаюцца вельмі нядоўгатрывалымі. Без сталай падтрымкі гэтыя мадэлі раствараюцца ў мясцовых трактоўках, спрашчэннях і г.д. З іншага боку, гэтая ж акалічнасць становіцца абаронай ад штучна навязаных канцэптаў гістарычнай памяці. Спадчына, такім чынам, — гэта фактар стабільнасці ў грамадскім жыцці горада, і яе штучнае стварэнне, канструяванне праходзіць вельмі цяжка.

Найбольш прадуктыўнай стратэгіяй для дзейнасці градаабарончага руху бачыцца паступовае нарошчванне сацыяльнага капіталу шляхам правядзення папулярызатарскіх акцый, а таксама паспяховае публічнае выкананне дробных рэстаўрацыйных, градаабарончых і іншых праектаў. Уступленне ў прамую канфрантацыю з прадстаўнікамі ўлады павінна ажыццяўляцца вельмі разлічана.

Большасць гарадзенскіх градаабарончых ініцыятываў не ўвянчалія поспехам. Разам з тым, казаць пра тое, што дзеянні актывістаў не прыносяць ніякага пазітыўнага выніку, таксама не правільна. Актывісты–арганізатары сталі транслятарамі асцярожнага, карэктнага стаўлення да гістарычнага асяроддзя, сталі «абаронцамі інтарэсаў» спадчыны падчас прыняцця рашэнняў па гарадскіх пераўтварэннях, здолелі актуалізаваць яго праблематыку. Сам дыскурс небяспекі



**Дом па вул.Валковіча, 23. Будзе знесены. Як жа шкада…**

і барацьбы, які сыходзіць часам ад «прафесійных» грамадскіх актывістаў, уплывае на фармаванне іншага паўсядзённага стаўлення да спадчыны. Сваімі дзеяннямі яны падштурхнулі масу адмыслоўцаў да глыбейшага асэнсавання пытанняў захавання старой архітэктуры, стымулявалі развіццё рэгіянальнага краязнаўства (апошняе — самы відавочны плён гэтай дзейнасці). Акрамя таго, у плане асабістага развіцця, яны атрымалі навык грамадскай працы, зацвердзілі ўласную жыццёвую пазіцыю.

У гарадах, дзе гісторыка–культурная спадчына складае вялікі адсотак забудовы, градаабаронча рухі практычна невыкараняльныя. Такім чынам, для гарадской адміністрацыі значна прадуктыўней не спрабаваць іх душыць, але шукаць шляхі канструктыўнага дыялогу і супрацоўніцтва.

# Успаміны пра старую Гародню і гарадзенцаў

Па традыцыі друкуем успаміны жыхароў Гародні пра штодзённасць, гараджанаў і падзеі, якія адбываліся ў горадзе. Успаміны друкуюцца ў скарочанным і апрацаваным выглядзе на мове суразмоўцы. Скарачэнні (паўторы, памылкі жывой гутаркі, інфармацыя асабістага кшталту і інш.) пазначаны шматкроп'ем у квадратных дужках — [...]. Сэнсу ўспамінаў яны не змяняюць. У квадратных дужках таксама падаюцца словы, якія былі прапушчаны суразмоўцамі падчас аповеду. Яны дапамагаюць лепш зразумець рэспандэнта.

Успаміны запісаны і падрыхтаваны да друку магістрам гістарычных навук ***Тацянай Касатай.***

## Марцінчык Кацярына Іванаўна (1919 г.н.). Запіс 10 лістапада 2012 г.

(*Нарадзілася ў г. Бельск Падляскі, Польшча. Скончыла польскую школу. Навучалася на акушэрскіх курсах у Варшаве. Да вайны працавала акушэркай ў в. Нараўка, Падляскае ваяводства, Польшча. У 1945 г. выйшла замуж за Мікалая Марцінчыка*[1]*, пераехала ў Гародню. Працавала ў скурна–венералагічным дыспансеры.*)

[1] **Марцінчык Мікалай** (1901, в. Кубельнікі (цяпер Бераставіцкі раён) — 1980 (Гародня) — беларускі грамадска–палітычны дзеяч у Заходняй Беларусі, доктар, публіцыст. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюзу ў 1921 г. Рэдактар часопісу «Студэнцкая думка». Удзельнічаў ва ўстаноўчай канфэрэнцыі па стварэньні БСРГ у 1925 г. у Гданьску. З 1925 г. сакратар, з 1934 г. намеснік старшыні Галоўнай управы ТБШ. У 1927 г. скончыў Віленскі ўніверсітэт. З 1927 г. выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. Выкладаў хімію і анатомію. Адначасова працаваў доктарам у клініцы Віленскага ўніверсітэту. З'яўляўся асабістым доктарам знакамітага беларускага спевака Міхася Забэйды–Суміцкага. У 1927 і 1930 гадах арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1931 г. высланы ў в. Нараўка (Гайнаўскі павет Беластоцкага ваяводства) пад нагляд паліцыі. У 1930–я гг. прэсай КП(б)Б і КПЗБ абвінавачаны ў супрацоўніцтве з польскімі ўладамі, у спробах зьвярнуць ТБШ са шляху нацыянальна–вызваленчай барацьбы. Паступова адышоў ад грамадскай і палітычнай дзейнасці. З 1944 г. галоўны ўрач інфекцыйнай бальніцы ў Гародні. Арыштаваны органамі МДБ у 1948 г. 12 сакавіка 1949 г. прысуджаны да 10 гадоў лагероў. Сасланы ў Варкуту. Там працаваў доктарам у лагерным шпіталі. Рэабілітаваны ў 1956. Вярнуўся ў Гародню; працаваў у абласной больніцы. Пакінуў успаміны.

1919–га [*года нараджэння*]. 92 года! Але, знаеце, я з такой сям'і, што все долгожыцелі. Тут не мая заслуга [*смяецца*]. […] Нас было чэцвера дзецей. Ну, дзве сястры яшчэ ў мене. Я кончыла семілетку ў Польшы, польскую. […] Мая мама была такая акцівістка. Так як і я, любіла такія справы абшчэственныя дзела, не то, што там займалась сваім, і была Коло господынь вейскіх [*польск. Koło Gospodyń Wiejskich — Кола вясковых гаспадынь*]. І вот ана возглавляла тое Коло господынь. І ім прыслалі, што прышліце дзяўчат учыць на акушэрак. І мама мяне паслала ў Варшаву. Я там два года жыла. Знаеце, яшчэ цяпер помню, што жыла на Маршалкоўскай уліцы. […] І я два гады там вучылась. Ну, я так добра ўчылась, што ў мяне былі все отметкі бардзо добрые. Не было чацвёркі, ні тройкі, нічога, все пяцёркі былі. Так, якось мне подабалося эта ўжэ наука […].

Эты доктар, прафесар быў такі Ільінскі, як браў мяне ўжэ. Ну, два года ўжэ канчалась, ужэ нас бралі на пракціку такую. І там кесарэва сечэніе трэба было рабіць. […] То всегда мяне браў, ага. І казаў: «Вот, та пані Катажына, то яна як выложыць інструменты до, ну, до операцыі, а я гляну, і знаю, якія могуць быць комплекацыі, по этых інструментах». Што я настолькі была, прэдвідзела это, понімаеце. […]

Ну, а патом вернулась ужэ з этай школы, двухгадзічнай. І аставіла ў Бельску Падляскім, так работала как акушэрка. […] Доктар ужэ павятовы ў Бельску Падляскім кажа: «Пані, можа захоча паехаць там мястэчко Нарэвка», около Нарвы. […] То, паедзеце туды на работу, там трэбуюць акушэрку. Я гавару: «Паеду». […] Ну, і паехала туды работаць. А там таксамо роддома не было. Была только бальнічка на 20 коек. І доктар, і там тры–чатыры сясцёркі, і фельдшэр, і всё. Ну, і я там пры гэта, пры іх. […] Ну, всегда так добра было, што прынімала тыя роды, і все былі давольны. І там людзі не зналі, як ужэ мяне благадарыць. І там мне падабалась. Ну, і этого, і вот там так я асталась. [*19*]38, 39–ы, 40–ы. […]

Ну, вот тры года ў той Нарэўкі работала акушэркай усё врэмя. Ездзіла па хатам, прымала роды. І всякія былі, і камплекацыі [*польск. komplikacja — ускладненне*] былі вялікія. […]

Пры немцах... […] Прыязджае на санях, […] дзядзька едзе к нам: «Доктарку, доктарку! Спасайце, спасайце! Радзі Бога спасайце». — «Каго спасаць? Дзе спасаць?» — «А во немец». — «То што яго спасаць?!» — дохтар кажа [*смяецца*]. «Ну, пагляньце, пагляньце, спасайце! Я яго прывёз». Аказваецца ён паехаў у лес за хворастам. Ну, і кажа, няма чым печы тапіць, там дзе веткі такія паломаныя, зіма, тут трэшчат эты

дзерэв'я. Ён назбіраў таго хворосту. І папаўся яму леснічы. […] Ну, Андэрс яго фамілія была. І той Андэрс, значыт, крычаў на яго, што ён связь з парцізанамі меў у лес. «Ты связь з парцізанамі!». Ён кажа: «Не–не, дзядзько, што Вы! Я этого, тока во налажыў сані хворосту і нідзе там ніякіх парцізан не бачыў». […] А то пушча там Беловежска тая, знаеце, цягнулась бесконечно. Ну, а ён, значыць, а ён, у іх руж'я такія, ну, велькія, руж'ё ў того леснічэго. Ён узяў тое руж'ё і яго прыкладом б'е того дзядзьку: «А, ты врэш! Ты лжэж! Ты быў з парцізанам». І пару раз, разоў тры, кажа, хлопнуў. А тое руж'ё выстраліла яму ў жывот [*смяецца*]. Ну, і прывёз, ну, он того ж немца. Пажылы такі, стары ўжэ немец і, значыць, тут пачці […] без памяці, відна, боль там. […] Ну, і мы тутай пабеглі сразу тут нашы санітары забралі яго на насілкі, палажылі там. А той доктар паглядзеў і кажа мне: «Вы яму зрабіце перэвязку, а я пазваню ў Белавежу, шоб доктар прыехаў, шоб яго забралі. Бо, — кажа, — тут ён у нас сканае, то яшчэ будуць чэпляцца». Ну, і пайшоў ён званіць у тую Белавежу. А я яму перавязку раблю. Бачу кусочак кішкі вылазіць, я той пінцэтом тую кішку засунула [*смяецца*]. А мне такое злосць на яго. А чаму злосць? Ён ляжаў на насілках і рукі так звешаны [*паказвае*]. А я думаю, кіну я яго рукі сюды на, шоб бліжэй на ём былі. Адну павернула, другую. А на руцэ ў яго пяць пярсцёнкаў. І то рубіновы, то […] брылянтавы, і всё в золаце. Пяць пярсцёнкаў! Я як гляну, і думаю, от, холера, мусі з жыдоў набраў. А якраз тады іх істрэблялі гэтых жыдоў [*смяецца*]. І ўжэ такое зло мне на яго было. Але, знаеце, в тот час не прыйшо ў голову, каб я, он жа ж безладны. Я магла зняць хоць адзін пярсцёнак. Я не зняла [*з гонарам у голасе*]. Всё асталась. Ну, такая ўжэ совесць такая была ў чалавека. […]

Прыйшоў ён ужэ эты доктар, дазваніўся, зараз прыедут за нім. Ну, і кажа: «Ты, — на таго дзядзьку, — ты сразу едзь дахаты і не кажы жонцы, што ты прывозіў нам немца, і ні жонцы, і нікому на вёсцы, нікому не кажы! Бо то, потом цябе обвінят. Ідзі, едзь моўча, набяры хваросту і едзь». І ён паехаў. І кажа мне: «О, это ёсць настаяшчы беларус! Ён не кінуў, — кажа, — раненаго, а прывёз, […] это тока наш, — кажа, — беларускі чалавек так можа зрабіць» [*смяецца*]. […]

Мы хацелі ўезжаць стуль. Ну, нас і так з Нарэўкі выселілі. Немцы прыйшлі. У нас быў рэнтген. […] І ён [*доктар*] выпісваў яго з Германіі, прысылалі чэрэз Варшаву, і счета всё. Ён выплачывал, там на пару лет ужэ выплачывал. Рэнтген канфіскавалі немцы. А нас выселілі. Сказалі, выселяйцесь з Нарэвкі, ана слішком блізко до лесу. І вы будзеце мець связь з парцізанамі. І в Белавеж, в Белавеж. То […] ён паселілся

в Белавежы, доктар. А я паехала да сваіх бацькоў. Мы растались. Работалі разам і так прывязаліcь. Але патом ужэ сталі [*смяецца*] мужам і жэной. […]

Слухайце, какое ўхажіваніе было?! Вайна! Вечна ўсе нервы тропят. То немцы, то бальшавікі, то палякі. […] Мы ж тока зналі, што адбівацца [*смяецца*]. А адбіваліcь всё, знаеце, дабром. Всё людзям добра рабілі. Всё стараліcь. Як хто не меў, то этого, там чым заплаціць, вот, дапусцім, доктару. […] Бачыць, што ён там такі: «Не трэба ніякай платы і так добра, прымем Вас і всё». […]

Прыйшла, эта самае, якось летом эта. І думаю, ужэ в сенцябрэ [*1944 г.*] паеду, а там ужэ нада паступаць [*у Варшаву*]. […] Палучаю пісьмо атсюда з Гродна. Ну, і піша мне пісьмо, што я, па-беларуску ўжэ он [*Мікалай Марцінчык*], я прыязджаю па, да Вас і па Вас [*смяецца*]. […]

Ну, і прыязджае. А я якраз в агародзе памідоры выбірала. […] Бачу, ідзе Мікалай Міхайлавіч. Ну, там прывіталісь, всё. А ён ужэ быў знакомы з маімі бацькамі. Раней ездзіў да нас, як я брата, хворы быў, […], то ён ездзіў нам там трошку памагаў і в лячэнні, прывозіў там медзікаменты. […] Ну, і значыць, пайшлі мы ў хату. Ну, і ён мне кажа, што, кажа, паедзем са мною, пажэнімся, всё–такі ўжо. А я кажу, што не, я ўжэ падала ў медінсцітут, і ўжэ меня там прымут і ўсё. «Ну, што, і в Гродно тожэ медінсцітут кажуць, што адкрыюць, — ешчо не адкрыты быў, — але гавораць, што ўжэ адкрыюць медінсцітут і там паступіш». Ну, ну, не знаю. Ну, селі мы за стол. […] І сідзім. […] А до гэтого, як сядаць за стол, ён кажа, што скажы бацькам, што ты выходзіш замуж за мяне. А я кажу: «То як это я буду гаварыць, што я выхожу замуж?!» [*смяецца*]. Во, бачыце, як беларусы. А ён кажа: «Ну, я, ну, то што мне?». Кажу: «Ну, пэўна. Ну, гавары, як хочаш». Ну, і ён ужо сказаў, што я, вот забіраю Кацю, паедзем в Гродно і, значыт, мы там ужэ пажэнімся і ўсё такое. Ну, бацькі кажуць, як яна хоча. Ужэ мама, то схітрыла, што ўжэ тут не будзем вазражаць. А бацько надто не хацеў. Дажэ плакаўся […]. Мусіць прэдчустваваў, што тутай будзе так у нас не вельмі добра, сладко жыцце ў мяне [*ціхім голасам*]. Ну, і значыць, паехалі. […]

Ну, прыехала в 45–м годзе, так. Патом, значыт, ужэ чэрэз год радзіўся ў мене сын. А, і я ўжэ зноў бярэменная была другім сынам […].Ён [*муж*] надта дбаў пра мяне так: «Там я дастаў пуцёвку ў Друскенікі. Паедзеш?» […] Ён заехаў, у часніка наняў кварціру і паселіў там. […] І там ужэ я пабыла–пабыла на том курорце і ўжэ трэба было ехаць у Гродно. Едзем мы в Гродно. Прыйшлі ў хату. І входзят за намі два эці самые, НКВДзісты і арыставалі мужа. […]

Ну, і забралі яго. А я асталась з двумя дзяцьмі. Ну, то племянніца жыла, і маці яго жыла з намі. 15 лет я жыла са свекроў'ю. Мы ні разу не паругаліcь. Чэсна слова. Прывёз он […] тую маму. […] Прывёз её сюда. А я гавару, што: «Фёкла Васільеўна, разрэшыце мне Вас мамай звать». А яна кажа: «Знаеш што, разрэшу як заслужаш». А мне так то непрыемна было, знаеце, я [*смяецца*] думаю сабе, бачыш як, яшчэ заслужыць мне трэба. То недарам, што твой сын выбраў мене, я ж не [*смяецца*]. Ну, але нічога, я не ставілась. І віду не паказала. І там спачатку не хацелась мне так называць, думаю, то і не буду, як я не заслужыла. А патом ужэ тая бяда нас аб'яднала. Бачу, яна ўсё плача, бядуе, всё–такі сын і вывучыўся, і то, всё.

Ён [*Мікалай Марцінчык*] учыўся з Генюшам. […] Генюш Іван. То з тым Іванам на адном курсе былі, з Генюшам. Ну, кажа: «Генюшу прысылалі грошы, а мае не мелі грошы, прысылалі мне сухары з хлеба. Чорны хлеб пеклі і прысылалі сухары». Там, в Вільнусе, как учыл [*вучыліся*]. І кажа, то ён, а ён за грошы пойдзе ласункі, то шакаладку, то якось пірожнае, то тое–сёе быстра растрэзвоніт і нема. А патом кажа, слухай, Мікола, можа ешчо ў цябе сухары [*смяецца*]. Вот, кажа, я яму сухары даваў [*смяецца*]. […]

Патом з Генюшамі то мы дружылі, но то потым было. Я тут яе і адведвала в бальніцы, і всё такое.

Но, но, но спачатку, як арэставалі. Ой, быў такі палкоўнік Салосенко. Ён з Украіны. І ён надто мне спачуваў. Мусі, знаў, што мы такія не вінаватыя […]. І ён часто так эта наведаваўся да мяне. А яшчэ было так, што якісьці міліцыянер прызнаў, што ў нас тры пакоі было, тры комнаты по 20 метраў, усё вялікія такія, там дом бальшой был. […] Прыйшоў, прынёс якуюсьць там стол, ці там крэсла, і: «Я ў вас адну комнату забіраю». Проста так аб'яўляе. Ну, бач міліцыянер, так ён можа, да. А я доўга не думаючы, і не спорыла з ім, што не мае правоў, к Салосенко [*смяецца*]. Бежу ў тое НКВД і […] так сказала такімі славамі, як я цяпер гавару, кажу: «Вы мяне абідзелі, то Вы меня і выручайце». — «А што такое?» — «О, — гавару, — міліцыянер прыйшоў і паселіўся, паселяецца ў мяне ў комнаце. А я, — кажу, — яшчэ мужа жду адтуль». А ён яшчэ ў Мінске сідзіт, мой муж. І он: «Ідзём!» Сразу кінуў всё і пайшлі. Пайшлі і выселіў яго в маменце: «Выбірайцесь!» А ён там стаў гаварыць, што вот, ана же сем'я рэпрэсіраванага. «Не тваё дзела, што рэпрэсіраваная. […] Он не осуждзённы, не знаеш, можэт ешчо вернуцца» і прочэе, і прочэе. «Ухадзі і всё». І выселіў яго, таго. Ну, і зноў мы сталі ў тых трох пакоях жыць пака там, а патом

ужэ Облздраваддзел там вмешаўся, ужэ ў нас дзве [*пакоі*] аднялі. І ўжэ мы толькі в адной. То в адной комнаце 20–ці метровай жылі я, двое дзецей, племянніца, свекроў. Пяць чалавек, мы жылі в адной комнаце восем лет! І нічога, жылі [*смяецца*].

Но я, правда, мне было абідно, што я была очэнь харошай акушэркай, я это любіла і знала. [...] Ну, але ж это ніхто не ацэніў. Усе баялісь, што мужа пасадзілі [...]. Пайшла ў первую бальніцу, думаю, тут мне блізко, ужэ медсестрой хаця бы. Тожэ нету места. А патом ужэ мне папало так, што в кожвен, кожвендзіспансер. Там былі места. Туды ніхто [*не*] ішоў. І я туды ўладкавалась. І не шкадую. Бо я работала в фізіокабінеце. [...] Всё это я досканально ізучыла. Ну, і этого, і сразу там так меня ацэнілі. [...]

А я была прэдседацелем месткома нашэго [*смяецца*]. Яшчэ вела касу взаімапомошчы, на мне была. Ну, там кто–то давал грошы, хто хацел. Всякіе людзі, сочуственные былі, после вайны, беднота эта. Ну, і я каму, преждзе чем даць камусь там ссуду якую, ці там бесплатную, ці такую, то я праведаю яго. Пабываю ў хаце, пагляджу якія ўсловія і тады ўжо даю, о! [...]

Такое актыўнае жыццё. То быў такі прэдседацель, этых самых прафсаюзаў, Чайка. То он той Чайка, ну, рабіў налёты такіе на бальніцы там і прыйшоў да нас і правяраў у нас тожэ, дзела нашы, там всё такое. І всё ўдзівляецца — ой, какой порядок! [...] Ну, у парцію мяне не бралі, потому што ўжэ тут... [...]. Ну, то я і не стрэмілась. [...]

І я тые восем лет, што была без мужа, я там стала проста такой акцівной. Я была в ізбірацельной камісіі эта по выборам. Там жа выбары рабілі першы раз тут на Беларусі ў нас. А я спісывала людзей на ўліцэ, тут вот за касцёлам Фарным [*вуліца Карла Маркса*]. [...] Ну, спіскі запісала для галасаванія. Не было яшчэ, то первы раз это голосаваніе было. [...] Я пашла спісываць. А там всё такіе, то польская фамілія і, значыт, то эці самые, еврэйскіе. І ва двор так, і всё. [...] Всех я там спісала іх. [...] І яны ніхто не прыйшоў галасаваць. І на мяне напалі. А я гавару, то вы праверце раньшэ, гдзе яны дзеваліся эці людзі. Так сразу, вот падумала, што як жа ж так?! Гавару, чаго вы нападаеце на мяне, што плохо агітацыю вяла, што я там то, сё [*смяецца*]. А пайшлі правяраць, а яны і еврэі павыехалі в Ізраіль, а палякі паехалі ў Польшчу і там нікога няма. А насялілісь зусем другіе людзі. А тые не считалі нужным ісці галасаваць, вот і всё. І так мяне апраўдалі. [...]

Ну, як стары город тут, што всё тые касцёлы, то всё то было. [...] Но мне Гродно, сам город Гродно вельмі падабаўся. Ён такі, там вот Бельск Подляскі той, Белосточчына, то ўсё такое нізкае і просто. [...] Роўны ландшафт. А тут всё то гара, то ўверх [*смяецца*], то ўніз. І мне то подабалось. Бо, дапусцім, вот взяць Лермонтова ўліцу от поліклінікі, вот тутай. Які бы то дождж не ішоў, моцны, урыўны, лье, як, не знаю, як з ведра, сцячэ нармально і... А ён той цячэ па ўліцы і сцячэ на Віленскую ўліцу і нема, і сухо. [...] І в любой уліцэ так, патаму што всё такое. [...] Ну, то мне падабалася это такое. Ну, і само Гродно. Я тутай такой бяды мела... Ну, много, родные мужа помагалі. [...]

Ну, пад намі ж Сакалоўскіе такіе жылі. Ну, яны палякі. Але яны, вот, эта пані Стася [...] бывала кажа, дзісяй не будзем там на машыне шыць і штось такое рабіць, бо пані Марцінчыкова мае свенто. [...] То тожэ ж святчыць, што культурна жэншчына была. [...]

З Карпюком, сябравалі. Часто, ну, я не скажу, што там мы бывалі. [...] Ну, перэзваніваліcь, гаварылі і больш нічога такога. [...] Памятаю тое, што я, не знаю, куды і для чаго, то неважно, я в тралейбусе ехала і ён, ну, і прывітаўся са мной: «Добры дзень!» — «Добры дзень!» Людзей пално, мы стаім. Ага, а ён кажа: «Я чуў, што Нікалай Міхайлавіч памёр». Я кажу: «Так, памёр». «То якога ж чорта, Вы мне не сказалі?!» [*смяецца*] І так на весь гэты тралейбус. [...] «Якога ж чорта Вы мне не сказалі?! Я б напісаў пра яго в газету». В «Гродненскую правду». Можэ там некролаг, ці спачуванні там всё. [...] Танк выслаў спачуванне. Па-беларуску такое прыслалі на почце. Патом, хто ешчо? Ну, Геніюш, то ўжэ. З Вільна выслалі Зоська Верас. [...] Ну, мы добра з ей кантачыліcь. І Нікалай Міхайлавіч нават [...] памагаў трошку так мацерыяльна, як гаварыцца. Он заедзе, я то сначала не знала, але там быў там такі лесочак около Вільно. І яна ў том лесе жыла. Хатка такая была. Ну, я там ездзіла нескалькі раз. Ну, мы заедзем, там прадуктаў завязем, всё. [...]

Нікалай Міхайлавіч тожэ быў, Беларусь то ў яго прэвышэ всяго, это ўжэ всё такое, вот. Нават як скажаж што-небудзь, там што-небудзь такое [...], «то не мог зрабіць такое дзела беларус, то ўжэ якісьці там расіянін» [*смяецца*], ці яшчэ які, кажа, беларус не будзе так. [...] «Што палякі мяне считаюць, палякі так пашчыталі, што я камуніст. Ну, які я камуніст? Я не камуніст, я талстовец!» [*смяецца*] [...]

Эты Салосенко, полковнік [...] звоніт мне, што: «Вы далжны паехаць в Мінск і завезці мужу Вашему там пальто цёплае, шапку там, всё цёплае. Его в Варкуту высылаюць». Ну, і я тут жэ спакавалась і ўжэ этого еду. А кажу, а гдзе мне ехаць? — У Мінск. Ён у Мінске. Заехала



**Дом на вул. Лермантава, дзе жыла сям'я Марцінчыкаў. Фотаздымак 2014 г.**

в Мінск. Здала эты, пасылку. Прынялі всё, там адзежу і такое, што там яму […] на передачу. Ну, і абутак. А пытаю того ўжэ дзежурнага, што прымаў, гавару, мне бы б хацелась бы, жэ бы встрэціцца з начальнікам ГБ [*КДБ*]. Цанаву. Цанава яго фамілія. А ён гаворыць, харашо, я сейчас спрашу. Спрасіў там, дзесь перэзваніў, выбег у другую комнату. І прыйшоў, кажа, ну, сказалі, штоб Вы ішлі, вот в такую–та комнату. Ну, і пайшла, захожу я да яго: «Здрасце!» — «Здрасце». Ну, я кажу, што я вот жэна Марцінчыка, каторага высылают, што прынесла адзежду. […] Ну, садзіцесь, сейчас пагаварым. Я слышал, што ў Вас есць в Польше родственнікі. А я гавару, есць. Ну, што я скажу нема?! «Может Вы хаціце ў Польшу паехаць?» […] Думаю сабе, як жа ж я ў Польшу паеду. Я езджу ў Берестовіцу, у меня, не дают мне пропуск (тагда было ў Берестовіцу заехаць нада было пропуск палучаць в міліцыі). І мне не давалі. […] Патаму што я сем'я рэпрэсіраванага. Ну, і думаю, то в Берестовіцу не прымают, а в Польшу меня пусцят. Што ж эта будзет?! А я гавару: «Знаеце, што я бы, еслі бы Вы мне прэдлажылі ехаць в Варкуту, к мужу, то я бы паехала». «Ха–ха–ха!» Смяецца. «А Вы знаеце, што эта такое Варкута?» Я гавару: «Ну, знаю, што там места ссыльнае, но жывут всякіе людзі. Можа і я бы там жыла. Всё–такі былі б разам». А он гаварыт: «То што Вы не знаеце, што Вы сваіх дзецей на пагібель туда павезёце?!» Я гавару: «Ну, я, зачэм шчытаць, што на пагібель. Я шчытаю, што яшчэ і муж мой вернёцца». — «Ну, харашо». І гавару ему:

«Ехалі ж нашы дзекабрысты... в Сібір, жоны к дзекабрыстам ехалі, не баялісь». А он: «Ха–ха–ха! Так эта ж памешчыкі. А Вы хто?» А я: «Ну, а што я? Ноль што лі?» — «Ну, ладно, ідзіце». […] А, я кажу, дайце мне яшчэ з ім павідацца. […] Не даў, езжайце дамой і ўсё. І так я паехала.

## Сальвясюк Казімір Якубавіч (1922 г.н.). Запіс 9 сакавіка 2014 г.

(*Нарадзіўся ў мястэчку Індура, Гарадзенскі р–н. Скончыў 3 класы польскай школы. У 1939 г. працаваў ў г. Асавец, Падляскае ваяводства, Польшча. У гэты час родзічаў выслалі ў Казахстан. Падчас вайны знаходзіўся ў Гародні. З 1948 па 1977 гг. працаваў на лесапрамысловасці ў г. Асбест, Свярдлоўская вобл., Расія. У 1977 г. вярнуўся ў Гародню*)

Я проживал всё время, детство у меня прошло возле зоопарк вот эта улица, там, как считать, ну, помещика этого, помещика эти и первое время мы там проживали в эти, там были дома, за зоопарком улица, я не знаю как она сейчас называется улица. А после оттуда переехали по–моему [*19*]31–й год, уже переехали на улица Нарутовича, Держиньского сейчас. Не, первое время на Советской проживали мы, в еврейском доме, он разбомблён. Там сейчас универмаг акурат стоит, универмаг. Я как проживал... Семья у нас была большая. […] Семь человек было нас. Отец умер у мяне в [*19*]36–м году. С матерью проживали мы. Две, ну, как две сестры и нас четверо было. И трое так — Юзик, Витек, Янэк и я, четверо нас было и две сестры, шесть человек, и мать — семь человек. Проживали до, если честно говорить, проживали до, ну, [*19*]39–го года, а в начале [*19*]40–го года мою мать, сестру, брата вывезли в Казахстан. Из Казахстана они только вернулись в Польшу в [*19*]46–м году. А я уже проживал, с [*19*]48–го года проживал в Свердловской области город Асбест, Свердловской область, ну, од Свердловска проживал до [*19*]77–го года там. А в 77–м году обратно приехал сюда в Гродно. […] Мы очень плохо жили. Токо то, что брат был офицером, то он помагал, такие, что там вот сейчас там ещё возле этого дома культуры, ещё это здание есть, это домовая кухня была там. Там, там питались. На обеды ходили, ну, в дневное там они питались, я пару раз ходил тоже кушать там. […] Мать вообще не рабатал [*не работала*], такой семьёй как могла она работать, шесть было. […] А отец я не, не помню. На железной дороге по–моему работал он до 36–го года когда умер. Учился, ну, если говорить учёба моя, я учился. Фамилии [*настаўнікаў*] то и сейчас помню, некоторые

фамилии, которые... Шкуто, он умер уже давно. После Коженевский. Пухальский жили вот, где банк сейчас там эти, там их родители даже этого Пухальского. Отец уезжал в Америку там работал в Америке, после вернулся. Вот такая жизнь была. С Польши очень уезжало много в Америки [*Амерыку*]. Жизнь была тяжёлая при Польши. Это, ну, бедно будем говорить. Эти, которые, ну, как, я называю их жидами [*смяецца*], еврэи. У нас нет в литературе, вы нигде не найдёте «евреи» слово, только жид, жидовско. [...] У нас не было слова, допустим, «русский» или там другие нации. Вот только жидовская. А русские — это православные у нас было. Они в церковь ходили. Я, допустим, католик в костёл ходили. [...] У нас было уроки католические, ксёндз, обязательно урок был католической веры. А там больше есть, ну, как сказать, литература, ну, учили как всех в школах. Ну, учить, если честно будем говорить, знания намного больше учили, чем в настоящее время. У нас семь класс если кончаешь, это уже всё, после семи класс три года ещё учишься уже магистра мог получить звание, всё это. Гимназия это уже была высшая. Как и институты сейчас, гимназия. Гимназия 8 класс. [...]

Да, поляк [*па нацыянальнасці*]. А беларусы у нас не было, национальности у нас такой не было. [...] Откуда Вы взяли беларусы в то время. Беларусы никто у нас не было то, что беларус. У нас православный было. Вера православная и католическая, и жидовская. Потому что, ну, немцев тут, здесь жили, тоже даже кирха эта немецкая стоит за парком там. А у нас такого не было, что беларусы [*смяецца*]. [...] Беларусы появились уже при, даже при советской власти у нас такой как Беларусь, мы никто, ну, Беларусь появилась советская, как советы вот сюда вошли, будем говорить, республика уже Беларуская с [*19*]39–го года. [...]

[*У 1939 годзе*] Ну, они [*савецкае войска*] проходили здесь свободно. Допустим, по Гродно тут никаких сражений не было. Они прошли через Гродно, так и шли пешком. Даже я, в то время мы, когда бомбёжка была, то каждый [...] уходили, потому что попадали бомбы на Гродно. Здесь вот костёл гарнизоновый вот этот польский [*Фара Вітаўта*], он уничтожен, разбомблён был, ну, не полностью там. При советах был там, ну, там, ну, так склады будем говорить. [*Як выглядалі чырвонаармейцы*] Ой! Даже неудобно говорить этих слов. [...] Они были вообще, солдаты были в ботинках обмётки на эти [*смяецца*] как сапоги, там сапоги шли, гимнастёрка. Обмундирование то стало, когда, будем говорить, стали американцы, англичане помогать во время войны. Так что... В [*19*]39–м я работал на крепости [*у г. Асавец–Крэпасць, Падляскае ваяводства*],

[*19*]39–й год, ну, перед самой войной там. А эвакуировали, а я когда вернулся с Ровно, вот здесь, и через месяца три по–моему, не помню точно, месяца три — родителей вывезли. А так как меня дома не было, я так и остался. Я уехал, уехал… […] Потому что боялся, я уехал в Россию после и там работал. [*Чаму вывезлі?*] А я не могу сказать точно. По–моему, за это, что брат был офицер. Поэтому. […]

Ну, между прочим, в кино то я ходил, конечно, тут было по улице, сейчас она Социалистическая, а там была кинотеатр, он и сейчас, в настоящее время в этом стоит. После кинотеатр был в Гродно по... Жидовский, его нету, кинотеатр был, где памятник Элизы Ожешковой, там сейчас клуб шахматный стоит, здание то деревянное, оно уничтожено. Ну, снесли. […] Любимый [*фільм*] был, это было у меня «Знахорь» польский, это самый любимый. Потому что там жизнь вся показывается его. Фильмов как ходили после, ну, немцев, то здесь уже как ходили, но мало, я вообще не ходил. Так что не знаю. Боялись эти, чтоб не... Потому что вывозили в Германию да всё, так что, немцы. […] Страх. Выживание было, между прочим. Каждый старался как–то, чем мог, тем и выживал. Если кто поступал у немцев на работу, то те получали и карточки всё у немцев, питались, всё нормально. А так на выживание. То ходили менять по деревням, если одежду или что там деньги, пакупали больше у деревенских. […] Ездили, кто занимался, у меня, допустим, брат, который был здесь старше меня с [*19*]14–го года он, то он был на железной дороге, работал помощник […] машиниста. А мы в то время, я то сам лично ездил и в Вильнюс, и в Ново–Вилейку, ну, возили там питьевую соду, соль даже, табак, махорку это, ну, и были эти. Потому что там, здесь можно было достать с плантаций этих, были тут, которые вывозили. Ну, у немца складов воровали, а, ну, и в этих мешках вывозили в Вильнюс там продавали. Ну, заработки большие были. Можно было жить, вот так. […]

[*У Польшчы да вайны*] заработки то были не плохие, кто работал, если постоянно на работе, то зарплаты государственных там были очень большая зарплата. А так работы такие там на дорогах, да всё, эти зарплата там 3 злотых в день получали, 3–4 злотых. А это считать 2 килограмма, ну, сало купить можно было. У нас дорогое было сало — 2 злотых. Ну, вообще продукты были дорогие при Польше. При Польше жил, кто работал, только хорошо, на государственных работах. И постоянно работы, которые мастера тут, тут частное было всё исключительно. Там сапожники, портные, эти хорошо зарабатывали. […]



**Скрыжаванне сучасных вуліц Дзяржынскага і 17 верасня, дзе меркавана знаходзілася крама «Касмандаль». Фотаздымак з архіва Яд ва–Шэм.**

Мы последнее время вот это проживали по Держиньского, где сейчас 10–я школа стоит, а за 10–й школой там здание было приватная гимназия, вот там вот жил я. И акурат, что я говорил, вот эти пограничников, которые там вот эти проходы были, акурат, эти [*падзямеллі*]. Как–то я раз или два спускался. Вообще–то страшно, что... […]

Я был [*навучаўся*] в приватной Коминьской, потому мы жили и она меня, ну, когда были там три года, три года с чем–то я там. А потом платить нечем было. […]

В 6 лет [*калі было 6 гадоў*] мы переехали на Советскую, Доминиканьскую. […] Вот там жидовский дом и то жили не то, что такая квартира, ну, по–польски сутэрэнни называли. […] Комнаты, две большие, сутэрэнни было большая. Потому что тут после там было уже первые дни, по–моему, когда в 39–м году зашли советы, то тут ресторанчик ещё был там в эти, где универмаг стоит, жидовский. Он там разбомбило его. […]

Газета это была «Дзенник кресовы» тоже по Советской, друкарня как по–польски. Ну, типография. […] И там большинство жидовские магазины, вся улица, это вся жидовская была. […] Крестьяньский

[*хрысціянскі*] это был магазин один, вот, 1–го мая угол, 1–го мая и Держиньского «Юдшенка» назывался. То он что–то не очень много, как при моей памяти года два и всё он не стал, закрыл, потому что обанкротился. Все жидовские магазины, они цены снижали такие, если магазин открывает, он обязательно в этом, если польском магазине, к примеру я говорю, если злотый, то он где–то на 10 грошей, там 15, 20 он ниже спускал. Поэтому большинство шли к жидовским магазинам. Польских магазинов очень мало было. […] Продуктовый был, так это «Юдшенка» в магазине. […] Это название его было «Юдшенка» помню. А эти два магазина, вот, эти по этой же улице два магазина «Любич», «Касмандаль», там жидовские тоже продуктовые магазины. […]

[*Пагромы*] единичные, только единичные, один только был. В то время когда моряка убили. Ну... […] Ну, когда моряка убили в эти на танцах там он с жидовкой этой, ну будем говорить, потому что как танцевал. Ну, а за это его убили, а после на третий день здесь приехали с Гдыни моряки польские даже, приехала часть. Ну, и после похорон с этой с Антона [вул. Антонава] там же польское, с польского кладбища как пошли его и тут начали эти магазины там. […] Ну, вот шли с этого, ну, как витрины, ну, выбивали. А там так, чтобы грабёж такой, как грабежа не было, а уничтожения эти. Ну, после этого государство вынуждено было оплачивать этим всем. Такой закон был. А многих там, не многих, но я точно не могу сказать, сколько там пасадили или что, не могу сказать. […]




**Крамы пасля антыгабрэйскага пагрому ў Гародні, 1935 г. Фотаздымак з архіва Яд ва–Шэм.**

Когда пришли немцы, их [*габрэяў*] сразу начали в гетто, их. Первоначально это по Антоново улице первое гетто. А когда после открыли второе гетто по Олега Кошевого, открыли, то оттуда с, с Антонова их вывезли первых сразу в вагоны и в Освенцим. А вторых уже с этих это уже начали вывозить за год партиями, за год до, ну, до освобождения Гродно, вывезли последних тоже для уничтожения. […] Немцы не любили жидов. И тем более, если мне приходилось даже встречать, как, ну, жид […] как идёт по тротуару, то он не имел права даже ходить по тротуару. Они, если которых водили, у них была звезда спереди и сзади и подписано внизу «юдэн» [*ням. Juden*], подписывали эти. Он должен был перед немцем, который, ну, оставались такие как на работу, более учёных таких. […] Охраняемо оно [*гета*] не особенно было. Но были как полицаи могут, будем говорить, были на только воротах. Там по внутри я не видел этого, ходили они там внутри. А здесь охраняли. Если войти туда в гетто, также само наказывали сразу, или расстреливать, не расстреливали, а в тюрьмы сажали. Нельзя же было им помогать. Но торговля шла. Крепко проходили. Многие и жиды, которые выходили, то они меняли одежду свою. Даже были такие вещи я как помню, ценности, там часы, или что–нибудь с этими, меняли всё на продукты, на масло, там сало, то эти, ну, продукты. Это я хорошо, видел всё это. Их выводили тоже некоторых жидов на работу. Так что вот эти и меняли всё, выносили. А туда если попасть к нему, попадёшь, то хочешь в лагерь или [*смяецца*] куда–нибудь. […]

Я любитель был, я любитель тенниса. Корты теннисные даже были вот эти, где по Держиньского, вот, где школа десята. Она, акурат, здесь, клуб стоял, это вот, где десята школа там клуб «Кресовия». Был футбольный клуб. Он не только в эти, там. А дальше там было так, два, четыре корта теннисных, эти там. И я даже в теннис играл. Спортом как, по молодости каждый любил. Тем более на футбол любитель был ходить. Так что это... Что это там 15 — 16 лет это же сама такая спортивная, каждый любил спорт. И тем более, если честно говоря, при Польше было спортсменов больше, чем в России. Спорт, моё мнение такое. Потому что спорт был развит всё время. […] Ходил на футбольные, ну, я сейчас, на жидовские, то я не любитель был [*смяецца*] ходить. Потому что там, вот как я сейчас, вот, вспомнил, вот это жидовский клуб «Маккаби», это был первого класса, как считались. А «Крафт» вот этот был это второго. Это он тут не приезжали, как местный клуб, этот «Крафт». Все матчи были на, где Захарова

стадион... […] Это и стадион ВКСа, как он назывался. Вукаэс, Войсковы клуб спортовы — Вукаэс [польск. Wojskowy klub sportowy, wukaes].

Я, я, если я по молодости, то даже мы лодку прицепляли на шнур к пароходу и [*смяецца*] ехали в лодке, потому что там платить надо было. А после отцеплялись и даже до меловых гор, вот как и сейчас там пляж хороший был. Там и купались. А после прицепляли до ту же лодку и возвращались [*смяецца*]. […]

[*Кінатэатр*] «Полония» [«*Чырвоная зорка*»] после открылась ещё, по–моему, нет, этого я не помню. Знаю, что тут ещё был по Советской возле универмага, возле Белостока тут, там был ещё кинотеатр. […] Это Ожешко возле клуба вот жидовский кинотеатр, деревянное здание. […] Если честно говорить, в этот кинотеатр мы старались ходить бесплатно. Один идёт [*смяецца*] покупает по билету, а после, ну, ходили там четыре человека, пять зайдёт покупит, а нас открывает дверь с крючка сзади, где выпускали. С той строны мы заходили, когда начинается. Даже, ну, без денег, чтоб не платить. Это вот ходил там. […] Чистый [*кінатэатр*] это был вот это за костёлом, вот этот сразу эти и по Социалистической. А тут этот как жидовский, это там грязно было. А эти, то чисто были. Ещё одну вещь такую вспоминаю, как по детстве в «Красной звезде» мы когда заходили, то мы старались, вот эти, которые жиды ходили с бородами, то мы запускали пуговицы в бороду и смотришь через, на второй день уже бороды половины нету [*смяецца*]. […]

Прекрасно помню, как и сейчас при Польше назывались кайзерка по–польски, ну, булочка такая маленькая, кайзерка. Она если утром свежу берёшь — пять грошей, а уже после обеда — 4 гроша. Уже на один грош дешевле. Вот такие. Ну, заходить, ещё одну вещь по молодости помню, потому что тяжело. У этого же самого Любича, там они магазин по Держиньского, а тут 17 сентября как входить вот с этой стороны там у него стояли бочки, селёдка в бочках. Вот тут даже, честно говоря [*смяецца*], ходил даже наворовать [*смяецца*] селёдку. Вот это так, ну, по молодости. […]

[*У 1944 годзе*] знали, что уже идут, русские идут. А убегать... Это я знаю, что даже немцы по Неману плыли мёртвые и русские. Откуда, там они перед городом, по–видимому, эти. А так у нас тут не было почти... Там перестрелка очень маленькая была на Советской площади там, перад костёлами там несколько трупов было немецких. Боялись ходить, что Вы, когда входили, тоже немцы отступали. Каждый старался, скрывались. […] Сразу тут же, когда немцы отступили, на

Советской площади двоих вешали, одного немца и первого, а на второй день, на второй, или на третий день, не помню, украинца, вроде, как его, говорили, бандер или как. Советы. Первого немца, вот, это я прекрасно и сам лично видел своими глазами. Оно, знаете, где вот этот разбомблённый костёл был, вот, машина как с этого, с парка, вот это, с театра этого, были там суд состоялся. Его вывезли на машине, привезли к Советской площади, там акурат, много людей смотрели. Приехали, машина остановилась. Он ещё, и всё это я помню очень хорошо, как он ещё попросился, чтоб его отпустили помолиться. Его к этому костёлу разбитому подвели его, он на колени стал, помолился и поднялся, обратно его к машине с связанными руками. Это когда развязывали, а после связали, поставили его к машине, это я сам лично всё видел, и как петлю повесили, машина тронулась и он висел. Висельница стояла тут, возле этого... И через день, или два, вот это я, украинца вешали тут же на этом месте. Вот это я хорошо помню. А тут мне уже такое при входе здесь вот не, особого таких не в памяти. Оно забылось, потому что, знаете, всё плохое, вот такое запоминается, а так остальное... […]

Матэрыял аб успамінах Казіміра Сальвесюка можна таксама прачытаць на сайце «Твой стыль»: Кулевіч Руслан. Ведай сваіх! Частка V: Успаміны Дзеда Казіка пра гарадзенскае дэрбі і пагромы // http://www.t–styl.info/by/116/history/12384/

# Крыніцы

**Андрэй Ціхаміраў, магістр культуралогіі (Гродна)**

## «Гродзенскія лісты» Рыгора Кулжынскага: вопыт інтэрпрэтацыі

Гістарычныя ўяўленні пра прастору могуць служыць выдатным маркерам таго, як самыя розныя грамадствы разумелі «ідэальную» айчыну і якім чынам адгароджваліся ад іншых чалавечых супольнасцей. «Ментальныя мапы» амаль заўсёды не супадалі з існуючымі дзяржаўнымі, адміністрацыйнымі і іншымі межамі. У XIX стагоддзі разам з развіццём нацыянальнай свядомасці і з’яўленнем «масавай палітыкі» дзяржаўныя межы паступова станавіліся перашкодай для атаясамлення народа з пэўнай тэрыторыяй, бо вельмі часта адзін народ жыў нават у некалькіх дзяржавах. Апрача ўласна этнічных межаў існавалі асаблівыя формы «ўяўленых» тэрыторый, якія існавалі толькі ў свядомасці невялікага кола людзей — як правіла, высокаадукаваных, якія пры гэтым мелі ўплыў на ўладу.

Сярод самых розных «уяўленых» земляў у нашай частцы Еўропы ў XIX ст. з’явілася таксама «Заходняя Расія» (ці «Заходняя Русь»). Уласна гэтае паняцце з’явілася значна раней за вядомую ў пазнейшым часе ідэалагічную і светапоглядную плынь, якая атрымала назву «заходнерусізму»: прынамсі ўжо ў першай палове XIX ст. шматлікія аўтары, якія пісалі на расійскай мове, актыўна ўжывалі яго для азначэння пэўнай тэрыторыі, нават мовы насельнікаў гэтага краю.

Падзеі 60–х гадоў XIX ст. — адмена прыгону, ліберальныя рэформы ў Расійскай імперыі і асабліва паўстанне 1863–1864 гадоў выклікалі зразумелую цікавасць імперскай публікі да беларуска–літоўскіх губерняў. На фоне гэтай цікавасці і разам з «дзяржаўнай ўвагай» да гэтай тэрыторыі для часткі мясцовай інтэлігенцыі, якая ўжо паспела атрымаць выхаванне ў сістэме расійскай асветы, пачаўся вельмі важны час для самаўсведамлення і актыўнага ўключэння ў грамадскае жыццё імперыі. З часам гэтыя людзі пачалі ўсведамляць сваю

ідэйную еднасць і падабенства сваіх мэтаў, а таксама мэтанакіравана пашырацць свае ўяўленні пра мінулае і сучасны стан земляў «Заходняй Расіі» праз прэсу, адукацыю і ўплывы на ўладныя структуры. Цяпер мы ведаем іх перадусім як «заходнерусаў» — прыхільнікаў даволі спецыфічнай і па сутнасці «гібрыднай» формы самасвядомасці[1], якая спалучала ў сабе адназначную адданасць расійскай дзяржаве, расійскай мове і культуры з выразнай цікавасцю да «рэгіянальных асаблівасцей» беларускіх, літоўскіх, украінскіх земляў. Адзін з такіх дзеячаў — Аляксандр Мілавідаў, які жыў на пачатку XX ст. у Вільні, перыяд 60–х гадоў нават назваў «западно–русским возрождением шестидесятых годов»[2]. У ягоным разуменні ўвесь комплекс дзяржаўных і грамадскіх намаганняў імперыі разам з адмысловымі рэпрэсіямі, русіфікацыяй і іншымі каланізацыйнымі практыкамі быў менавіта «адраджэннем спрадвечнай сутнасці» гэтага краю.

Цікава, што большасць вядомых «заходнерускіх» дзеячоў паходзіла з тагачаснай Гродзенскай губерні. Прадстаўнікі гістарыяграфічнай школы гэтага напрамку — Міхаіл Каяловіч, Платон Жуковіч і Канстанцін Харламповіч нарадзіліся ў невялічкіх мясцінах і атрымалі перадусім духоўную асвету ў выразным антывестэрнізацыйным стылі.

Апрача іх да «заходнерускай» плыні можна аднесці цэлы шэраг аўтараў розных перыядычных выданняў, сярод якіх выразна вылучаецца «Вестник западной России» (першапачаткова, у 1862–1864 гадах выдаваўся пад назвай «Вестник юго–западной и западной России»). Часопіс быў заснаваны Ксенафонтам Гаворскім у Кіеве, а з 1864 і да 1871 году выдаваўся ў Вільні[3]. Апрача самых розных матэрыялаў (перадусім на гістарычную, рэлігійную і сацыяльную тэматыку) рэдакцыя друкавала ў тым ліку лісты сваіх чытачоў — якія, такім чынам, таксама станавіліся аўтарамі і дазваляюць прасачыць больш аўтэнтычныя «галасы эпохі».

Сярод аўтараў часопісу другой паловы 60–х гадоў XIX ст. варта звярнуць ўвагу на постаць Рыгора Кулжынскага. Для мяне гэта даволі

---

[1] V. Symaniec, La construction idéologique slave orientale. Langues, races et nations dans la Russie du XIXe siècle, Paris 2012, p. 415–431.

[2] Vilniaus Universiteto Biblioteka, Rankraščių Skyrius (Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта, аддзел рукапісаў), sygn. F36–AM65, А. И. Миловидов, Заметки из эпохи западно–русского возрождения шестидесятых годов, l. 1

[3] Больш падрабязна гл.: С. Кузняева, «Вестник западной России»// Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, Т. 2, Мінск, 1994, с. 252–253; А. Цьвікевіч, «Западно–руссизм». Нарысы з гісторыі грамадзскай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в., Менск, 1993, с. 17–39.

загадкавы аўтар, пра біяграфію якога амаль нічога невядома. Хутчэй за ўсё ён быў сынам святара са Слабадской Украіны (сярод некаторых допісаў можна заўважыць, што месцам адпраўкі некаторых лістоў быў горад Нежын Чарнігаўскай губерні — вядомы на той час культурны і адукацыйны цэнтр). Некаторыя крыніцы пералічваюць ягоны псеўданім (Гр. К–ий) і пазначаюць, што ён быў этнографам 1860–1870–х гадоў і памёр не раней 1913 года[4]. Для мінуўшчыны нашага гораду Рыгор Кулжынскі не з'яўляецца нейкай значнай асобай, хутчэй за ўсё ён правёў у Гродне толькі вельмі кароткі час (магчыма, што толькі некалькі месяцаў 1866 г.). Аднак апублікаваныя ў двух нумарах «Вестника западной России» за 1865–1866 гг. «Гродненские письма» Рыгора Кулжынскага могуць быць цікавымі сведчаннямі.

У 1866 г. для большасці імперскіх чыноўнікаў, літаратараў, журналістаў, святароў усё яшчэ жывымі былі падзеі паўстання, і гэта моцна адбівалася на публікаваных тэкстах, нават нягледзячы на цэнзуру. У выпадку лістоў Р. Кулжынскага гэты псіхалагічны ўхіл не такі выразны, і можна сказаць, што ён стараецца пісаць пра Гродна як чалавек, які толькі нядаўна сюды прыехаў і не мае выразных эмацыйных сувязей з месцам.

У першым лісце (6 лютага 1866 г.) ён піша пра назву горада і выразна адзначае, што яна мае польскае паходжанне, пры гэтым, аднак, «масса народа» называе горад «Городней»[5]. Далей аўтар разважае пра характар «польскай назвы», адзначае яе штучнасць і тое, што яна з'яўляецца спосабам «заціранння» спрадвечных «древле–русских» назваў (падобна да Вільні і Коўна), а таксама спосабам змены народнай памяці і асабліва маладога пакалення. Варта адзначыць, што для Р. Кулжынскага найбольш высунутымі на захад гарадамі «Заходняй Расіі» выступаюць Варшава і Рыга (у большасці выпадкаў, напрыклад, у тлумачэнні М. Каяловіча гэтыя гарады не ўключаліся ў гэты абшар[6]). Далей ідзе даволі цмяны і трошкі недарэчны фрагмент пра тое, чаму назва Варшавы не была змененая палякамі на назву з канчаткам на *о* (верагодна, тут на падабенства назвы да Wilno і Grodno, але аўтар не быў вельмі абазнаны ў філалогіі).

---

[4] Фундаментальная электронная библиотека Русская литература и фольклор, http://feb–web.ru/feb/masanov/man/05/man08931.htm (апошняе наведванне 28.04.2014)

[5] Г. Кулжинский, Гродненские письма. I // Вестник западной России. Год IV, 1865–1866, книжка VII, том III, отд. IV, Вильна, 1866, с. 69.

[6] М. Коялович, О расселении племён западного края России, Москва, 1863, с. 7.

Цікава, што дастаткова доўгія развагі Р. Кулжынскага вакол назвы «Горадня» і адназначнае прызнанне за ёй «сапраўдна–рускай» назвы не вядуць да лагічнай тут думкі пра тое, што назву гораду варта было б змяніць. Але аўтар на гэтым спыняецца і, толькі трошкі выкарыстоўваючы эзопаву мову, заўважае: «нам же, русским, да ещё из западной окраины, *теперь* много значит и верное древнее название города... Оно обращает наш умственный взор в глубь времён и, по выражению покойного Гоголя, вызывает на размышление»[7]. Верагодна, нягледзячы на ўсё захапленне народнымі назвамі і фальклорам, уваходзіць у такую выразную кампетэнцыю дзяржавы аўтар не захацеў.

Другая частка першага ліста прысвечана апісанню праваслаўных цэркваў гораду. Р. Кулжынскі пералічвае ўсе 11 царкоўных прастолаў гораду (у тым ліку цэрквы на могілках і ў турме) і з выразным непакоем і здзіўленнем адзначае, што царкоўныя спевы пастаўленыя на вельмі нізкім узроўні (адзінае выключэнне — жаночы манастыр, дзе «хотя и мало поющих, за то поют стройно и задушевно»[8]). Іншай выразнай праблемай для аўтара была адсутнасць ранішніх абедняў і ютрані: «здесь раньше 10 часов никогда не начинаются обедни»[9]. Гэтыя моманты, якія зараз з перспектывы часу могуць здавацца нейкімі нязначнымі дробязямі, для веруючай асобы таго часу маглі быць выразнай праблемай, нават да такой ступені, што пра гэта варта было напісаць у лісце ў часопіс. Для Р. Кулжынскага, які паходзіў з украінскіх земляў і верагодна, захаваў нейкую форму «маларасійскай ідэнтычнасці» рэаліі Гродна маглі здавацца іншымі, верагодна таксама неадпаведнымі «чыстаму» ўяўленню пра рускасць гэтых земляў. Іншыя прадстаўнікі імперыі, якія прыязджалі сюды, пачувалі сябе ў шмат разоў горш псіхалагічна, і пра гэта сведчаць іх карэспандэнцыя, успаміны і іншыя крыніцы.

Іншым важным момантам у царкоўным жыцці для Кулжынскага сталася памяць пра ўніяцкае (грэка–каталіцкае) вызнанне, элементы якога ў побыце, народнай памяці і нават літургіі выразна захаваліся таксама ў 60–я гады. Пішучы пра чытанне падчас набажэнства, аўтар зазначае, што апрача добрых прыкладаў ёсць і «*печальные исключения, но не в среде причётников, а только между старыми ех–унитскими священниками, которые жительствуют в монастыре, в составе его братий. Слушая их чтение, так и переносишься мышленно в м.*

[7] Г. Кулжинский, Гродненские письма. I // Вестник западной России. Год IV, 1865–1866, книжка VII, том III, отд. IV, Вильна, 1866, с. 70–71.

[8] Тамсама, с. 71.

[9] Тамсама, с. 71.

*Жировицы — этот светоч униятского просвещения на весь северо-запад Руси, в былые времена, где, как говорят, учили читать по словянски, но с польскими ударениями. Вообразите, читатель, как это выходило и выходит курьёзно! Но что было, то прошло; нечего, стало быть, и винить отживающих свой век заштатных старичков*»[10]. З аднаго боку для аўтара гэта сведчанне толькі мінулага (у ягоных катэгорыях нават вельмі далёкага — што канешне няпраўда, бо ўнія была ліквідаваная толькі 27 год да гэтага), з іншага — напамін пра канкурэнтнае веравызнанне.

Наяўнасць праваслаўных цэркваў напэўна спрыяла таму, што Кулжынскі апазнаваў Гродна ў якасці «свайго месца», аднак той факт, што ў большасці выпадкаў гэтыя цэрквы былі размешчаныя ў былых каталіцкіх касцёлах (выразнае сведчанне рэпрэсіўнай палітыкі пасля паўстанняў) не пакідаў сумневаў у сутнасці гэтых зменаў: «*по внешнему виду, почти все гродненские церкви, за исключением женского монастыря, — сущие костёлы*»[11].

Апошнім акцэнтам першага ліста, з якім вырашыла пазнаёміць чытачоў рэдакцыя, быў адмысловы верш (хутчэй за ўсё аўтарства самога Кулжынскага) які пачынаецца са словаў «*Люблю я искренно наш край...*». Для аўтара «Заходняя Русь» прадстаўлена тут ў дваістай форме — як родная краіна, якая поўная старажытных памятак, схаваных пад вялікім пластом «варожай» культуры, якую сімвалізуе «пальшчызна» і «папізм». Антыпольскія і антыкаталіцкія пасажы характэрныя практычна для кожнай публікацыі «Вестника», і Кулжынскі тут канешне не з’яўляецца выключэннем. Дадаткова ў вершаванай форме можна знайсці і выразны антыяўрэйскі момант: «*но грянул гром на старину.../ Ляхи, жиды... вся эта грязь,/ Перекалечили страну...*»[12]. Спалучэнне польскасці і габрэйскасці ў якасці «ворагаў» і «саюзнікаў» супраць «славянства» і «праваслаўя» былі вельмі характэрным элементам рыторыкі часопісу і іншых публікацый «заходнерускай» плыні.

Другі «гродзенскі ліст» (ад 1 сакавіка 1866 г.) быў прысвечаны ўжо зусім іншаму сюжэту. Відочна, што да пераезду ў Гродна Р. Кулжынскі жыў на поўдні Мінскай губерні і займаўся там у тым ліку аматарскімі этнаграфічнымі даследаваннямі. Большая частка ліста прысвечаная

[10] Тамсама, с. 71.

[11] Тамсама, с. 72.

[12] Г. Кулжинский, Отрывок из письма// Вестник западной России. Год IV, 1865–1866, книжка VII, том III, отд. IV, Вильна, 1866, с. 72.

народным вершаваным паданням пра святога Георгія (Юр'я). «Вестнік» надрукаваў дзве «народныя легенды» «Святы Юры» і «Святы Ягорый»[13] з цікавым некананічным сюжэтам на мяжы паганскай і хрысціянскай традыцыі. Уласна пра Гродна ў другім лісце нічога няма. Адным з цікавых момантаў можа быць тое, што апісваючы дзейнасць Пачаўскай лаўры (на мяжы Валыні і Галіцыі), Кулжынскі зазначыў, што падчас прыналежнасці гэтага кляштара базыліянам яны выдавалі спецыяльныя зборнікі песнапенняў і паданняў (тзв. «богагласнікі»). Але па версіі аўтара рабілі гэта з пэўнай «варожай» мэтай: «*замечу кстати, что базилиане вносили в эти «Богогласники» песни и своего произведения, в чисто католическом духе, с подделкой под народный лад, и безсовестно искажали текст действительно народных песен, навязывая им свои тенденции. И эти Богогласники они пускали в массу, чтобы отравленною ими духовно–народную поэзию привить народу догму и мораль папизма*»[14]. Нават у такім невялікім тэксце на этнаграфічную тэматыку аўтар хацеў паказаць сваістую «ерархію» веравызнанняў, а шырэй — «цывілізацыйных выбараў».

Апрача вышэйзгаданых тэкстаў Рыгор Кулжынскі таксама апублікаваў у «Вестнике» два драматычныя творы «Пред мятежом. Драма в 4–х действиях»[15] і «На юго–западе. Комедия в 3–х действиях»[16]. Мне невядома, ці гэтыя творы дачакаліся тэатральнай пастаноўкі, ці можа выкарыстоўваліся іншым чынам.

Постаць Рыгора Кулжынскага напэўна патрабуе далейшага даследавання, ўдакладнення біяграфічных звестак і больш шырокага вывучэння ягоных тэкстаў. Можна часткова пагадзіцца з меркаваннем, што шматлікія тэксты аўтараў «Вестника западной России» мелі выразныя рысы дылетанцтва і нават графаманіі, але варта звянуць на іх увагу як важную крыніцу для рэканструкцыі падзей другой паловы XIX ст. і асабліва грамадскай думкі.

«Гродзенскія лісты» Рыгора Кулжынскага пры ўсёй «фрагментарнасці ўражання» з'яўляюцца цікавым прыкладам «сімвалічнага

---

[13] Г. Кулжинский, Гродненские письма. II // Вестник западной России. Год IV, 1865–1866, книжка VIII, том III, отд. IV, Вильна, 1866, с. 174–179.

[14] Тамсама, с. 179.

[15] Г. Кулжинский, Пред мятежом. Драма в 4–х действиях // Вестник западной России. Год IV, 1865–1866, книжка IX, том III, отд. IV, Вильна, 1866, с. 223–250.

[16] Г. Кулжинский, На юго–западе. Комедия в 3–х действиях // Вестник западной России. Год IV, 1865–1866, книжка X, том IV, отд. IV, Вильна, 1866, с. 1–32.

прысваення» гарадской прасторы[17] «заходнерускімі» дзеячамі 60–х гадоў XIX ст. «Вестник западной России» надрукаваў амаль у той самы час цікавую і амаль піянерскую на той час «Историческую монографию г. Гродно» Паўла Баброўскага і шэраг іншых цікавых тэкстаў[18]. Як здаецца, такія спосабы паказаць па сутнасці новую для сябе прастору — і адначасна, апазнаць у ёй сваё, роднае і важнае могуць паўплываць на нашае разуменне мінулага.

**Григорий Кулжинский**

# Гродненские письма. I[19]

Очутившись в Гродне, в качестве ея жителя, берусь за перо, чтобы поделиться с прежними читателями своими впечатлениями и знакомить своих великорусских и малорусских соотечественников с тем, что небезынтересно знать им касательно здешнего края.

Прежде всего, по приезде в этот город, меня заставило задуматься самое имя его. Сельские жители Гродненской губернии называют это город не *Гродном*, а *Городней*, точно также как черниговцы называют один из своих уездных городов: *Городня* и только, что ж это значит, что интеллигенция твердит «Гродно», а *масса народа* говорит «Городня»? Кто из них прав? Заглянем как в «*Повести времянных лет*» и посмотрим, нет ли там чего–нибудь пригодного к разрешению этого вопроса? Есть, есть! Можем радостно воскликнуть! В Ипатьевской летописи, во II томе, под 1120 годом, упоминается об одном князе Всеволоде Давидовиче, который положительно, буквально назван *Городненским*, а не Гродненским... Это обстоятельство доказывает, как 2Х2=4, что ещё в начале XII века наш город назывался *Городнею*, а не Гродном.

[17] Шырэй на тэму сімвалічнага прысвойвання гарадской прасторы на прыкладзе Коўна, Вільні і Клайпеды ў XX ст. гл.: D. Mačulis, A. Nikžentaitis, V. Safronovas, L'appropriation symbolique d'une ville multiculturelle: le cas de Kaunas, Klaipėda et Vilnius // Revue germanique international, 2010, nr 11, p. 41–60.

[18] Больш на гэтую тэму гл. невялікі артыкул Аляксандра Літвінскага: А. У. Літвінскі, Гродна і Гродзеншчына ў працах гісторыкаў–заходнерусістаў // Гродна і гродзенцы: дзевяць стагоддзяў гісторыі (да 880–годдзя горада): матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, навук. рэд. І. П. Крэнь, Гродна, 2008, с. 98–101.

[19] Друкуецца з выкарыстаннем сучаснай арфаграфіі, з захаваннем асаблівасцей аўтарскага стылю паводле: Г. Кулжинский, Гродненские письма. I // Вестник западной России. Год IV, 1865–1866, книжка VII, том III, отд. IV, Вильна, 1866, с. 69–72.

Сельские жители до сих пор сохранили в своих устах это имя, летопись Ипатьевская тоже согласна с народною памятью, народным преданием... Откуда же взялось «Гродно» вместо *Городни*? Увы и ах! Это явление объясняется очень просто: оно есть дело рук наших благоприятелей поляков, желавших положить на всём древле–русском штемпель польщизны... Трудно ведь *хлопов* (это быдло, т.е. животное по ксендзовским и панским понятиям) заставить говорить вместо славяно–русского имени «Городня» хоть, например, Казимежовка или какой–нибудь Грудек и пр.т. под., гораздо легче было ляхам поступить в этом случае так: исковеркать русское слово на нерусский лад, и концы в воду. Вот и породились: «Вильно, Ковно, Гродно» вместо Вильны, Ковны, Городни и т.д. Любопытно знать однако, почему два конечные пункты в западной России Варшава и Рига, не изменили своих окончаний на *о*?... Это произошло, без сомнения от того, что в Варшаве, и без коверканья имени города, пропал славянский элемент. Про Варшаву теперь никто не скажет, что она родной уже нам славяно–православный город... А вот, чтобы в городах и городках соседней к Польше Западной России стушевать славяно–русское начало, пущены были в ход издавна разные приёмы ополяченья, между которыми непоследнее место занимает и коверканье чисто–древле русских имён городов и сёл на не–русский лад[20]. Нельзя было вырвать из уст, из памяти народа затверженных имён, нельзя было переиначить *города* в *miasto*, так нужно было выбросить характерную гласную, — из города сделать *grodek*, как Новогрудек или *Grodno*. Так исковеркано и название «Городских книг», в которых заявлялись разные акты, жалобы и проч., которые в документах везде называнные *гродскими*, и даже, для большего уродства *кегородскими*. Пусть, дескать, молодое поколение убеждается, что это древняя Польска, а не Русь, пусть молодое поколение не только Великой, Малой и Белой России, но даже Польши и западной Европы с детства заучивает нерусские имена городов и замечательных сёл зап. России! Ведь известно, что не всё молодое поколение будет на столько исторически развито и любознательно, что станет разоблачать ложь... Большинство молодого поколения вырастет с заученными, исковерканными именами городов зап.[адной] России... Из молодого поколения делается немолодое; а между этим последним

[20] Ежели угодно редакции, то в следующих *Гродненских письмах* постараюсь посильно изобразить как вытеснялся православно–русский элемент из западно–русских городов, помимо гонений за веру. Весьма будем благодарны (Ред.) [заўвага аўтара і рэдакцыі]

явится якобы общественное мнение, потом сочувствие к *угнетённой невинности*, во имя гуманности, прогресса и т.д. и т.д. Понятно ли, гг. читатели?...

В Риге не было польщизны. Там пришлый, немецкий элемент издавна затеял радикальную германизацию края, не считая даже нужным обращать внимание на названия городов и сёл. Немцы, говорят, философы... Вот, вероятно, они по своему решили так:

«Что имя? — звук пустой!»

Давай–ка, мы примемся за вещи по–важнее имён; задумали немцы... и действительно принялись...

Нам же русским, да ещё из западной окраины, *теперь* много значит и верное древнее название города... Оно обращает наш умственный взор в глубь времён и, по выражению покойного Гоголя, вызывает на размышление...

Вот первое моё гродненское впечатление. Теперь поговорим о здешних церквах и вообще о церковности, что в этом краю составляет особенно важный предмет. Пока не вышла ещё «Памятная книжка Гродненской губ. на 1866 год», обещающая поделиться собранными ея редактором сведениями о бывших древле–православных церквах в Гродне, мы воздержимся от сообщения своих заметок по этому предмету и ограничимся беседою о теперешних наших гродненских церквах. В настоящее время, в Гродне два монастыря: мужской и женский. В первом и во втором по две церкви; в соборе также две церкви. Кроме их есть ещё следующия: *Предтеченская*, при архиерейском доме, *Георгиевская* при военном госпитале, полковая, тюремная и кладбищенская. Всех престолов в Гродне 11, всех священноиереев 15. Но, к великому прискорбию в Гродне положительно никогда не бывает ранних обедней и утрени по–утру; между тем слышно, что в Варшаве даже, где так мало русских, бывают ранние обедни по воскресным и праздничным дням. Здесь раньше 10 часов никогда не начинаются обедни. Пение здесь вообще неудовлетворительное; приятное исключение в этом отношении составляет женский монастырь, где хотя и мало поющих, за то поют стройно и задушевно. Церковное чтение находится на образцовой степени: желать лучшего, значит прихотничать. В Гродне нельзя сказать словами Грибоедова: «читай не так, как пономарь», потому что здесь дьячки, и даже пономари читают прекрасно. Бывают печальные исключения, но не в среде причётников, а только между старыми ех–унитскими священниками, которые

жительствуют в монастыре, в составе его братий. Слушая их чтение, так и переносишься мышленно в м. *Жировицы* — этот светоч униятского просвещения на весь северо–запад Руси, в былые времена, где, как говорят, учили читать по–славянски, но с польскими ударениями. Вообразите, читатель, как это выходило и выходит курьёзно! Но что было, то прошло; нечего, стало быть, и винить отживающих свой век заштатных старичков. Все нынешние церкви в Гродне, за исключением немногих, устроены не так давно, некоторые из них помещены в закрытых монастырях латинских.

По внешнему виду, почти все гродненские церкви, за исключением женского монастыря, — сущие костёлы. Ах если бы им возможно было сообщить византийско–русскую наружность, — а особенно, если б было обращено больше внимания на те священные места, на которых были в древности православные церкви в Гродне и на которых и теперь мерзость и запустение. Однако о церковной стороне после. Теперь ставлю пока точку.

6 февраля 1866 года, Гродна

**Григорий Кулжинский**

**Отрывок из письма[21]**

Люблю я искренно наш край,
Северо–Западную Русь,
Старинной жизни новый строй,
Которым только и любуюсь...
Здесь, что ни шаг, то старина,
Остатки древности родной...
Но эта целая страна
Под вражьей ведь была рукой;

[21] Друкуецца з выкарыстаннем сучаснай арфаграфіі, з захаваннем асаблівасцей аўтарскага стылю паводле: Г. Кулжинский, Отрывок из письма// Вестник западной России. Год IV, 1865–1866, книжка VII, том III, отд. IV, Вильна, 1866, с. 72–73.

Не удивляйтесь же, что здесь
Ксендзы наставили каплиц:
Обман, лукавство, сила, лесть
Из этих сыпались бойниц!...
Прошли века, и много чад
Из православия в костёл,
Ксендзы с ляхами зауряд,
Перетащили... Кто пошёл,
Кто плавал в собственной крови
И православным умирал
Среди сочувственной толпы
Которой веру завещал...
Века прошли, и полонизм
Наделал много зла стране,
И «*человеческий*» папизм
Губил страну с ним на–равне...
Припомним Туров и Мозырь,
И Петриков, Борысов, Пинск,
Иль, наконец и самый Минск!
Всё было там: иль в полный клир,
Иль был и властвовал там князь...
Но грянул гром на старину...
Ляхи, жиды... вся эта грязь,
Перекалечили страну...
Теперь ко многому следа
Днём с фонарём уж не найдёшь;
Но после долгого труда
На правду–инде попадёшь.

8 февраля 1866 г.
г. Гродна

**Аляксандр Радзюк,**
**кандыдат гістарычных навук (Гродна)**

# Гімназічныя атэстаты Івана і Антона Луцкевічаў

Нягледзячы на тое, што лёс братоў Луцкевічаў быў у асноўным звязаны з такімі цэнтрамі як Мінск, Вільня, Пецярбург, Масква, Варшава, былі ў іх біяграфіі старонкі звязаныя з Горадняй. У розныя перыяды свайго жыцця кожны з іх наведваў горад над Нёманам.

Першым пабываў у нашым горадзе Іван Луцкевіч. Адбылося гэта ў лютым 1911 г. Ён быў адмыслова запрошаны на беларускую вечарыну, што ладзілася беларускай моладдзю горада. Адпаведныя ўражанні аб горадзе і самой імпрэзе сталі падставай для пазнейшай публікацыі ў «Нашай Ніве»[1].

Што тычыцца Антона Луцкевіча, то лёс прывёў яго ў Горадню ў снежні 1918 г. У гэты час малодшы з братоў узначальваў урад БНР, які быў вымушаны пад пагрозай бальшавіцкіх войскаў пакінуць Мінск. Па звестках гісторыка Андрэя Чарнякевіча, ён разам з Васілём Захаркай спыніўся ў мясцовым гатэлі «Метраполь»[2]. На пэўны час Горадня стала сталіцай БНР. З ад’ездам А. Луцкевіча і іншых сяброў урада, горад назаўсёды страціў свой сталічны статус.

У Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў фондзе«Калекцыя дакументаў 1489–1936» намі былі выяўлены некалькі дакументаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да сям’і Луцкевічаў (LVIA. Ф. 1282, воп.1, спр. 5900). У асноўным гэта перапіска асабістага характару 70–90 гадоў XIX ст. на рускай і польскай мовах. Таксама сярод лістоў і іншых дакументаў знаходзяцца некалькі фотаздымкаў. Аднак асобаў, якія на іх прадстаўлены, на жаль, ідэнтыфікаваць не ўдалося.

Верагодней за ўсё дадзеная калекцыя паходзіць з асабістага архіву Івана і Зофіі Луцкевічаў — бацькоў пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху Антона і Івана. Адпаведна, адрасатамі і карэспандэнтамі гэтых лістоў былі дзядзькі, цёткі і іншыя сваякі братоў. Несумненна,

---

[1] Смалянчук А. Горадня і гарадзенцы 1911–1915 гг. на старонках «Нашай Нівы» // Гарадзенскі палімпсест, 2010. С. 407.

[2] Чарнякевіч А. «Прытулішча выгнанцаў»: штодзённае жыццё беларускага дзеяча ў Гародні 1909–1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест, 2010. С. 428.

вывучэнне гэтых дакументаў пасадзейнічае лепшаму разуменню таго асяроддзя, у якім выхоўваліся і кшталтаваліся будучыя беларускія адраджэнцы. Цікава таксама будзе вызначыць нацыянальную ідэнтыфікацыю самасвядомасці аўтараў тых папер.

Найбольшы інтарэс, на нашу думку, уяўляюць гімназічныя атэстаты Івана і Антона Луцкевічаў. Як вядома, браты пачыналі свае навучанне ў Лібаўскай Мікалаеўскай гімназіі, а пасля працягнулі яго ў Мінскай. У калекцыі прадстаўлены толькі чатыры дакументы падобнага тыпу, пры гэтым, тры з іх адлюстроўваюць вынікі вучобы Івана Луцкевіча. Нягледзячы на тое, што дадзеная крыніца адносіцца да ранніх гадоў жыцця братоў, прадстаўлены ў ёй матэрыял выклікае пэўную цікаўнасць і нават некаторую загадкавасць для даследавання біяграфіі гэтых дзвюх славутых асоб.



**Антон і Іван Луцкевічы ў гімназічныя гады. У цэнтры — невядомая асоба. (фотаздымак з БДАМЛМ, апублікаваны ў манаграфіі Андрэя Унучака ««Наша Ніва» і беларускі нацыянальны рух (1906 — 1915 гг.)». Мінск, 2008)**

У першую чаргу звяртае на сябе факт таго, што Іван і Антон у старэйшай школе навучаліся разам у адным класе, хаця розніцца ва ўзросце паміж імі тры гады. Падобную выснову можна зрабіць

з параўнання атэстатаў за 8–ы клас, у якіх фігуруюць адныя і тыя ж прадметы, подпіс таго ж самага класнага кіраўніка, аднолькавыя даты. Пры гэтым вядома, што вучобу ў гімназіі браты пачыналі ў свой час паасобку. У выніку атрымоўваецца, што Іван скончыў гімназію ва ўзросце 20–21 гадоў. Верагодна гэта было звязана з паўзай у навучанні падчас пераводу з лібаўскай у мінскую гімназію. Але нельга выключаць магчымасці, што Іван быў другагоднік. Знаёмства з яго адзнакамі (асабліва па французскай мове) дае падставы і для такой версіі. Трэба меркаваць, што Іван, нягледзячы на тое, што апярэджваў многіх па ўзросце, быў адным з горшых вучняў у класе (напрыклад, 30–е месца сярод аднакласнікаў у першай чвэрці 7–га класа).

Абодвум братам цяжка даваліся мовы. Што праўда, ужо ў сталым узросце ў замежным пашпарце Антона было засведчана, што ён валодаў нямецкай і французскай мовамі. Але нямецкай, як вынікае з атэстатаў, яны ў старэйшых класах не вывучалі. У цэлым, Антон вучыўся лепей за брата. Як гэта не дзіва, яму лягчэй даваліся дакладныя навукі. Ва ўсіх атэстатах у графе «подпіс бацькоў» стаяць подпісы выключна маці, бо бацькі ўжо не было ў жывых.

Ніжэй прыводзяцца самі атэстаты. Яны падаюцца на мове арыгіналу з захаваннем некаторых асаблівасцяў тагачаснага правапісу. Усе звесткі, што прыведзены ў іх, цалкам адпавядаюць арыгіналам.

LVIA. Ф. 1282, воп.1, спр. 5900, а. 1-2 Сведения об успехах, внимании, прилежании и поведении ученика V класса Минской гимназии.

**Луцкевича Ивана**

| **За 189[1] учебный год** | ПРЕДМЕТЫ | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | ЗАМЕЧА-НИЯ классного наставника | Подпись родителей или опекунов |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | математика | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Закон Божий | Русский язык с церковно-славян. | Русская словесность. | Логика. | Латинский язык. | Греческий язык. | Арифметика. | Алгебра. | Геометрия. | Тригонометрия. | Физика. | Математическая география. | История. | География. | Немецкий язык. | Французский яз. | Чистописание. | Рисование. | Гимнастика. | Внимание в классе. | Прилежание. | Поведение. | Место в классе. | Число пропущенных уроков. | | |
| ОТМЕТКИ: За первую четверть | 3 | | 3 | | 2 | 3 | | 3 | 3 | | | | 4 | | | 2 | | | | 3 | 3 | 5 | 20 | 5 | Клас. Наст. *подпіс* | *С Луцкевич* |
| За вторую четверть | 3 | | 3 | | 2 | 2 | | 3 | 3 | | | | 3 | | | 3 | | | 3 | 3 | 2 | 5 | 19 | 18 | Клас. Наст. *подпіс* | *С Луцкевич* |
| За третью четверть | 4 | | 3 | | 3 | 3 | | 3 | 3 | | | | 3 | | | 2 | | | 3 | 3 | 3 | 4 | 19 | 11 | Клас. Наст. *подпіс* | *С Луцкевич* |
| За четвертую четверть | 4 | | 3 | | 3 | 3 | | 3 | 3 | | | | 3 | | | 2 | | | | 3 | 3 | 5 | | | *Дополнитель-ное испытание по франц. языку* | |
| Средняя годовая | 4 | | 3 | | 3 | 3 | | 3 | 3 | | | | 3 | | | 2 | | | | 3 | 3 | 5 | | | | |
| ОТМЕТКИ: На письменном испытании | | | 3 | | 3 / 3 | 4 | | 3 | 3 | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| На устном испытании | 4 | | | | | 3 | | 3 | | | | | 4 | | | | | | | | | | | | | |
| На поверочном испытании | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Окончательная | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Отметка на дополнительном испытании. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Клас. Наст. *подпіс* | |

[1] Так у арыгінале. Верагодней за ўсё гэта 1898/99 навучальны год.

LVIA. Ф. 1282, воп.1, спр. 5900, а. 3-4 Сведения об успехах, внимании, прилежании и поведении ученика VII класса Минской гимназии.

**Луцкевича Ивана**

| **За 1900/1901 учебный год** | ПРЕДМЕТЫ | | | | | | математика | | | | | | | | | | | | | | | | | | ЗАМЕЧА-НИЯ классного наставника | Подпись родителей или опекунов |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Закон Божий | Русский язык с церковно-славян. | Русская словесность. | Логика. | Латинский язык. | Греческий язык. | Арифметика. | Алгебра. | Геометрия. | Тригонометрия. | Физика. | Математическая география. | История. | География. | Немецкий язык. | Французский яз. | Чистописание. | Рисование. | Гимнастика. | Внимание в классе. | Прилежание. | Поведение. | Место в классе. | Число пропущенных уроков. | | |
| ОТМЕТКИ За первую четверть | 4 | | 3 | | 2 | 3 | | 3 | | 3 | 3 | | 3 | | | 3 | | | | 3 | 3 | 5 | 30 | 5 | Клас. Наст. *подпіс* | *С Луцкевич* |
| За вторую четверть | 5 | | 3 | | 3 | 3 | | 4 | | 4 | 3 | | 3 | | | 3 | | | | 3 | 2 | 5 | 13 | | Клас. Наст. *подпіс* | *С Луцкевич* |
| За третью четверть | 5 | | 3 | | 3 | 3 | | 3 | | 3 | 3 | | 3 | | | 3 | | | | 3 | 3 | 5 | | 27 | Клас. Наст. *подпіс* | *Луцкевич* |
| За четвертую четверть | 5 | | - | | 3 | 3 | | - | | - | - | | 4 | | | 4 | | | | | | | | | | |
| Средняя годовая | 5 | | 3 | | 3 | 3 | | 3 | | 4 | 3 | | 3 | | | 4 | | | | | | | | | *Переводитс я в* VIII класс | |
| ОТМЕТКИ На письменном Испытании | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| На устном Испытании | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| На поверочном Испытании | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Окончательная | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | За Клас. Наст. *подпіс* | |
| Отметка на дополнительном испытании. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

LVIA. Ф. 1282, воп.1, спр. 5900, а. 5-6 Сведения об успехах, внимании, прилежании и поведении ученика VIII класса Минской гимназии.

**Луцкевича Ивана**

| **За 1901/1902** учебный год | ПРЕДМЕТЫ: Закон Божий | Русский язык с церковно-славян. | Русская словесность. | Логика. | Латинский язык. | Греческий язык. | математика: Арифметика. | математика: Алгебра. | математика: Геометрия. | математика: Тригонометрия. | Физика. | Математическая география. | История. | География. | Немецкий язык. | Французский яз. | Чистописание. | Рисование. | Гимнастика. | Внимание в классе. | Прилежание. | Поведение. | Место в классе. | Число пропущенных уроков. | ЗАМЕЧАНИЯ классного наставника | Подпись родителей или опекунов |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ОТМЕТКИ: За первую четверть | 5 | | 3 | 3 | 2 | | | | | | 4 | | | | | 3 | | | | 3 | 3 | 5 | 23 | 27 | Клас. Наст. | |
| За вторую четверть | 5 | | 3 | | 3 | | | 3 | | 3 | 4 | 3 | | | | 3 | | | | 3 | 3 | 5 | 20 | | За Клас. Наст. *подпіс* | *С Луцкевич* |
| За третью четверть | 5 | | 3 | 3 | 3 | 3 | | 3 | | 3 | 4 | 3 | 4 | | | 4 | | | | 4 | 3 | 5 | 19 | | Клас. Наст. *подпіс* | |
| За четвертую четверть | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Средняя годовая | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| ОТМЕТКИ: На письменном Испытании | | | 3 | | | | | 3 | 3 | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| На устном Испытании | 5 | | 3 | | 4 | 3 | | 3 | 3 | 3 | | | 4 | | | 3 | | | | | | | | | | |
| На поверочном Испытании | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Окончательная | 5 | | 3 | 3 | 3 | 3 | | 3 | 3 | 3 | 4 | 3 | 4 | 4 | | 3 | | | | | | | | | Клас. Наст. | |
| Отметка на дополнительном испытании. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

LVIA. Ф. 1282, воп.1, спр. 5900, а. 7-8 Сведения об успехах, внимании, прилежании и поведении ученика VIII класса Минской гимназии.

**Луцкевича Атона**

| **За 1901/1902** учебный год | ПРЕДМЕТЫ: Закон Божий | Русский язык с церковно-славян. | Русская словесность. | Логика. | Латинский язык. | Греческий язык. | математика: Арифметика. | математика: Алгебра. | математика: Геометрия. | математика: Тригонометрия. | Физика. | Математическая география. | История. | География. | Немецкий язык. | Французский яз. | Чистописание. | Рисование. | Гимнастика. | Внимание в классе. | Прилежание. | Поведение. | Место в классе. | Число пропущенных уроков. | ЗАМЕЧАНИЯ классного наставника | Подпись родителей или опекунов |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ОТМЕТКИ: За первую четверть | 5 | | 3 | 3 | 3 | | | | | | 5 | | | | | 4 | | | | 3 | 3 | 5 | 8 | 12 | Клас. Наст. | |
| За вторую четверть | 5 | | 3 | 4 | 3 | | | 5 | | 5 | 5 | 5 | | | | 4 | | | | 4 | 4 | 5 | 6 | | За Клас. Наст. *подпіс* | *С. Луцкевич* |
| За третью четверть | 5 | | 3 | 3 | 3 | 3 | | 5 | | 5 | 5 | 5 | 4 | | | 3 | | | | 4 | 4 | 5 | 14 | | Клас. Наст. *подпіс* | |
| За четвертую четверть | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Средняя годовая | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| ОТМЕТКИ: На письменном Испытании | | | 3 | | | | | 5 | 5 | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| На устном Испытании | 5 | | 4 | | 5 | 4 | | 5 | 5 | 5 | | | 4 | | | 5 | | | | | | | | | | |
| На поверочном Испытании | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Окончательная | 5 | | 3 | 3 | 4 | 4 | | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | | 4 | | | | | | | | | Клас. Наст. | |
| Отметка на дополнительном испытании. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

**Аляксандр Радзюк,**
**кандыдат гістарычных навук (Гродна)**

## Спіс гарадзенцаў пад наглядам паліцыі ў першай палове XIX ст.

Як вядома, гісторыю кожнага горада ці іншага населенага пункта ствараюць жыхары, што яго насяляюць. Таму даследаванне палітычных, культурных, рэлігійных, штодзённых і іншых аспектаў жыцця той ці іншай супольнасці не можа адбывацца выключна на падставе абагульнення некаторых фактаў і вывядзення заканамернасцяў. Любая гісторыя патрабуе пэўнай долі персаніфікацыі. Менавіта вывучэнне жыцця асобных індывідаў даволі часта дазваляе ўбачыць тое, што схавана за пэўнымі гістарычнымі схемамі, лепей зразумець эпоху і многія аспекты жыцця, у якіх нашым продкам даводзілася гэтую гісторыю ствараць.

Што тычыцца гарадзенцаў XIX ст., то звычайна ў поле зроку даследчыкаў трапляюць найбольш знакавыя постаці той эпохі: губернатары, генералы ды іншыя вайскоўцы, удзельнікі нацыянальна–вызваленчых рухаў, літаратары ды прадпрымальнікі. Вельмі рэдка аб'ектам падобнага вывучэння становяцца звычайныя жыхары. З мэтай паступовага пераадолення гэтага недахопу, а таксама ўвядзення ў навуковы зварот новых, часта даволі неардынарных постацей гарадзенскага мінулага, быў створаны ніжэй прыведзены спіс гарадзенцаў. Ён уключае прозвішчы і імёны асоб, што знаходзіліся пад паліцэйскім наглядам у горадзе над Нёманам у першай палове XIX ст. Галоўныя адметнасці дадзенай меры пакарання былі ўжо намі даследаваны ў іншым артыкуле[1]. Зараз, у якасці працягу і дапаўнення азначанай працы друкуюцца біяграфічныя звесткі аб усіх тых асобах, якія з 1826 па 1859 гады знаходзіліся пад наглядам паліцыі ў Горадні.

[1] Радзюк А. Гарадзенцы пад наглядам паліцыі ў першай палове XIX ст. / А. Р. Радзюк // Гарадзенскі палімпсест 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. / Гродна, 2013. — С. 222— 242.

Асноўная інфармацыя ў гэтых кароткіх біяграмах падаецца ў той жа паслядоўнасці, што і ў арыгінальных справах XIX ст. Спіс структураваны не па алфавітным, а па храналагічным прынцыпе, гэта азначае, што імёны прыводзяцца ў тым парадку, па меры якога яны ўносіліся ў ведамасці аб паднаглядных. Звесткі, якія падаюцца пасля таго ці іншага прозвішча, у асноўным, дублююць тую інфармацыю, якая ўтрымліваецца адносна гэтай асобы ў ведамасцях за розныя гады. Курсівам змешчаны заўвагі аўтара, а таксама некаторыя біяграфічныя звесткі (у асноўным з фондаў НГАБ у Гродне), якія ўдалося выявіць адносна гэтага чалавека. На жаль, падобная інфармацыя размеркавана досыць нераўнамерна. Адной з прычын гэтага з'яўляецца той факт, што некаторая частка тых, хто знаходзіўся пад наглядам паліцыі ў нашым горадзе не былі гарадзенцамі, а знаходзіліся тут праездам ці апынуліся тут па іншых абставінах на невялікі прамежак часу. Тым не менш, згодна з існуючымі тады правіламі мясцовы паліцмайстар павінен быў арганізаваць за імі нагляд і ўнесці іх у адпаведныя спісы.

Сярод тых постацяў, якія ў нашым горадзе знаходзіліся пад паліцэйскім пільнаваннем у розныя гады звяртаюць на сябе ўвагу такія імёны як прафесар Віленскага ўніверсітэта Ігнат Анацэвіч, які выступіў з шэрагам выкрыццяў супраць адміністрацыі гэтай навучальнай установы, палкоўнік Ігнат Янкоўскі, які як Дж. Байран і прыкладна ў тыя ж гады дапамагаў грэчаскаму народу ў яго змаганні за незалежнасць, гарадзенскі віцэ–губернатар К. Максімовіч, выконваючы абавязкі губернатара А. Елец, сябра А. Герцэна — П. Цэхановіч, акцёры, урачы, навучэнцы і многія іншыя.

1. **Букінскі Пётр Сцяпанавіч** — губернскі сакратар. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1821–1826 гг. на падставе ўказа Сената, перададзенага з гродзенскага губернскага праўлення 28 жніўня 1821 г. па справе аб затрыманых ім Букінскім у Гродзенскім уездзе ў сяленні Верцялішках кантрабандных таварах і да вырашэння гэтай справы павінен быў знаходзіцца неадлучна ў Горадні. — «Займаецца пасадаю» (1826 г.). Меў жонку[2].

*Справа П. Букінскага распачалася ў лютым 1819 г. з даносу суседа па кватэры шляхціца Васілеўскага, які сцвярджаў, што палюбоўніца (на справе аказалася жонкай) губернскага сакратара досыць часта прывозіць яму з м. Галынкі (Царства Польскае) кантрабанднае сукно,*

[2] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 469.

*які апошні рэалізуе сярод жыхароў горада.Ператрус у пакоі і куфары П. Букінскага даў станоўчыя вынікі, і ён быў узяты пад паліцэйскі нагляд. У ліпені гэта ж года на імя губернатара паступіў рапарт аб тым, што П. Букінскі разам з надзірацелем Мушынскім затрымалі ў Верцялішках габрэяў, якія перавозілі буйную партыю кантрабанды. Узяўшы хабар у памеры 420 талераў срэбрам, яны адпусцілі іх. І зноў гэты факт пацвердзіўся.*

*Супраць Пятра пачалося следства. Ён быў арыштаваны і спачатку ўтрымліваўся ў гарадзенскім бернардынскім кляштары, а пасля некалькі гадоў у астрозе. Па факту затрымання і адпушчэння кантрабандыстаў была створана адмысловая камісія. Вырашэнне справы зацягнулася на некалькі гадоў, паколькі П. Букінскі на кожную пастанову той ці іншай судовай установы падаваў апеляцыі. Прычыну сваіх бедаў ён бачыў у асабістай непрыязні з боку губернатара «за выкрытыя ім 12 сакавіка 1818 г. злоўжыванні». Адным з рашэнняў 1–га дэпартамента гродзенскага галоўнага суда яго маёмасць павінна была быць падвергнутая абавязковаму продажу, а згодна з другой пастановай, ён разам з жонкай павінны былі выехаць «на папярэдняе месца жыхарства» ў Херсонскую губ. Невядома ці былі гэтыя прысуды выкананы. Згодна з ўказам Сената ад 29 лістапада 1826 г., заснаваным на маніфесце імператара ад 22 жніўня 1826 г., П. Букінскі «пакінуты свабодным»[3].*

2. **Янкоўскі Ігнат Мікалаевіч** — звольнены са службы капітан польскіх войскаў. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1824–1830 гг. па загаду камандуючага асобным Літоўскім корпусам Яго Імператарскай Высокасці цэсарэвіча ад 26 красавіка 1824 г. за самавольную яго адлучку ў 1820 г. за мяжу да грэчаскіх войскаў. З 11 сакавіка 1826 г. атрымліваў ад казны кармавых грошай па 25 кап. меддзю на суткі. Кавалер (у сэнсе — нежанаты). Паводзіў сябе прыстойна, нічым не займаўся.

*Падчас свайго знаходжання пад наглядам неаднаразова падаваў прашэнні Канстанціну Паўлавічу і Мікалаю I з просьбамі аб дазволе вярнуцца на вайсковую службу, з якой быў звольнены за несвоечасовае прыбыццё яшчэ ў 1816 г., але атрымоўваў катэгарычныя адмовы. Як тлумачыў асабіста, прыняў рашэнне далучыцца да грэчаскіх*

[3] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 1, спр. 1426. Арк. 1, 6, 9, 36, 41, 48; спр. 1427. Арк. 1, 37, 63, 102; спр. 1932. Арк. 1, 25, 31; спр. 2281. Арк. 1; воп. 2, спр. 884. Арк. 4; спр. 469. Арк . 124.

*войскаў у 1820 г., а пасля іх разбіцця вярнуўся ў 1824 г. і быў узяты пад паліцэйскі нагляд*[4].

3. **Ляшчынскі Іван Паўлавіч** (нар. каля 1757 (у 1826 г. яму 70 год) — 21.07.1827) — адстаўны сяржант Полацкага пяхотнага палка, былы служачы Гродзенскай казённай палаты. У 1802 г. за «благія (худыя)» паводзіны і ляноту да службы звольнены з пасады пратакаліста гэтай палаты без атэстата. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1825–1827 г. па загаду Яго Імператарскай Высокасці цэсарэвіча ад 11 чэрвеня 1825 г. за непадпарадкаванне судзейскаму рашэнню, якое забараняла яму складаць і пісаць акрамя ўласнай справы розныя даносы і прашэнні і звыш таго, за ўзбунтаванне казённых сялян у Беластоцкай вобласці. З прычыны калецтва (ссохліся абедзве нагі), а таксама старасці і нямогласці ўзяты пад апеку Дабрачыннага таварыства і знаходзіўся ў адмыслова пабудаваным дзеля гэтага доме (1827 г.). З 11 сакавіка 1826 г. атрымліваў ад казны кармавыя грошы па 25 кап. меддзю на суткі. Жанаты. Памёр 21 ліпеня 1827 г.[5]

4. **Беран(д)с Мікалай Ягоравіч** — былы студэнт Віленскага ўніверсітэта. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1826–1829 г. па загаду Яго Імператарскай Высокасці цэсарэвіча ад 27 красавіка 1826 г., бо аказаўся «благіх схільнасцяў і кепскіх паводзінаў». Займаўся «працаю па сваіх здольнасцях у навуках ад чаго і пражытак мае». Кавалер.

*У 1825 г. Мікалай Беранс знаходзіўся пад арыштам у Варшаве па падазрэнні ў датычнасці да тайных студэнцкіх таварыстваў, але па загаду Канстанціна Паўлавіча быў вызвалены ў Горадню «пад заўсёдны паліцэйскі нагляд». У адпаведнасці з пастановай цэсарэвіча, з траўня 1829 г. Мікалаю «па беднасці яго» было прызначана грашовае ўтрыманне ад казны ў памеры 50 кап. на суткі і 4 руб. у месяц на кватэру. Згодна з уласным жаданнем у жніўні 1829 г. паступіў на службу ў 48-ы егерскі полк, што кватэраваў у Беластоку, аднак аказаўся нyздольным да службы. На пачатку 30-х гадоў знаходзіўся ў Беластоку*[6].

5. **Качальскі Ігнат** — шляхціц Кобрынскага ўезду, былы студэнт Віленскага ўніверсітэта. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1824–1829 г. па распараджэнні следчай камісіі, заснаванай у Вільні па справе аб тайных таварыствах, а таксама з дазволу сенатара

[4] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 469.

[5] Тамсама.

[6] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 469.; спр. 1473. Арк. 1; воп. 27, спр. 111. Арк. 1–3.

М. Навасільцава быў вызвалены на месца свайго жыхарства ў маёнтак Камень–Шляхецкі. Пасля звальнення з Вільні да хаты не прыбыў, а застаўся ў Горадні, дзе ў 1826–1827 г. знаходзіўся ў навучанні ў адваката Караля Эйсманта, а ў 1828–1829 г. самастойна займаўся адвакацкаю працаю. Згодна з распараджэннем Канстанціна Паўлавіча ад 31 сакавіка 1829 г. за добрыя паводзіны вызвалены ад далейшага нагляду паліцыі. Кавалер[7].

Паўторна знаходзіўся пад сакрэтным наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832–1839 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 24 чэрвеня 1832 г. за аказанне дапамогі паўстанцам. Займаўся адвакацкай працай. Памёр у чэрвені 1839 г.[8]

6. **Елец Антон Міхайлавіч** — старшыня Гродзенскага галоўнага суда 1–га дэпартамента. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1827–1828 гг. па загаду Яго Імператарскай Высокасці цэсарэвіча ад 1 студзеня 1827 г. (*за што — не паказана*). Жанаты. У 1828 г. атрымаў дазвол выехаць у Сакольскі ўезд, дзе трымаў у арэндзе казённы маёнтак Каменку[9].

*Згодна з фармулярным спісам за 1820 г. А. Елец паходзіць з дваран Лідскага ўезду, дзе валодаў маёнткамі Дзейнава і Бельск(?). Пасля заканчэння поўнага курса навук у Шчучынскім народным вучылішчы, дзе, між іншым, навучаўся лацінскай і французскай мовам, працягнуў служыць:*

- *засядацелем у Літоўскім задворным судзе з 10 студзеня 1794 г.;*
- *рэгентам у Літоўскім галоўным судзе з 5 кастрычніка 1801 г.;*
- *земскім спраўнікам Лідскага ўезду па выбарах дваранства з 11 верасня 1802 г. На працягу гэтай службы быў камандзіраваны для размежавання Лідскага ўезду ад іншых;*
- *пасля 3–х год абраны лідскім гродскім суддзёй з 1 снежня 1805 г.;*
- *засядацелем гродзенскага галоўнага суда ў 1–ы дэпартамент з 1 студзеня 1809 г. Атрымаў вышэйшую Яго Імператарскай Вялікасці ласку 11 студзеня 1811 г.;*
- *20 лютага 1812 г. абраны дваранствам на тую ж пасаду;*
- *у 1813 г. камандзіраваны ў Брэст для правядзення баварцаў за мяжу, што выканаў … з поспехам;*

[7] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 469.

[8] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 99, 560; воп. 20, спр. 63.

[9] Тамсама.

- *у 1815 г. зноў абраны засядацелем 1–га дэпартамента ў трэці раз. У ліпені 1815 г. камандзіраваны ў Слонімскі ўезд для знішчэння саранчы, што лютавала там … Узнагароджаны ордэнам св. Уладзіміра 4–й ступені 12 лістапада 1817 г.;*
- *па выбарах дваранства абраны старшынёй Гродзенскага галоўнага суда 19 студзеня 1818 г.;*
- *пры гэтым **выконваў абавязкі гродзенскага цывільнага губернатара** з 11 па 19 лістапада 1818 г.*

*У 1820 г. меў 43 гады. Удовы*[10].

7. **Дабравольскі Цімафей Юр'евіч** — адстаўны ротмістр Літоўскага ўланскага палка. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1826–1829 гг. па загаду Яго Імператарскай Высокасці цэсарэвіча ад 12 лістапада 1825 г. за нанясенне ў Вільне каравульнаму падпаручніку Гілеру і плац–маёру Багданаву зняваги і за ўчыненне гвалту на гаўптвахце ў нецвярозым выглядзе. Дастаўлены ў Горадню 11 красавіка 1826 г. пад нагляд паліцыі. Першапачаткова атрымліваў ад казны 25 кап. на суткі. З лета 1828 г. выконваў абавязкі даглядчыка пераправы праз Нёман, за што меў ад горада 5 руб. срэбрам у месяц. Па ведамасці за 1829 г. зноў паказаны, што нічым не займаецца і атрымлівае ад казны грошы па 25 кап. на суткі. Жанаты[11].

8. **Якштэйн Іван Вільгельмавіч** — адстаўны з рыжскай інваліднай каманды падпаручнік. Першапачаткова быў дастаўлены з Санк–Пецярбурга ў Горадню 30 студзеня 1826 г., скуль быў высланы за кепскія (дурныя) паводзіны і ганебныя ўчынкі. З Горадні перасланы ў Ваўкавыскі ўезд у мястэчка Ізабелін, дзе займаўся п'янствам і непрыстойнымі ўчынкамі. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі з 20 лютага па 16 траўня 1828 г. «Аказаўся ў выпраўленні яго благіх паводзінаў безнадзейным». Зноў высланы ў Ваўкавыскі ўезд, дзе ён знаходзіўся пад следствам і некаторы час знаходзіўся ў мясцовым астрозе. Меў ад казны грашовае ўтрыманне. Кавалер[12].

9. **Анацэвіч Ігнат Сымонавіч** (псеўданім Жыгота з Малой Бераставіцы) — былы магістар (прафесар) Віленскага ўніверсітэта, калежскі асэсар. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1828–1831 гг. па загаду Яго Імператарскай Высокасці цэсарэвіча ад

[10] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 32, спр. 6. Арк. 26–27.

[11] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 469.

[12] Тамсама.



**Ігнат Анацэвіч**

14 траўня 1828 г., які прадпісаў мецць азначанага Анацэвіча пад наглядам земскай паліцыі на месцы яго радзімы ў мястэчку Малая Бераставіца, скуль па патрабаванні гродзенскага гродскага суда быў дастаўлены ў Горадню 19 верасня 1828 г. для атрымання ад яго патрэбных адказаў аб зробленых ім начальству беспадстаўных даносах на кіраўніцтва Віленскага ўніверсітэта. Утрыманне меў ад сваякоў. Удовы.

*Гісторык, археограф і архівіст І. Анацэвіч — даволі значная постаць у айчыннай гістарыяграфіі XIX ст. Яго жыццёвы шлях і навуковая дзейнасць досыць падрабязна даследаваны ў кнізе С. Марозавай і С. Габрусевіча «Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына». Тут хацелася б больш падрабязна спыніцца на акалічнасцях тых падзей, якія прывялі І. Анацэвіча пад нагляд паліцыі, а таксама на яго прыбыванні ў Горадні.*

*Як вынікае са зместу шматгадовых разбіральніцтваў, прычына няласкі, у якой апынуўся праф. Анацэвіч, крыецца ў канфлікце паміж ім і праф. М. Мяноўскім і сакратаром Віленскага ўніверсітэта Мержаеўскім. Западозраны ў сувязях з тайнай студэнцкай арганізацыяй, І. Анацэвіч у лютым 1828 г. быў падвергнуты ў Вільні кароткатэрміноваму арышту, а яго паперы канфіскаваны. Сярод апошніх універсітэцкае начальства знайшло такія, якія не з дадатнага боку выкрывалі іх дзейнасць. Акрамя таго, пасля свайго вызвалення праф. Анацэвіч часткі з гэтых фактаў надаў публічны розгалас. У сувязі з гэтым, па ініцыятыве кіраўніцтва ўніверсітэта быў склікане Савет (той самы, што за некалькі месяцаў да гэтага зацвердзіў яго ў званні прафесара), які пад націскам рэктара Пелікана адхіліў яго ад выкладчыцкай дзейнасці, а пазней вялікі князь Канстанцін загадаў выслаць яго на радзіму. Сярод тых абвінавачанняў, што былі высунутыя сябрамі Савета былі такія, што закраналі яго прафесійную дзейнасць (нібыта яго гістарычныя працы — гэта ёсць кампіляцыя ненадрукаваных твораў епіскапа Альбентрандыя) і маральныя якасці (што ён жыве*

*ў распустве з жанчынай, ад якой прыжыў дзіця, а таксама апошнім часам уяўна аддаўся п'янству і картачным гульням).*

*Адначасова з гэтымі, у справе былога прафесара з'явіліся новыя абставіны. У красавіку 1828 г. бацька былога студэнта Віленскага ўніверсітэта Якаў Лісоўскі, сын якога быў прысуджаны да аддачы ў салдаты за датычнасць да тайнага таварыства, падаў на імя цэсарэвіча ліст, у якім выкрываліся злоўжыванні з боку азначаных вышэй асоб. Канстанцін Паўлавіч у сваю чаргу загадаў правесці следства, але не па праверцы выкладзеных там фактаў (яны адразу ж атрымалі ярлык «паклёпу»), а дзеля таго, каб даведацца хто дапамагаў Я. Лісоўскаму ў складанні гэтага ліста. Віленская паліцыя па гэтым запыце нічога не выкрыла, і тады арыштант быў дастаўлены да сенатара М .Навасільцава. На допытах у апошняга ён прызнаўся, што гэтую скаргу пісаў студэнт* ***П. Цэхановіч*** *(гл. ніжэй), складаў сакратар віленскай уніяцкай кансісторыі* ***К. Забароўскі*** *(гл. ніжэй), прымаў удзел шляхціц* ***К. Жамойцель*** *(гл. ніжэй), і ўсё гэтае рабілася з падачы І. Анацэвіча. Усе гэтыя асобы былі арыштаваныя і перасланы ў Горадню, дзе супраць іх распачаўся судовы працэс.*

*Падчас следства І. Анацэвіч у асноўным жыў у свайго роднага брата, уніяцкага святара ў Малой Бераставіцы. Умовы знаходжання там былі вельмі складаныя, паколькі той меў 12 малых і толькі 2 пакоі. Следства зацягнулася на гады. Адной з прычын гэтаму было тое, што І. Анацэвіч прадстаўляў суду, а таксама дасылаў розным вышэйшым асобам імперыі (у тым ліку і А. Бенкендорфу) новыя факты злоўжыванняў і карупцыі ў вышэйшых колах універсітэта. Урэшце, 1-ы дэпартамент гродзенскага галоўнага суда пастанавіў адправіць выкладзеныя былым прафесарам факты для далейшай іх праверкі ў Міністэрства народнай асветы. Такое рашэнне выклікала моцнае незадавальненне цэсарэвіча Канстанціна, які сваім прадпісаннем фактычна адмяніў яго, даўшы суду інструкцыі, што таму рабіць далей. Тут дарэчы будзе тая характарыстыка, якую дало трэцяе аддзяленне таму прававому бязмежжу, што склалася ў беларуска-літоўскім краі ў той час: «Правінцыі гэтыя кіруюцца кааліцыяй хабарнікаў (лихоимцев). Незразумела, якім чынам адміністрацыя ўніверсітэта ў Вільні здолела захапіць у свае рукі кіраванне ўсімі гэтымі губернямі. Галоўныя сябры гэтай кааліцыі: г. Навасільцаў, рэктар Пелікан, пракурор [?] Батвінка і варшаўская канцылярыя (цэсарэвіча Канстанціна — А.Р.). Усе жыхары правінцыі дрыжаць перад гэтай кааліцыяй»[13].*

[13] Россия под надзором. Отчеты III отделения. 1827–1869. Москва, 2006. С. 39–40.

*Нягледзячы на той ціск, які аказваўся зверху, гарадзенскі суд, фактычна, апраўдаў І. Анацэвіча і іншых фігурантаў гэтай справы*[14]. *Далей яна была накіравана на рэвізію па інстанцыях у Вільню і Санкт–Пецярбург. У сувязі з гэтым, былы прафесар у 1832 г. пакінуў Горадню. Што праўда, пасля гродзенскі губернатар М. Мураўёў адмовіў яму ў просьбе аб выдачы пашпарта на праезд у Санкт–Пецярбург. Але гэтая забарона ўжо не мела вялікага значэння*[15].

10. **Сержпутоўскі Іван** — адвакат гродзенскага галоўнага суда 2–га дэпартамента. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1829–1830 гг. па Вышэйшым распараджэнні (*за што — не паказана*). Займаўся службай у галоўным судзе 2–га дэпартамента. Жанаты, сын Эміль у Віленскім універсітэце.

*Згодна з распараджэннем імператара, якое было перададзена А. Бенкендорфам у лісце ад 2 снежня 1830 г., І. Сержпутоўскі, які знаходзіўся пад наглядам паліцыі па справе аб тайных таварыствах, у ліку іншых паднаглядных асоб дзеля таго, каб «адхіліць ад іх непрыемныя наступствы цяперашніх абставін, якія асабліва ім могуць быць шкодныя, быў высланы ў Варонежскую губ.*[16]

11. **Забароўскі Караль** — сакратар віленскай уніяцкай кансісторыі. Дастаўлены з Вільні за складанне паклёпу на Віленскі ўніверсітэт 30 верасня 1828 г., а па ўказу Гродзенскага губернскага праўлення ад 10 снежня 1829 г. знаходзіўся пад наглядам паліцыі (*гл. справу І. Анацэвіча*). З 1829 г. па жнівень 1832 г. атрымліваў кармавыя па арыштанцкім палажэнні. Апраўданы ўказам Сената ад 31 ліпеня 1833 г.[17]

*У 1829 г. губернскі сакратар К. Забароўскі, пакутуючы ад моцных боляў, падаў прашэнне аб дазволе на выезд з Горадні на лячэнне, але яму было адмоўлена. У выніку ён стаў інвалідам. У 1832 г. зноў падаў просьбу аб дазволе яму выехаць у Вільню. Паручальнікам за яго выступалі мясцовыя габрэі*[18].

12. **Цэхановіч Пётр** — былы акадэмік (студэнт) Віленскага ўніверсітэта. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1829–1834 гг. Дастаўлены з Вільні за складанне паклёпу на Віленскі ўніверсітэт 30 верасня 1828 г., а па ўказу Гродзенскага губернскага

[14] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 186.

[15] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 112. Арк. 5.

[16] LVIA. Ф. 378 а/а, воп. 39, спр. 624. Арк. 1.

[17] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 540; воп. 27, спр. 100, 99, 558.

[18] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 119. Арк. 2, 5.

праўлення ад 10 снежня 1829 г. знаходзіўся пад наглядам паліцыі (*гл. справу І. Анацэвіча*). Жанаты. Апраўданы ўказам Сената ад 31 ліпеня 1833 г. 20 лютага 1834 г. высланы з Горадні на жыхарства ў Пермскую губ. [19].

*Са снежня 1829 г. па 28 красавіка 1830 г. утрымоўваўся ў гарадзенскім астрозе. Пасля вызвалення знаходзіўся ў цяжкім матэрыяльным становішчы: «працаю рук жонкі сваёй маю на хлеб». Прасіў прызначыць яго на нейкую чыноўніцкую пасаду, але безвынікова. Зноў арыштаваны ў 1833 г. за сувязь з эмісарам М. Шыманскім: «укрыванне яго ў сябе і намер уцячы з ім за мяжу». Згодна з вышэйша зацверджанай канфірмацыяй віленскага генерал–губернатара М. Далгарукава прысуджаны да высылкі ў Пермскую губ. У траўні 1834 г. прыбыў у Пермь. Тут ён пазнаёміўся з Аляксандрам Герцэнам, які з цеплынёй пасля ўзгадваў аб ім у сваім творы «Былое и думы». На пачатку 40–х гадоў Пётр атрымаў згоду на пераезд у Вятку, а ў 1846 г. у Чарнігаў*[20].

13. **Жамойцель Франц** — шляхціц. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1829–1833 гг. Дастаўлены з Вільні за складанне паклёпу на Віленскі ўніверсітэт 30 верасня 1828 г., а па ўказу Гродзенскага губернскага праўлення ад 10 снежня 1829 г. знаходзіўся пад наглядам паліцыі (*гл. справу І. Анацэвіча*). Апраўданы ўказам Сената ад 31 ліпеня 1833 г.[21]

*У 1829–1830 гг. знаходзіўся пад арыштам пры гарадской паліцыі*[22].

14. **Нямцэвіч Караль** — былы брэсцкі ўезны маршалак дваранства. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі 3 месяцы 1831 г. па прадпісанні гродзенскага цывільнага губернатара ад 9 студзеня 1831 г. па падазрэнні ў прыналежнасці да тайнага таварыства. Па зробленай ім адлучцы з Горадні данесена губернатару 9 красавіка 1831 г., невядома дзе знаходзіўся[23].

*Знаходзіўся пад наглядам брэсцкай паліцыі, пачынаючы з 1823 г. У 1831 г. адзін з арганізатараў паўстання на Гродзеншчыне. Пасля*

---

[19] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 540; воп. 27, спр. 100, 99, 558.

[20] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 100. Арк. 2–8; . НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 532. Арк. 14, 104; НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 36, спр. 958. Арк. 2; НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 30, спр. 2. Арк. 3; Śliwowska W. Zesłańcy polscy w Imperium Roszjskim w pierwszej połowie XIX wieku. Warszawa., 1998. S. 106.

[21] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 540; воп. 27, спр. 100, 99, 558.

[22] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 186. Арк. 81.

[23] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 100.

*ўцёкаў з Горадні стаў адным з камандзіраў паўстанцаў у Белавежскай пушчы, а таксама ўзначальваў асобны партызанскі атрад. У жніўні 1831 г. быў абраны на сейм у Варшаве як прадстаўнік ад Гродзеншчыны, уваходзіў у склад Літоўскага камітэта. Пасля паразы паўстання адзін з актыўных дзеячоў эміграцыі. Аўтар успамінаў. Належная яму часткі маёнткаў Чаравачыцы і Кленікі ў Брэсцкім уездзе канфіскаваны ў казну*[24].

15. **Радавіцкі Міхал** — адстаўны паручнік польскіх войскаў. Кораткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ўвесну 1831 г. Адасланы з Горадні ў Варонеж 16 траўня 1831 г. пры лісце гродзенскага цывільнага губернатара на імя варонежскага губернатара[25].

*За прыналежнасць да тайных таварыстваў знаходзіцца пад наглядам слонімскай уезнай паліцыі з красавіка 1827 г. Настала жыў у маёнтку Задворжа разам з жонкай і дзецьмі. Згодна з распараджэннем імператара, якое было перададзена А. Бенкендорфам у лісце ад 2 снежня 1830 г., М. Радавіцкі ў ліку іншых паднаглядных асоб дзеля таго, каб «адхіліць ад іх непрыемныя наступствы цяперашніх абставін, якія асабліва ім могуць быць шкодныя» быў высланы ў Варонежскую губ. У траўні 1833 г. знаходзіўся ў Варонежы «да заканчэння справы следчай над мяцежнікамі камісіі».*[26]

16. **Глебавіч Ігнат** — недаростак (16 год). Згодна з ўказам гродзенскага губернскага праўлення ад 5 траўня 1831 г. быў узяты пад нагляд паліцыі гродзенскага ніжэйшага земскага суда з нагоды яго выезду ў лютым 1831 г. Кавалер[27].

*У лютым 1832 г. у адпаведнасці з лістом дзяжурнага генерала 1–ай арміі нагляд, які быў здзейснены «адзінае па падазрэнні ў сувязі з паездкай яго Глебавіча з Варшавы ў Гродзенскі ўезд з прычыны ваеннага часу,» быў зняты, а сам Ігнат атрымаў права вярнуцца ў Варшаву да брата*[28].

*У 1842 г. Ігнат Глебавіч выказаў жаданне паступіць на службу ў Заходняй Сібіры і накіраваўся ў Омск. Аднак з–за адсутнасці дакументаў, якія б пацвярджалі яго дваранскую годнасць, на працу ўладкавацца не здолеў*[29].

[24] ЭГБ. Т. 5. С. 341; Гарбачова В. Удзельнікі паўстання 1830–1831 гг на Беларусі. Біябібліяграфічны слоўнік. Мінск, 2006. С. 255–256.

[25] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 100.

[26] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 3, спр. 540; LVIA. Ф. 378 а/а, воп. 39, спр. 624. Арк. 1, 145.

[27] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 100.

[28] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 109. Арк. 1.

[29] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 11, спр. 1602. Арк. 2, 5.

17. **Чарноцкі Ігнат** — гродзенскі мешчанін. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1831–1832 г. па хадайніцтву гродзенскага каменданта ад 22 жніўня 1831 г. «да вырашэння справы аб ім за пакупку куляў для стрэльбаў». Жыў у сваім доме, займаўся рамяством. Жанаты, меў дзяцей[30].

18. **Вэбер** — паходзіў з Царства Польскага. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1831 г. па ўказу гродзенскага губернскага праўлення ад 14 траўня 1831 г. «як ўраджэнец Царства Польскага». Жыў у другой частцы горада ў 1–м квартале ў доме памерлага Лейны. Сям'і не меў[31].

19. **Рачынскі Іван Станіслававіч** — шляхціц Лідскага ўезду, быў адвакатам у Горадні (меў некаторыя даверанасці ад памешчыкаў для вырашэння іх спраў). За кароткі прамежак часу два разы трапляў пад нагляд гарадзенскай паліцыі: у 1831 г. згодна з прадпісаннем губернатара за ўдзел у паўстанні, а ў 1833–1836 гг. у дачыненні да яго зноў выкарастана гэтая мера за датычнасць да справы эмісара М. Шыманскага. Арыштаваны ў ліпені 1833 г. і аддадзены пад ваенна–палявы суд. Па Вышэйшай над ім канфірмацыі пакінуты на радзіме з усталяваннем над ім паліцэйскага нагляду. У 1835 г. ажаніўся на графіне Плятар і ў 1836 г. атрымаў дазвол на выезд у маёнтак жонкі Лычкаў у Лідскі ўезд. Надалей знаходзіўся пад наглядам лідскай земскай паліцыі (звесткі да 1842 г.)[32].

20. **Туровіч Мацвей** — дваранін. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў канцы 1831 — пачатку 1832 г. Па прыбыцці з Санкт–Пецярбурга 1 снежня 1831 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара знаходзіўся пад сакрэтным паліцэйскім наглядам. У Горадні часова, без сям'і.

21. **Петрашэўскі Феафіл Восіпавіч** (1789–1869) — шляхціц. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў пачатку 1832 г. па вусным прадпісанні губернатара. Без сям'і[33].

*Паходзіць з Ваўкавыскага ўезду, скончыў Свіслацкую гімназію. Удзельнік кампаніі 1812 г., адстаўны падпаручнік уфімскага пяхотнага палка (звольніўся ў 1818 г.) У 1831 г . прымаў актыўны ўдзел у паўстанні*

---

[30] Тамсама; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 101, 99.

[31] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 100.

[32] Тамсама; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 101, 99, 558, 560; воп. 4, спр. 434; воп. 19, спр. 898; воп. 20, спр. 703.

[33] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 101.

*ў атрадзе Ц. Пуслоўскага ў чыне капітана. Сам Феафіл сведчыў, што быў захоплены паўстанцамі падчас таго, як ехаў у Пінск за соллю. Пасля разбіцця паўстанцаў пад Неўлянамі, 13 жніўня 1831 г. добраахвотна паказаўся расійскім уладам. Дастаўлены ў Горадню, дзе знаходзіўся на волі. Згодна з рашэннем гродзенскай следчай аб паўстанцах камісіі аднесены да 2-га разраду злачынцаў з аддачай пад ваенна-палявы суд пры гродзенскім ардананс-гаўзе. Здзейсніў уцёкі з Горадні ў Галіцыю. У 1834 г. прыбыў у Лондан. Атрымліваў грашовую дапамогу англійскага ўрада. У 1837 г. падчас сустрэчы з генеральным консулам Расійскай імперыі ў Вялікабрытаніі паведаміў, што асабіста з 11 салдатамі па загаду ген. Дэмбіцкага ў 1831 г. закапаў у Белавежскай пушчы 4 гарматы, 5500 стрэльбаў, 1700 шабель і 800 пар пісталетаў. Гэты скарб да гэтага часу чакае на свайго адкрывальніка. Памёр у Лондане*[34].

22. **Шымкоўскі Лейзер Ёселевіч** — габрэй. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара 9 лютага 1832 г. да вырашэння аб ім справы аб пераходзе граніцы. Сям'я — ў Царстве Польскім[35].

*Жыхар мястэчка Сапоцкін Аўгустоўскай губ. Затрыманы на прыканцы 1831 г. памежнай вартай разам з рамізнікам Л. Шынкоўскім (гл. ніжэй) па прычыне падазронага віду (дакумента на праезд). Арыштаваны і пэўны час знаходзіўся ў гарадзенскім астрозе. Як лічыў шэф мясцовых жандараў, палкоўнік Уласаў, Л. Шымкоўскі разам са сваім рамізнікам «моцна і справядліва падазраюцца ў тым, што яны наладзілі супрацьзаконны гандаль і знаходзяцца ў сувязі з усімі гродзенскімі кантрабандыстамі». Аднак доказаў гэтаму не было і рашэннем гродзенскай палаты крымінальнага суда Л. Шымкоўскі вызвалены*[36].

23. **Сырыйскі Іцка Абрамавіч** — габрэй. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара 9 лютага 1832 г. да вырашэння аб ім справы аб пераходзе граніцы. Сям'я ў Царстве Польскім[37].

*Гл. Шымкоўскі Лейзер.*

24. **Ясінскі Мечыслаў** — памешчык. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832 г. па просьбе камісіі, заснаванай для

---

[34] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1380. Арк. 1, 5–6; НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 297. Арк. 2, 5, 34, 36; Гарбачова В. Указ. твор. С. 270.

[35] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 101.

[36] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 109. Арк. 3, 8, 11, 17–18.

[37] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 101.

расследавання справы аб рабаванні пошты каля Старадварэцкай паштовай станцыі. Без сям'і[38].

*Напад паўстанцаў на старадварэцкую паштовую станцыю, што ў Ваўкавыскім уездзе, адбыўся ўначы з 27 на 28 траўня 1831 г. Імі была захоплена значная грашовая сума. У жніўні 1831 г. былі затрыманы габрэі Гірш Альпер і Гірш Ляпідус, якія займаліся абменам гэтых грошай з асігнацый на срэбра. Да арышту яны паспелі ў Горадні правярнуць аперацыю на 175 тыс. руб.*[39]

25. **Дамброўскі Казімір** — памешчык. *Гл. Ясінскі М .*

*У студзені 1832 г. у камісію, заснаваную для зняцця допытаў з паўстанцаў, паступіла прашэнне памешчыцы Ваўкавыскага ўезду Кунегуды Дамброўскай аб вызваленні яе сына Казіміра*[40].

26. **Ключэўскі Яраслаў** — памешчык. *Гл. Ясінскі М*. (№ 24)

27. **Хадакоўскі Міхал** — памешчык. *Гл. Ясінскі М*. (№ 24)

28. **Энгельгардт Іван** — адстаўны капітан. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 15 лютага 1832 г. (*за што — не паказана)*. Сям'я — ў Пружанскім уездзе[41].

*Кароткачасова знаходзіўся сярод паўстанцаў Белавежскай пушчы. Па рашэнні Гродзенскай следчай аб паўстанцах камісіі пакінуты на волі*[42].

29. **Пушкевіч Мікалай** — ураджэнец Царства Польскага. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832 г. па ўказу губернскага праўлення ад 11 сакавіка 1832 г. з–за пратэрмінаваных «відаў» (пашпартоў) да вырашэння справы аб ім. Жыў у Горадні ва ўласным доме, займаўся шавецкім рамяством. Сям'я пры ім[43].

30. **Гараль Юрый** — ураджэнец Царства Польскага. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832 г. па ўказу губернскага праўлення ад 11 сакавіка 1832 г. з–за пратэрмінаваных «відаў» (пашпартоў) да вырашэння справы аб ім. Жыў у Горадні. Сям'я пры ім[44].

---

[38] Тамсама.

[39] НГАБ у Гродне. Ф. 4, воп. 1, спр. 34. Арк. 7; спр. 45. Арк. 1–4.

[40] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 121. Арк. 1.

[41] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 101.

[42] Гарбачова В. Указ. твор. С. 369.

[43] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 101.

[44] Тамсама.

31. **Куц Васіль** — былы засядацель гродзенскага ніжняга земскага суда. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832–1840 гг. па ўказу гродзенскага губернскага праўлення ад 27 чэрвеня 1832 г. па справе аб размене грошай, нарабаваных на старадварэцкай паштовай станцыі (*Гл. Ясінскі М.)* Без пасады (1833 г.); займаецца прыватнай (партыкулярнай) працай, удовы, мае сына Мікалая, які пры ім (1834–1836 гг.); мае схільнасць да моцных напояў, займаецца складаннем пасквільных прашэнняў розным асобам (1837 г.); нецвярозых паводзінаў і займаецца пісаннем пасквільных просьбаў (1838 г.); мае сына Мікалая, які ўтрымліваецца ў астрозе ў Вільне за крадзеж (першая палова 1839 г.); выбыў у Палтаўскую губ. (1840 г.)[45]

*Згодна з уласнымі сведчаннямі В. Куц паходзіць з ваенных обер–афіцэрскіх дзяцей Санкт–Пецярбурга. На цывільную службу паступіў у Сенат у 1804 г. і звольніўся ў 1809 г. У гэтым жа годзе пачаў ваенную службу ў арміі гр. Вітгенштэйна і праслужыў 15 год, 3 месяцы і 16 дзён. Удзельнічаў у кампаніі 1812 г. У 1826 г. прызначаны ў гродзенскі ніжні земскі суд засядацелям ад кароны. Згодна з версіяй В. Куца ў траўні 1831 г. ён быў цяжка хворы на халеру і таму не мог прысутнічаць на месцы службы падчас рэвізіі губернатарам М. Мураўёвым прысутных месцаў, за што нібыта і быў звольнены. У 1830–1832 г. В. Куц знаходзіўся пад следствам па справе аб нанясенні пабоеў жонцы шынкара ў в. Масалянах, за тое, што яна нібыта адмовілася адпусціць яму без грошай гарнец мёду. Сам Куц сцвярджаў, што ён выкрыў у гэтай карчме фальшывыя піцейныя меры і пры спробе канфіскаваць іх жонка шынкара з «азардностью» кінулася на яго. Акрамя таго, у 1836 г. В. Куц фігураваў у справе акцёра Енджыеўскага (гл. ніжэй). Згодна са сведчаннямі прасіцельніцы «нейкі падсудны чыноўнік Куц у п'яным выглядзе вазіў па гораду ўсю справу і патрабаваў 3 руб., абяцаючы за гэта пратэкцыю»[46].*

32. **Сухадольскі Ігнат** — адстаўны падпалкоўнік польскіх войскаў. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832–1839, 1840–1843 і 1844–1849 гг. Па ўказанню імператара ад 11 чэрвеня 1832 г. аддадзены пад сакрэтны нагляд паліцыі як асоба, якая «прыбыла з унутраных губерняў Расіі». «Паводзіць сябе не вельмі сціпла, займаецца хатнімі справамі». Кавалер (1832–1835 г.). Па звестках на 1838 г. жанаты на дваранцы Грабіцкай і мае сына Івана, якому 4 гады (Сухадольскаму

[45] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 99, 561; воп. 4, спр. 434; воп. 19, спр. 1381,1384, 1624; воп. 20, спр. 63, 270.

[46] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 219. Арк. 6; воп. 10, спр. 2242. Арк. 3.

на той час 62 г.). У 1839 г. выехаў у Лідскі ўезд, але шмат часу праводзіў у Горадні, таму зноў быў унесены ў ведамасці паднаглядных па гораду. У 1843 г. выехаў на жыхарства ў Вільню. У 1844 г. павярнуўся ў Горадню. Памёр у Навагрудку ў верасні 1849 г. ва ўзросце 80 гадоў[47].

*У 1816 г. падпалкоўнік польскіх войскаў 1–га егерскага палка І. Сухадольскі атрымаў права на водпуск ад службы, які правёў у Горадні. У 1822 г. адстаўны падпалкоўнік І. Сухадольскі па пашпарце літоўскага ваеннага губернатара атрымаў дазвол на выезд у Аўстрыю, Прусію, Італію і Францыю, але быў спынены ў Варшаве, паколькі цэсарэвіч Канстанцін забараніў яму выезд за мяжу, і зноў адасланы ў Горадню[48].*

33. **Задарноўскі Восіп** знаходзіўся пад сакрэтным наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1832–1834 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатар ад 24 чэрвеня 1832 г. за дапамогу паўстанцам (зносіны з паўстанцамі). У студзені 1834 г. перамешчаны губернскім праўленнем пісьмаводам у Слонімскі ўезд[49].

Згодна з фармулярным спісам за 1852 г. В. Задарноўскі (50 год) паходзіць з дваран. Пасля заканчэння курса ва ўезным вучылішчы прызначаны пры канцылярыі гродзенскага ўезнага маршалка дваранства (1 лістапада 1821 г.);

- перамешчаны ў штат канцылярыі гродзенскага дваранскага дэпутацкага сходу (18 снежня 1823 г.);
- нададзены чын калежскага рэгістратара (31 снежня 1825 г.);
- узнагароджаны чынам губернскага сакратара (31 снежня 1828г.);
- прызначаны перакладчыкам гродзенскага дваранскага дэпутацкага сходу (24 сакавіка 1831 г.);
- па прашэнні пераведзены на вакансію пісьмаводцы пры справах слонімскага ўезнага маршалка дваранства (3 лютага 1834 г.);
- указам Сената 25 траўня 1836 г. узведзены ў чын калежскага сакратара;
- узнагароджаны знакам адрознення бездакорнай службы за 15 год.

[47] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 99, 102, 561; воп. 4, спр. 434; воп. 19, спр. 1381,1384, 1625; воп. 20, спр. 270, 986, 1186, 1579; воп. 29, спр. 99.

[48] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 11, спр. 405. Арк. 120; Ф. 1, воп. 1, спр. 762. Арк. 1–2; спр. 2989. Арк. 1, 5.

[49] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 99, 558, 560.

*Жалавання атрымоўвае 300 руб. Жанаты на дваранцы Тэрэзіі Юргялевіч. Дзяцей не мае*[50].

34. **Фіжан Іван** — былы гаспадар дзявочага пансіёна. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1834–1840 гг. па Вышэйшай канфірмацыі згодна з указам гродзенскага губернскага праўлення ад 31 студзеня 1834 г. за датычнасць да справы эмісара М. Шыманскага. Займаўся «хатнімі справамі». Удовы, меў сына і дачку. У 1840 г. выбыў у Кобрынскі ўезд. У 1841 г. разам з дачкой знаходзіўся ў маёнтку Антопаль княгіні Гедройц[51].

*І. Фіжан — знакавая постаць у сістэме гродзенскай адукацыі XIX ст. У 20–30-я г. трымаў прыватны пансіён для дзяўчынак (у 1833 г. налічвалася 32 вучаніцы). Тэрмін навучання — каля трох год. У 1833 г. улады выкрылі сувязь І. Фіжана, а таксама яшчэ 2-х настаўнікаў пансіёна з эмісарам М. Шыманскім. Сам Фіжан быў арыштаваны, а пансіён зачынены. Што праўда, у 1834 г. сын Івана — Восіп спрабаваў адчыніць прыватны дзявочы пансіён для адукацыі шляхетных дзявіц, але дазволу не атрымаў.* ***Восіп Іванавіч Фіжан*** *з 1823 г. навучаўся ў Віленскім універсітэце. У 1824 г. выдаў французскую хрэстаматыю. З 1833 г. працаваў настаўнікам французскай мовы ў гродзенскай гімназіі*[52].

35. **Дабравольская Анеля** — жонка тытулярнага саветніка капітана Дабравольскага. Знаходзілася пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1834–1838 гг. па Вышэйшай канфірмацыі згодна з указам гродзенскага губернскага праўлення ад 14 красавіка 1834 г. за датычнасць да справы эмісара М. Шыманскага. Пасля вызвалення з-пад арышту знаходзілася пры сваім мужы. У 1838 г. з мужам выехала ў Навагрудскі ўезд у мястэчка Мір[53].

36. **Хаецкі Іван** знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1834–1835 гг. па Вышэйшай канфірмацыі згодна з указам гродзенскага губернскага праўлення ад 14 красавіка 1834 г. за датычнасць да справы эмісара М. Шыманскага. Пасля вызвалення з-пад

---

[50] НГАБ у Гродне. Ф. 2, воп. 37, спр. 589. Арк. 1–3.

[51] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 561, 559; воп. 4, спр. 434; воп. 19, спр. 898, 1381, 1384, 1622, 1625, 1623, 1624; воп. 20, спр. 63, 269, 270, 506.

[52] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 158. Арк. 2; воп. 19, спр. 358. Арк. 2, 3; воп. 27, спр. 679. Арк. 1; спр. 295. Арк. 18, 23; Ф. 38, воп. 3, спр. 2. Арк. 23–24.

[53] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 561, 559; воп. 4, спр. 434; воп. 19, спр. 898, 1381, 1384, 1622, 1624; воп. 20, спр. 63.

арышту знаходзіўся пры бацьках, а пасля пісьмаводцам пры Будаўнічай камісіі[54].

37. **Малішэўскі Андрэй** — дваранін. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1834–1835 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 21 верасня 1834 г. за датычнасць да справы М. Шыманскага. Пасля вызвалення з–пад арышту займаўся пісьмаводствам у гродзенскім дваранскім дэпутацкім сходзе. Кавалер[55].

38. **Енджыеўскі Тадэвуш** — акцёр. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1835–1837 гг. і 1840 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 24 чэрвеня 1835 г. (*за што — не паказана*). Быў акцёрам пры гродзенскім вольным тэатры. Кавалер. Заўважаны нецвярозым (1837 г.)[56]

*У снежні 1835 г. — лютым 1836 г. гарадзенскія ўлады праводзілі следства ў справе нанясення крыўды Т. Енджыеўскім «княгіне» Я. Пузыні. Як вынікае з лісту маці пацярпелай, яе дачка Яўгенія, якая была замужам у Мінскай губ. за кн. Пузыняй, «але па некаторым абставінам знаходзілася ў трупе тутэйшых акцёраў», 12 снежня 1835 г. на сваёй кватэры была збіта акцёрам Т. Енджыеўскім, які зарабаваў усе яе рэчы і аблаяў яе апошнімі словамі, у выніку чаго яе дачка «не мае пасцелі на чым спаць». У сваю чаргу, Тадэвуш падаў контрскаргу на Яўгенію, што менавіта тая збіла яго. Падчас следства па справе аб нанясенні ўзаемных пабоеў і «распутным іх паміж сабою жыцці», паліцыя падцвердзіла той факт, што «Я. Пузыня падчас далучэння да Т. Енджыеўскага знаходзілася ў нэнзе, але той апрануў яе ўласным сваім адзеннем», і «так званая княгіня Пузыня займаецца распутным жыццём і зусім непрыстойных паводзінаў»[57].*

39. **Гартц Фёдар** — былы студэнт Віленскага ўніверсітэта. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1835–1837 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 6 снежня 1835 г. (*за што — не паказана*). Працаваў настаўнікам у гродзенскай губернскай гімназіі. Па распараджэнні свайго начальства ў 1837 г. перамешчаны ў мястэчка Крожы Расіенскага ўезду Віленскай губ. на пасаду настаўніка мясцовай гімназіі. Кавалер[58].

---

[54] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 561, 559; воп. 4, спр. 434; воп. 19, спр. 898.

[55] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп.. 4, спр. 434; воп. 19, спр. 898.

[56] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1381, 1384; воп. 20, спр. 270.

[57] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 10, спр. 2242. Арк. 3, 4, 10.

[58] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1381, 1384, 1622.

*Прычынай, па якой Ф. Гартц патрапіў пад паліцэйскіх нагляд, з яго слоў, стала тое, што ён у 1833 г., маючы намер працягнуць адукацыю ў Маскве, падаваў прашэнне на выезд гродзенскаму губернатару М. Мураўёву ў мундзіры ліквідаванага Віленскага ўніверсітэта (з–за адсутнасці іншай вопраткі) і тым самым «выклікаў да сябе яго падазронасць». Пасля гэтага М. Мураўёў прыватным чынам напісаў маскоўскаму обер–паліцмайстару ліст з просьбай прыглядаць за Ф. Гарцам, як за выхаванцам былога Віленскага ўніверсітэта. Той у сваю чаргу, даў пісьмовае распараджэнне аб арганізацыі паліцэйскага нагляду. Гэтая мера «бязвінна ганьбіць і абцяжарвае мяне … як чалавека рускага, які свята шануе Урад». У жніўні 1837 г. пераведзены ў крожскую гімназію выконваючым абавязкі старшага настаўніка гісторыі і статыстыкі* [59].

*Згодна з фармулярным спісам за 1838 г. Фёдар Карлавіч Гартц (24 гады) чыноўнік 10–га класа, указам Сената ад 20 красавіка 1836 г. звольнены з падушнага акладу*

- *скончыў курс гродзенскай гімназіі і паступіў у Віленскі ўніверсітэт (1 верасня 1829 г.);*
- *пасля закрыцця ўніверсітэта працягваў навучанне ў Маскоўскім універсітэце, дзе атрымаў ступень кандыдата;*
- *прызначаны памочнікам старэйшых настаўнікаў у гродзенскай гімназіі (18 снежня 1835 г.)*[60]

40. **Высоцкі Міхал** — ксёндз бернардынскага кляштара. Кароткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1837 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 26 чэрвеня 1837 г. па падазрэнні ў тым, што хаваў у прыходскім касцёле Аўгустоўскай губ. селяніна Янаўкі скрыні з порахам і патронамі. Трымаўся ў гродзенскім бернардынскім кляштары. У 1837 г. па распараджэнні кіраўніка Віленскай епархіі адпраўлены ў нясвіжскі бернардынскі кляштар (Мінская губ.)[61]

*Міхал Высоцкі першапачаткова знаходзіўся ў віленскім кляштары бернардынцаў, пасля навучаўся ў Троках, Коўне і Горадні, дзе ён быў высвечаны ў 1821 г. Пасля 3–х гадоў знаходжання ў гродзенскім кляштары адышоў у Прусію, а праз некалькі гадоў перайшоў мяжу ў Царства Польскае, дзе пэўны час бадзяўся без заняткаў.*

[59] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 919. Арк. 1, 3, 12.

[60] НГАБ у Гродне. Ф. 38, воп. 3, спр. 2. Арк. 23–24.

[61] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1384, 1622.

*Прызначаны прыходскім святаром у Янаўку, дзе часта аддаваўся п'янству. Пасля выкрыцця ў янаўскім касцёле пораху і куль касцельнае начальства загадала выслаць яго ў Горадню, паколькі М. Высоцкі «насамрэч належыць мясцоваму кляштару бернардынцаў». Функцыі па ажыццяўленню паліцэйскага нагляду былі ўскладзены на ігумена кляштара. Цывільнае начальства палічыла гродзенскі кляштар не зусім надзейным і загадала перавесці М. Высоцкага «у больш аддалены ад мяжы кляштар». 26 кастрычніка 1837 г. Высоцкі быў высланы ў Нясвіж*[62].

41. **Жан(д)лоўскі** (*імя не паказана*) — канцылярыст гродзенскай казённай палаты. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1837–1838 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 15 студзеня 1837 г. за заняткі карцёжнай гульнёй. Кавалер. Паліцыяй не заўважаны, каб працягваў граць. У 1838 г. пасля выхаду ў адстаўку выехаў у Рыгу[63].

42. **Пукінскі Восіп Мельхіёравіч** — дваранін. Лічыўся па спісах асоб, што знаходзяцца пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1837–1838 гг. па прадпісанні губернатара ад 30 верасня 1837 г. (*за што — не паказана*). Па росшукам ў Горадні не знойдзены[64].

*Дваранін Віленскай губ., удзельнік паўстання 1831 г. В. Пукінскі ў 1837 г. атрымаў пашпарт ад віленскага цывільнага губернатара на выезд і пражыванне ў Горадні тэрмінам на 1 год. Паколькі ён знаходзіўся пад наглядам паліцыі, віленскі губернатар аднёсся да гродзенскага губернатара аб арганізацыі азначанай меры ў Горадні. Гродзенская паліцыя данесла губернатару, што В. Пукінскі ў горадзе не знойдзены. Віленскі губернатар у 1838 г. паведаміў, што В. Пукінскі знаходзіцца ў Горадні пры мясцовым шляхетным пансіёне і просіць падоўжыць яму пашпарт яшчэ на 1 год. Зноў былі арганізаваныя пошукі В. Пукінскага не толькі ў горадзе, але па ўсёй губерні, але вынікаў яны не прынеслі*[65].

43. **Ключэўскі Яўстафій** — вучань гродзенскага шляхетнага пансіёна. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1837–1838 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 24 верасня 1837 г. за зроблены надпіс на крыжы, які стаіць паміж г. Марыямпалем і в. Квяцішкі на могілках забітых паўстанцаў «Nadgrobek walc..(*далей*

[62] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 743. Арк. 1, 2, 7, 10, 12, 14, 25.

[63] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1384, 1622, 1625, 1623.

[64] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1622, 1625, 1623.

[65] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1402. Арк. 1, 2, 4,–6, 8; воп. 19, спр. 1644. Арк. 1.

*неразборліва*) polakow». З 1839 па 1841 г. пад наглядам гродзенскай земскай паліцыі ў маёнтку Парфяновічах. Кавалер[66].

44. **Паліткоўскі** (*імя не паказана*) — паручнік, звольнены за благія паводзіны з Аланецкага пяхотнага палка. Кароткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1838 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 26 кастрычніка 1834 г. за благія паводзіны. Прыбыў у Горадню 3–га студзеня 1838 г. для хадатайніцтва аб снабжэнні яго пашпартам на праезд у Сувалкі. — «Мае схільнасць да моцных напояў»[67].

*Паліткоўскі пасля звальнення з Аланецкага палка быў прызначаны ў Аўгустоўскай губ. на службу памежным, а пасля лясным стражнікам, але звольнены з гэтых пасад за благія паводзіны. У 1837 г. падаў просьбу ваеннаму начальніку Аўгустоўскай губ. аб дазволе на выезд у Горадню да сваяка Тамашэўскага. Дазвол атрымаў. Пасля прыбыцця ў Горадню, выявілася, што Тамашэўскага тут няма. Выехаў назад у Царства Польскае*[68].

45. **Нагумовіч** (*імя не паказана*) — доктар. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1839–1840 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 6 лютага 1839 г. па справе М. Валовіча. Займаўся лячэбнай практыкай. Жанаты[69].

*Нагумовіч Ізыдор (1800–1842) паходзіць з Магілёва. Пасля заканчэння школы ў Вільне вучыўся ў 1820–1825 г. на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. Абараніў доктарскую працу «Аб вонкавых дэфармацыях ніжніх канечнасцей». У 1827 г. паступае на службу ў Самагіцкі грэнадзёрскі полк, пасля звальнення з якога на пачатку 30–х гадоў займаўся вольнай лекарскай практыкай у Ваўкавыскім уездзе. Упершыню звярнуў на сябе ўвагу ўладаў у лютым 1833 г., калі падчас балю ў в. Петрашэвіцах Ваўкавыскага ўезду патрабаваў ад прапаршчыка Мацыеўскага зняць адзнаку за ўдзел у паходзе супраць польскіх паўстанцаў. Арыштаваны ў траўні (чэрвені) 1833 г. за аказанне медычнай дапамогі эмісару М. Валовічу і веданне і неданясенне аб яго планах. Перададзены ваенна–палявому суду. Прызначаны да высылкі ў Табольскую губ., якая пасля была заменена на Вяцкую. У 1837 г. атрымаў дазвол імператара на вяртанне на радзіму. Пэўны*

[66] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1622, 1625, 1623; воп. 20, спр. 63, 270, 506.

[67] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 19, спр. 1622, 1625, 1623.

[68] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 744. Арк. 1, 6.

[69] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 269, 270, 271.

*час жыў у Драгічынскім уездзе, пасля Беластоку. З 1839 г. у Горадні, а таксама працаваў у Друскеніках . У 1841 г. у Горадні выдаў кнігу «Способы лечения минеральными водами в Друскениках» на рускай і польскай мовах*[70].

46. **Юзафовіч Адам** — доктар медыцыны. Кароткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1839 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 28 красавіка 1839 г. за датычнасць да справы эмісара Ш. Канарскага. Займаўся лячэбнай практыкай. Кавалер. У 1839 г. выехаў на жыхарства ў Санкт–Пецярбург[71].

*У 1844 г. працягваў знаходзіцца ў Санкт–Пецярбургу пад тайным наглядам паліцыі*[72].

47. **Урублеўскі Антон Казіміравіч** — канцылярыст, ураджэнец Сакольскага ўезду. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1839–1844 гг. па прадпісаннні гродзенскага губернатара ад 28 красавіка 1839 г. за датычнасць да справы эмісара Ш. Канарскага. Займаў пасаду сакратара гродзенскага «совестного» суда. Па прадпісанні губернатара ад 11 верасня 1844 г. нагляд спынены. Жанаты (жонка Караліна), меў 2–х сыноў[73].

48. **Гарбачэўскі (Гарбашэўскі) Юльян** — канцылярыст, ураджэнец Брэсцкага ўезду. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1839–1844 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 28 красавіка 1839 г. за датычнасць да справы эмісара Ш. Канарскага. Займаў пасаду экспедытара гродзенскай грамадзянскай палаты. Па прадпісанні губернатара ад 11 верасня 1844 г. нагляд спынены. Кавалер[74].

49. **Шумскі Леанард** — былы студэнт Віленскага ўніверсітэта. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1839–1842 гг. па прадпісаннні гродзенскага губернатара ад 27 сакавіка 1834 г. за «*нелепое разглошение в Виленском университете*». Працаваў у канцылярыі дырэкцыі вучылішчаў Гродзенскай губерні. Кавалер.

---

[70] Śliwowska W. Указ. твор. S. 412; Госцеў А., Ігнатовіч Ф., Талерчык А. Ізідор Нагумовіч — лекар і грамадскі дзеяч першай паловы XIX ст. // Дзеячы аховы здароўя і медыцынскай навукі Беларусі і Літвы на пераломе XVIII–XIX ст. Мат. навук–практ канф. Гродна. 1992. С.73–76; НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 434. Арк. 3; воп. 20, спр. 598. Арк. 1–7; Ф. 2, воп. 36, спр. 1728. Арк. 1, 3, 12

[71] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 269, 631.

[72] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 1198. Арк. 1.

[73] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 63, 269, 270, 271, 506, 717, 704, 986, 1186.

[74] Тамсама.

У 1836–1839 гг. лічыўся пад наглядам брэсцкай земскай паліцыі, але стала знаходзіўся ў Вільні[75].

*Шумскі Леанард Антонавіч звольніўся з пасады бухгалтара гродзенскай губернскай гімназіі ў 1864 г. У гэтым жа годзе быў датычны да ваенна–палявой справы над жыхаром Горадні Станіславам Праневічам. Абвінавачваўся ў тым, што разам з братам Станіслава спяваў «абуральны» верш ст. Праневіча «Do Kolozy». Пакінуты на паруках*[76].

50. **Прасінскі Людвік Іванавіч** — доктар медыцыны. Знаходзіўся пад тайным наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1840–1845 гг. па прадпісанні віленскага генерал–губернатара ад 11 красавіка 1840 г. як асоба, якая вярнулася з ссылкі. У Горадні займаўся вольнай лекарскай практыкай. З 1842 г. удовы, меў дзяцей[77].

*Л. Прасінскі ў 1834 г. па канфірмацыі віленскага генерал–губернатара быў высланы ў Волагду (верагодней за ўсё па справе эмісараў). У 1838 г. атрымаў дазвол А. Бенкендорфа пераехаць у Смаленск з тым, каб, «калі ён на працягу года ні ў чым благім заўважаны не будзе, то дазволіць яму ехаць у Віленскую губ.» Падчас свайго знаходжання ў Смаленску Л. Прасінскі «паводзіў сябе добра і, з'яўляючыся вельмі ўмелым медыкам, карыстаўся найлепшымі водгукамі грамадства». У сувязі з гэтым, А. Бенкендорф дазволіў яму вярнуцца на радзіму ў Гродзенскую губ. Прыбыў у Горадню 10 лютага 1840 г. Як вынікае з характарыстыкі гродзенскай лекарскай управы за 1861 г. «Л. Прасінскі стала займаецца вольнай медычнай практыкай, у сапраўднай дзяржаўнай службе па ведамству гродзенскай лекарскай управы не быў, а знаходзіўся на службе ў розных маёнтках памешчыкаў і толькі кораткатэрмінова выконваў абавязкі слонімскага ўезнага ўрача ў 1850 г.» У 1861 г. Л. Прасінскі падаў прашэнне аб прызначэнні яго малодшым акруговым урачом сакольскай акругі*[78].

51. **Сухадольскі Яцак** — дваранін. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1840–1842 гг. па просьбе сакольскага земскага спраўніка ад 23 чэрвеня 1840 г. за датычнасць да справы аб тайным таварystве «Заран». Жыў у Горадні пры бацьках. Кавалер. У 1842–1855 гг.

[75] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 269, 270, 271, 506, 717.

[76] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 34, спр. 2828. Арк. 2, 5, 7, 14, 15.

[77] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 270, 271, 506, 717, 704, 986, 1186.

[78] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 56. Арк. 1–9, спр. 163. Арк. 1, 5; воп. 13, спр. 1217. Арк. 1, 6; ф. 2, воп. 30, спр. 301. Арк. 1–2.

знаходзіўся пад наглядам брэсцкай земскай паліцыі ў сваім маёнтку Валковічах[79].

52. **Эйсымант Восіп** — студэнт Маскоўскай медыка–хірургічнай акадэміі. Кароткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1840 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 3 кастрычніка 1840 г. Жыў у Горадні пры браце[80].

53. **Жэляўскі Караль** — доктар медыцыны, лекар Мурамскага пяхотнага палка. Кароткачасова знаходзіўся пад сакрэтным наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1842 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 19 лютага 1842 г. Разам з палком 18 траўня 1842 г. выступіў у Варшаву.

54. **Забела Павал Сцяпанавіч** — ураджэнец Гродзенскага ўезду, медык. Знаходзіўся пад тайным наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1841–1856 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 2 чэрвеня 1841 г. як выпускнік Віленскай медыка–хірургічнай акадэміі. У розныя гады працаваў уезным урачом, гарадскім урачом, гарадавым штабс–лекарам, урачом гродзенскай акруговай лячэбніцы. Надворны саветнік. Паводзін добрых; выдатных; выдатных ва ўсіх адносінах. Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста 1856 г.[81]

*Згодна з фармулярным спісам за 1841 г. П. Забела, з дваран, пасля заканчэння курса навук у Віленскай медыка–хірургічнай акадэміі зацверджаны лекарам 2–га аддзялення (5 верасня 1836 г.);*

- *згодна з прашэннем Міністра ўнутраных спраў прызначаны ўрачом пры ўстановах смаленскага прыказа грамадскай апекі (15 жніўня 1837 г.);*
- *медычным дэпартаментам МУС, па просьбе, пераведзены ўезным урачом у г. Духаўшчыну (20 сакавіка 1838 г.);*
- *па распараджэнні медычнага дэпартамента МУС пераведзены ўезным урачом у г. Бялый;*
- *згодна з прашэннем медычнага дэпартамента перамешчаны ўезным урачом у Горадню (27 верасня 1840 г.). Кавалер.*

*У Горадні ў 1840–50–я гады інспектарам гродзенскай урачэбнай управы працаваў родны брат Паўла — Казімір, які аказваў яму*

[79] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 270, 271, 506, 717.

[80] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 271.

[81] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 717, 704, 986, 1186, 1579, 1580; воп. 21, спр. 100, 101, 416, 772; воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607, 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838.

*пратэкцыю. У 1845 г. Гродзенскі губернатар падаваў прашэнне аб вызваленні П. Забелы ад тайнага нагляду, але атрымаў адмову віленскага генерал–губернатара Ф. Міркoвіча. У 1864 г. былы ўрач гродзенскай акруговай лячэбніцы П. Забела быў узнагароджаны ордэнам св. Ганны другой ступені*[82].

55. **Яжэўскі Вікенцій Міхайлавіч** — ураджэнец Сакольскага ўезду, адстаўны губернскі сакратар. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1841–1849 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 2 чэрвеня 1841 г. за датычнасць да справы эмісараў. У Горадні жыў ў нанятым доме Ваўпянскага. Хворы, нічым не займаецца (1843 г.); у благіх учынках не заўважаны, аддаецца п'янству (1844 г.); аддаецца п'янству, але рахманага характару (1845 г.); нічым не займаецца, жыве спакойна (1846 г.); нецвярозых паводзінаў (1848 г.). Памёр 20 сакавіка 1849 г. у Бельскім уездзе, ваколіцы Гарнове[83].

*У 1834 г. В. Яжэўскі за кантакты з эмісарам М. Шыманскім па канфірмацыі віленскага генерал–губернатара быў высланы ў суправаджэнні 2–х жандараў у Пермскую губ. Пакаранне адбываў у г. Чардыне. У траўні 1841 г. атрымаў дазвол на вяртанне на радзіму пад нагляд паліцыі. Меў 2–х родных братоў — Аляксандра і Антона, якія па той жа справе былі аддадзены ў вайсковую службу на Каўказ*[84].

56. **Нарановіч Станіслаў Антонавіч** — ардынатар у гродзенскім вайсковым шпіталі. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1841–1843 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 2 чэрвеня 1841 г. за датычнасць да справы эмісараў (?). У Горадні жыў на вул. Маставой у доме Дабжыцкага. Працаваў ардынатарам у гродзенскім вайсковым шпіталі. Меў жонку і 2–х малых. У чэрвені 1843 г. выехаў у Ліду. У 1848–1852 гг. знаходзіўся пад наглядам сакольскай гарадавой паліцыі. Працаваў гарадавым лекарам у Саколцы, атрымоўваў жалаванне 200 руб. і 5 кап. У 1855 г. калежскі асэсар Ст. Нарановіч пад наглядам бельскай гарадавой паліцыі, працаваў гарадавым урачом у Бельску[85].

---

[82] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 1632. Арк. 4; воп. 11, спр. 1300. Арк. 2, 7; воп. 13, спр. 1213. Арк. 1–2; фонд. 2, воп. 38, спр. 609. Арк. 559–560.

[83] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 717, 704, 986, 1186, 1579, 1580; воп. 21, спр. 100, 101, 416, 772; воп. 29, спр. 8, 98.

[84] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 532. Арк. 1–2, 277, 279, 303; Śliwowska W. Указ. твор. S. 246–247.

[85] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 704, 986, 1186; воп. 28, спр. 727.

*Згодна з атэстатам за 1868 г. Ст. Нарановіч (58 год) пасля заканчэння курса навук у Віленскай медыка–хірургічнай акадэміі са ступенню лекара 3–га аддзялення паступіў на службу ў віленскі вайсковы шпіталь ардынатарам (1835 г.)*

- *пераведзены ў Новаінгерманландскі пяхотны полк батальённым лекарам (1836 г.);*
- *пераведзены ў Томска–Ягораўскі полк батальённым лекарам (1837 г.);*
- *пераведзены ў гродзенскі вайсковы шпіталь ардынатарам (17 жніўня 1840 г.), падвышаны ў тытулярныя саветнікі (1840 г.);*
- *звольнены па хатніх справах са службы (15 снежня 1842 г.);*
- *прызначаны сакольскім гарадавым урачом (18 лютага 1844 г.), падвышаны ў калежскія асэсары (1850 г.);*
- *перамешчаны гарадавым урачом у Бельск (1851 г.);*
- *звольніўся са службы па здароўю (1864 г.), падвышаны ў надворныя саветнікі (1865 г.)*

*Жонка Уладзіслава Станіславаўна Джэвіцкая. Дзеці: Ванда (1842 г.н.), Баляслаў (1846 г.н.), Станіслаў (1847 г.н.), Антон (1849 г.н.), Адэль (1855 г.н.), Юзэфа (1858 г.н.), Цэзарый (1859 г.н.), Казімір (1862 г.н.)*[86].

57. **Паўлоўскі Іван** — адстаўны калежскі рэгістратар. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1845–1856 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 25 красавіка 1845 г. за турбаванне імператара найпадданейшымі просьбамі. Служыў у палаце Дзяржаўных маёмасцяў, займаўся прыватнай службай (1851 г.), калежскі рэгістратар, атрымоўваў 97 руб. і 80 кап. у год жалавання (1855 г.). Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста 1856 г.[87]

58. **Крынскі Аўрэліан** — дваранін Гродзенскай губерні. Лічыўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1845–1851 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 30 верасня 1845 г. на падставе зносінаў з віленскім цывільным губернатарам за благія (дурныя) паводзіны. Стала ў Горадні не жыў, а часцей знаходзіўся ў Брэсце. Па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 22 красавіка 1851 г. высланы на

[86] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 31, спр. 187. Арк. 5, 8–9.

[87] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 1579, 1580; воп. 21, спр. 100, 101, 416, 772; воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607, 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838.

жыхарства ў Аланецкую губ. (*за што — не паказана*)[88].

*Палітычны «злачынца» А. Крынскі ў 1856 г. вярнуўся на радзіму з Пензы на падставе манаршага маніфеста. Жыў у Брэсцкім уездзе, знаходзіўся пад наглядам паліцыі[89].*

59. **Максімовіч Канстанцін Восіпавіч** — былы віцэ–губернатар. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1846–1851 гг. па ўказу гродзенскага губернскага праўлення ад 29 чэрвеня 1837 г. як пазбаўлены чыноў і дваранства за злоўжыванні на пасадзе віцэ–губернатара. Памёр у Горадні ў сакавіку 1851 г. ва ўзросце 80 (?) гадоў. У 1837–1846 г. пражываў у маёнтку Русота і знаходзіўся пад наглядам гродзенскай земскай паліцыі. З 1844 г. удовы[90].

*Згодна з фармулярным спісам за верасень 1802 г. Максімовіч К.В. (36 год) з дваран, уласных вёсак не мае, а арандуе ў розных памешчыкаў. На вайсковую службу паступіў у былой Рэспубліцы Польскай у полк Народовай кавалерыі таварышам (1784 г.), дзе праходзіў чынамі*

- *прапаршчыкам (20 лістапада 1786 г.);*
- *падпаручнікам (4 снежня 1788 г.);*
- *паручнікам (3 траўня 1791 г.);*
- *пераведзены ў 7–ы Літоўскі пяхотны полк капітанам (18 жніўня 1792 г.);*
- *маёрам (13 кастрычніка 1793 г.);*
- *а па далучэнні Рэчы Паспалітай да Расійскай імперыі і адкрыцці Літоўскага вярхоўнага праўлення прызначаны быў кн. М. Рапніным у эканамічны аддзел экспедытарам (24 ліпеня 1795 г.);*
- *указам Сената прызначаны саветнікам крымінальнай палаты ў Слонімскую губ. (15 кастрычніка 1796 г.);*
- *пасля ліквідацыі Слонімскай губ. прылічаны ў герольдыю;*
- *а па адкрыцці Літоўска–Гродзенскай губ. імянным указам імператара падвышаны ў надворныя саветнікі і прызначаны саветнікам у гродзенскую казённую палату (3 студзеня 1802 г.).*

*Падчас вайсковай службы Рэспублікі Польскай шмат разоў быў у паходах і бітвах.*

---

[88] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 1579, 1580; воп. 21, спр. 100, 101, 416, 772; воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607.

[89] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 943. Арк. 131.

[90] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 100, 101, 416, 772; воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607.

*У 1819–1826 г. калежскі саветнік К. Максімовіч займаў пасаду гродзенскага віцэ–губернатара і, адпаведна, ачольваў губернскую казённую палату. У 1826 г. у гэтай установе былі выкрыты значныя недахопы грашовых сум. Была створана адмысловая камісія для праверкі рахункаў казённай палаты, якая падчас папярэдняга следства выявіла, што казначэй гэтай палаты Заха ў 1816–1823 г. утойваў і не запісваў сумы (разам 15824 р. срэбрам і 188715 руб. асігнацыямі (лічбы не канчатковыя)), што паступалі ў казначэйства. Дзеля спагнання нястачы былі канфіскаваныя ўсе каштоўныя паперы фігурантаў гэтай справы, а на іх нерухомую маёмасць накладзены секвестр. У К. Максімовіча быў секвестраваны маёнтак Каменная Русота разам з вёскай Пальніцай (112 душ), а таксама двухпавярховая камяніца з прыбудовамі ў Горадні (дом віцэ–губернатара), якая папярэдне была ацэнена ў 120 тыс. руб. асігнацыямі. У 1827 г. губернскі маршалак дваранства кн. Чацвярцінскі звярнуўся да Канстанціна Паўлавіча з просьбай дазволіць набыць азначаную камяніцу для патрэб дваранскага сходу за 120 тыс. руб. У сваю чаргу, цэсарэвіч звярнуўся па кансультацыю па гэтым пытанні да сенатара М. Навасільцава, які выказаўся супраць таго, каб дом прадаваўся ў абыход існуючых правілаў, г.зн. без правядзення аўкцыёна.*

*У 1833 г. жонка К. Максімовіча Вікторыя звярталася да А. Бенкендорфа з просьбай пасадзейнічаць у найхутчэйшым вырашэнні судовай справы, якая цягнулася ўжо 6 год, што «давяло іх да поўнай нэнзы». Таксама прасіла імператарскага дазволу на тое, каб хоць частка даходаў з іх маёнтка паступала на іх утрыманне*[91].

60. **Броўда Вольф** — габрэй. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1848–1857 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 30 сакавіка 1848 г. па справе аб прывозе з–за мяжы фальшывага (грашовага) білета. Займаўся камерцыйнымі справамі[92].

61. **Гінтаўт Іван** — іераманах францысканскага кляштара. Кароткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1848 г. (*за што — не паказана*). Па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 13 жніўня 1848 г. пераведзены ў віленскі францысканскі кляштар[93].

[91] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 32, спр. 1. Арк. 35–36; воп. 27, спр. 286. Арк. 1–2; фонд. 6, воп. 1, спр. 226. Арк. 5, 10–15, 21.

[92] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 772; воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607, 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838, 937.

[93] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 772.

*Гінтаўт І. манах драгічынскага францысканскага кляштара (Кобрынскі ўезд) знаходзіўся пад наглядам паліцыі згодна з указам гродзенскага губернскага праўлення ад 18 жніўня 1839 г. за ўдзел у паўстанні 1831 г. У першай палове 40-х гадоў знаходзіўся ў Навагрудскім францысканскім кляштары. Пасля яго закрыцця ў 1845 г. і пераводу ўсіх манахаў у Горадню, яшчэ некаторы час з прычыны хваробы знаходзіўся ў Навагрудку*[94].

62. **Цэхановіч Восіп** — дваранін Віленскага ўезду. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1848–1856 гг. па водзыву віленскага паліцмайстра ад 3 жніўня 1848 г. за датычнасць да палітычнай справы. У Горадні займаўся выкладаннем музыкі (настаўнік музыкі і танцаў). Меў жонку і дзяцей. Вызвалены ад нагляду на падставе манаршага маніфеста 1856 г.[95]

63. **Швыкоўскі Іван** — памешчык Брэсцкага ўезду, канцылярыст дваранскага дэпутацкага сходу. Кароткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1848 г. па прадпісанні губернатара ад 2 чэрвеня 1847 г. за датычнасць да справы аб даносах на памешчыкаў Брэсцкага ўезду, прыналежных нібыта да злачыннага таварыства. Стала жыў у Брэсцкім уездзе. У 1847–1849 гг. быў пад наглядам брэсцкай земскай паліцыі. Жыў у сваім маёнтку Мінковічах[96].

64. **Леймінг** (*імя не паказана*) — адстаўны прапаршчык. Кароткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1848 г. па прадпісанні губернатара ад 10 красавіка 1848 г. за распаўсюджванне нядобранадзейных чутак супраць ураду. Паводзінаў нецвярозых і ўвогуле блага сябе паводзіць. Па распараджэнні начальства высланы ў Закаўказскі край[97].

*Леймінг — падпаручнік Грузінскага лінейнага №12 батальёна. Быў дасланы этапным парадкам у Горадню з крэпасці Тацін-Хан Шур па справе аб забойстве ксяндза Любавіцкага. Аказаўся нявінным. Адначасова з гэтым на Каўказе ў вытворчасці былі справы аб распутным жыцці Леймінга з жанчынай Грэмбіцкай і крадзяжы гадзінніка ў палкоўніка Ягодзіна*[98].

[94] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 1590. Арк. 1, 3.

[95] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 772; воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607, 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838.

[96] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 772; воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607.

[97] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 772; воп. 29, спр. 8.

[98] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 1184. Арк. 1, 4, 5.

65. **Янкоўскі Тэафіл** — адстаўны губернскі сакратар. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1848–1849 гг. па прадпісанні губернатара ад 10 красавіка 1848 г. за распаўсюджванне нядобранадзейных чутак супраць ураду. Знаходзіўся пад арыштам. У лютым 1849 г. высланы на жыхарства ў Казанскую губ.[99]

*У 1848 г. Янкоўскі Тэафіл Міхайлавіч у кандытарскай Плоцкага ў Горадні згубіў пярсцёнак з надпісам у памяць Панятоўскага. Падчасператрусу на яго кватэры былі выяўлены «крамольныя» паперы, між іншым перапісаная ад рукі справаздача польскага эміграцыйнага камітэта ў Парыжы за 1832 г. Падчас следства знаходзіўся ў сакрэтнай камеры гродзенскай турмы. Пастановай галоўнакамандуючага дзеючай арміі прысуджаны як асоба нядобранадзейная да высылкі ў Казанскую губ. пад пільны нагляд паліцыі. У лютым 1849 г. высланы з Горадні ў суправаджэнні жандара. 20 сакавіка 1849 г. прыбыў у Казань. У снежні 1849 г. атрымаў дазвол міністра ўнутраных спраў на пераводу Пермскую губ. для паступлення на службу. У ссылцы ажаніўся. У 1856 г. атрымаў амністыю. У 1857 г. знаходзіўся ў Пермскай губ., шукаў там месца службы*[100].

66. **Кавалеўскі Аўгусцін** — вучань гродзенскай гімназіі. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1848–1856 гг. па прадпісанні губернатара ад 17 снежня 1848 г. за датычнасць да справы аб уцёках за мяжу канцылярыстаў Паплаўскага, Цяшэйкі і Адамкевіча. У 1850–я гады служачы канцылярыі губернатара, губернскі сакратар. Атрымоўваў 286 руб. жалавання ў год. Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста 1856 г.[101]

*Вядома, што ўцёкі Цяшэйкі і Паплаўскага не ўдаліся, і яны былі адданыя ў салдаты на Каўказ*[102].

67. **Александровіч Антон** — канцылярыст гродзенскага прыказа грамадскай апекі. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1848–1856 гг. па прадпісанні губернатара ад 17 снежня 1848 г. за датычнасць да справы аб уцёках за мяжу канцылярыстаў Паплаўскага, Цяшэйкі і Адамкевіча. У 1850–я гады губернскі сакратар. Атрымоўваў

[99] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 8, 98.

[100] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 78. Арк. 1, 10, 19–21, 31, 53, 57; воп. 28, спр. 833. Арк. 1, 3, 8.

[101] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607, 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838.

[102] Śliwowska W. Указ. твор. S. 107, 475.

225 руб. жалавання ў год. Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста 1856 г.[103]

68. **Курневіч Казімір** — ураджэнец Слонімскага ўезду, памочнік кантралёра гродзенскай казённай палаты. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1848–1856 гг. па прадпісанні губернатара ад 17 снежня 1848 г. за датычнасць да справы аб уцёках за мяжу канцылярыстаў Паплаўскага, Цяшэйкі і Адамкевіча. У 1850–я гады губернскі сакратар. Атрымоўваў 171 руб. 69 кап. жалавання ў год. Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста 1856 г.[104]

*У 1840 г. вучань віленскай гімназіі Казімір Курневіч аказаўся датычным да справы аб «зламысніках». У кастрычніку 1840 г. арыштаваны і высланы з Пружан у Вільню разам з усімі знойдзенымі ў яго паперамі. У снежні 1840 г. генерал–губернатар Ф. Міркові загадаў вызваліць К. Курневіча і дазволіць выехаць на месца яго жыхарства ў Слонімскі ўезд*[105].

69. **Петрукевіч Антон** знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1849–1853 г. па водзыву лідскага гараднічага ад 29 снежня 1849 г. як асоба, пазбаўленая дваранскай годнасці за складанне фальшывых дакументаў. Займаўся прыватнай службай. Жанаты, меў дзяцей. Памёр у траўні 1853 г.[106]

70. **Кярсноўскі** (імя не паказана) — канцылярны чыноўнік гродзенскай палаты грамадзянскага суда. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1850–1851 гг. па водзыву старшыні гродзенскай грамадзянскай палаты ад 15 лютага 1850 г. па справе аб пазыке грошай у Дзяржаўным банку па фальшывых паперах. Знаходзіўся пад арыштам. Высланы ў Вільню ў 1851 г.[107]

71. **Стралкоўскі Фелікс** — ураджэнец Гродзенскага ўезду, канцылярны чыноўнік гродзенскай палаты грамадзянскага суда. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1850–1856 гг. па водзыву старшыні гродзенскай грамадзянскай палаты ад 15 лютага 1850 г. па справе аб пазыке грошай у Дзяржаўным банку па фальшывых

[103] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607, 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838.

[104] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 8, 98, 99, 607, 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838.

[105] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 20, спр. 259. Арк. 1, 3, 15.

[106] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 99, 607, 608; воп. 28, спр. 278, 457.

[107] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728.

паперах. Служыў у гродзенскай грамадзянскай палаце. Атрымоўваў 78 руб. жалавання ў год. Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста[108].

72. **Ісаковіч Аляксандр** — ураджэнец Кобрынскага ўезду, канцылярны чыноўнік гродзенскай палаты грамадзянскага суда. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1850–1856 гг. па водзыву старшыні гродзенскай грамадзянскай палаты ад 15 лютага 1850 г. па справе аб пазыке грошай у Дзяржаўным банку па фальшывых паперах. Служыў у гродзенскай грамадзянскай палаце, губернскі сакратар. Атрымоўваў 108 руб. жалавання ў год. Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста[109].

73. **Шаблоўскі Клямент** — чыноўнік лідскага земскага суда. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1850–1853 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара за «непахвальныя» паводзіны. Служыў у гродзенскім земскім судзе[110].

74. **Араноўская Сафія** — дваранка. Знаходзілася пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1851–1856 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 23 жніўня 1851 г. за «нядобранадзейны» вобраз думак. У Горадні жыла пры сваяках. Вызвалена з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста[111].

*З'яўлялася выхаванкай дзявочага пансіёна Германа, што ў Вільні. У 1848 г. віленская над палітычнымі арыштантамі камісія, выявіла, што дзявіца Сафія падзяляла з сваімі сяброўкамі «нядобранадзейны» вобраз думак супраць урада, намаўляла ілжывыя паняцці і г.д. У сувязі з гэтым віленскі генерал–губернатар загадаў распаўсюдзіць на С. Араноўскую паліцэйскі нагляд[112].*

75. **Шапіра Моўша** — габрэй. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1852–1856 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 22 лютага 1852 г. за зносіны з польскім выхадцам габрэем Тарноўскім. Жыў у Горадні ва ўласным заезным доме. Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста[113].

---

[108] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838.

[109] Тамсама.

[110] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 608; воп. 28, спр. 278, 457.

[111] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 29, спр. 608; воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838.

[112] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 777. Арк. 1, 2, 7, 9.

[113] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 278, 457, 640, 728, 838.

76. **Шапіра Аўсей** — *гл. Шапіру Моўшу*.

77. **Шапіра Ёха** — *гл. Шапіру Моўшу*.

78. **Хайноўскі Вікенцій** — дваранін Беластоцкага ўезду. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1853–1856 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 7 кастрычніка 1853 г. (*за што — не паказана*). У Горадні займаўся прыватным пісьмаводствам. Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста[114].

79. **Кацуцэвіч Юльян** — драматычны акцёр. Кораткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1853 г. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 18 лістапада 1853 г. на падставе распараджэння генерал–губернатара за картачную гульню. Выехаў у г. Беласток[115].

*Кацуцэвіч Юльян Казіміравіч — беластоцкі грамадзянін. У 1842–1846 г. антрэпрэнёр трупы, у 1846–1852 гг. акцёр трупы Р. Банькоўскай. У 1852 г. падаў прашэнне з просьбай быць антрэпрэнёрам у Беластоку (меў уласны гардэроб, дэкарацыі і бібліятэку) з тым, каб прадстаўленні даваліся на рускай і польскай мовах. У лістападзе 1853 г. выехаў у Горадню (на гастролі?)[116].*

80. **Тамашэўскі** (*імя не паказана*) — адстаўны штаб–лекар. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1854–1856 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 12 снежня 1852 г. як выпускнік Віленскай медыка–хірургічнай акадэміі. У Горадні займаўся вольнай практыкай. Надворны саветнік (1856 г.) Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста[117].

*У 1872 г. удава штаб–лекара Дамініка Тамашэўская хадатайнічала перад уладамі аб аказанні ёй матэрыяльнай дапамогі. Сын Міхал у гэты час быў вольным слухачом у Маскоўскім універсітэце, старэйшая дачка Анастасія замужам, а малодшая Генрыета знаходзілася пры маці[118].*

81. **Каткоўскі Іаган** — былы вікарны Цярлеўскага касцёла. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1854–1855 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 3 траўня 1854 г. на падставе

[114] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 457, 640, 728, 838.

[115] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 457.

[116] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 542. Арк. 1, 2, 5.

[117] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 640, 728, 838.

[118] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 23, спр. 243. Арк. 1, 3.

вышэйшага павялення за неправільнае хрышчэнне немаўляці праваслаўнага вераспавядання. Утрымліваўся ў кляштары францысканцаў[119].

*Справа І. Каткоўскага аб неправільным ахрышчэнні немаўляці была прадстаўлена на вырашэнне імператара, які 31 кастрычніка 1853 г. загадаў І. Каткоўскага, як ненадзейную асобу, назаўсёды выдаліць з прыходу ў кляштар пад пільны нагляд паліцыі з забаронай выконваць духоўныя трэбы[120].*

82. **Хабжынскі Іван** — дваранін Кобрынскага ўезду. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1854–1855 гг. па прадпісанні гродзенскага губернатара ад 13 ліпеня 1854 г. за картачную гульню. У 1854 г. высланы ў Беласток да следчай камісіі. 12 студзеня 1856 г. выбыў на радзіму ў Кобрынскі ўезд. У 1857 г. знаходзіўся пад наглядам брэсцкай гарадавой паліцыі. Служыў у брэсцкім земскім судзе[121].

*Іван Восіпавіч Хабжынскі ў 1849 г. быў абвінавачаны шэфам мясцовых жандараў баронам Бістромам у картачным махлярстве. У лютым 1850 г. утрымоўваўся ў мясцовай турме па падазрэнні ў крадзяжы пасылак на пошце[122].*

83. **Лаўроў Пётр** — ураджэнец Херсонскай губ., калежскі рэгістратар. Знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1855–1859 гг. па прадпісанні віленскага генерал–губернатара, якое было выкладзена ў загадзе гродзенскага губернатара ад 16 лютага 1855 г. за тое, што забяспечваў Яноўскіх сялян фальшывымі пасведчаннямі. Жанаты. Памёр у 1859 г.[123]

84. **Гарныш Міхал** — дваранін Брэсцкага ўезду. Кароткачасова знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1856 г. на падставе распараджэння генерал–губернатара ад 18 красавіка 1855 г. за пакаранне селяніна Паўла Гулая, ад чаго той памёр на 8–ы дзень. З 9 красавіка 1856 г. у Горадні. Вызвалены з–пад нагляду на падставе манаршага маніфеста[124].

---

[119] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 640, 728.

[120] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 474. Арк. 1, 4.

[121] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 640, 728, 937.

[122] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 1181. Арк 3, 8, 21.

[123] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 728, 838, 937; воп. 22, спр. 996.

[124] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 28, спр. 838.

**Любовь Зорина (Гродно)**

# Гродненщина религиозная. 1944 — 1964 гг.

Жители Гродненской области стали советскими гражданами в сентябре 1939 года, однако коренные изменения в их религиозной жизни произошли после II Мировой войны. Архивные документы рисуют яркую картину преследования священников, уничтожения общин, угасания у людей, особенно молодых, веры в Бога, и перехода общества к атеизму. Эти процессы мало интересовали профессиональных историков ввиду бесперспективности для защиты диссертаций и карьерного роста, поэтому материалы по ним до сего дня не введены в научный оборот. Нельзя сказать, что они не изучаются; они востребованы, студенты пишут по ним курсовые и дипломные работы, но публикации по этой теме на государственных языках Беларуси отсутствуют, нет публикаций — нет и предпосылок для широкого осмысления произошедших событий. Тема моих исследований имеет лишь косвенное отношение к истории религии, но листая старые дела, вглядываясь в лица священников, невозможно остаться равнодушным к крутым поворотам их судеб, к тем событиям, которые они переживали вместе со своими прихожанами, можно сказать, что приходится быть историком поневоле.

Атеизм в СССР был объявлен государственной идеологией, в 20–30–е годы XX века по стране прокатилась волна репрессий против духовенства и верующих, итогом которой стало повсеместное уничтожение церковных зданий, эта волна не коснулась Гродненской области. Сразу после отступления германской армии в июле 1944 г. в Гродненской области[1] были сформированы органы советской власти, в том числе и аппарат Уполномоченного по делам Русской Православной церкви (далее РПЦ). Его задачей было установление контроля над всей религиозной жизнью в области, нейтрализация влияния церкви и утверждение в обществе атеистического образа мыслей. Чиновники, занимавшиеся вопросами культов, не были белорусами, никогда до назначения в Беларуси не

[1] границы области и районов до 1958 г. менялись

жили, белорусским и польским языками не владели. Они оказались в непривычной ситуации, в корне отличной от СССР, где с религией было покончено. Здесь население было не только поголовно верующим, но и не православным, а католическим. Представители власти вольно или невольно попадали под влияние священников и рядовых христиан. 22 июня 1945 г. вышло Постановление о сращивании Уполномоченных с духовенством, в котором приводились примеры взяточничества и давалась негативная оценка действий некоторых служащих.

Структура городского населения к этому времени коренным образом изменилась: исчезли евреи, жившие во многочисленных местечках, 29 тысяч человек — большинство жителей Гродно — были уничтожены в двух гетто, кто–то покинул родину вслед за германской армией. Среди членов религиозных общин также произошли изменения: культурных и образованных горожан сменили жители сельских пригородов и гродненцы с низким социальным статусом. Иначе обстояло дело в деревнях: священники оставались со своей паствой, в большинстве случаев это были люди преклонного возраста, получившие образование в польских и виленских университетах и семинариях. По публикациям отца Афанасия (Мартоса) и С.В. Силовой, во время войны на территории Беларуси все христианские храмы действовали, оккупационные власти оказывали помощь в ремонте и строительстве церквей. Судя по инвентаризационным описям 1945–1947 гг., в храмах все иконы, предметы культа, книги и др. сохранялись в неприкосновенности, советская власть все это национализировала.

По закону о культах религиозные организации подлежали регистрации, заявление об этом должны были подписать двадцать верующих (двадцатка). Учредительная группа играла определяющую роль в жизни общины, если она распадалась, верующим приходилось регистрировать общину как вновь образованную. На общих собраниях необходимо было избрать церковные и костёльные советы. Служитель культа обязан был получить разрешение на свою деятельность у Уполномоченного по делам РПЦ облисполкома. После регистрации община (парафия) должна была выплачивать налоги и содержать священнослужителя. Между исполкомом и общиной подписывался типовой договор, к которому прилагался перечень всего имущества, ответственность за сохранность которого, равно как и молитвенного здания возлагалась на церковный совет.

Приведём письмо, которое было направлено председателю Скидельского райисполкома[2]:

*«Гродненский Областной Совет депутатов трудящихся. 2 марта 1945 года, исх. 331.*

*На основании инструкции Совета по делам Русской Православной церкви при СНК СССР от 5 февраля 1944 г. за № 132 прошу вызвать священников Вашего района и поручить им провести следующие мероприятия:*

*1. Составить инвентарную опись всего культового и обиходного имущества, находящегося в здании церкви. Примечание: инвентарную опись составить в 3–х экземплярах чернилами, один экземпляр остаётся в деле церковного совета, другой гор. или райисполкому, а третий посылается уполномоченному по делам Православной Церкви. Все три экземпляра должны быть подписаны не менее двадцати верующими.*

*2. Избрать исполнительный орган, т. е. церковный совет из 3–х человек, а также ревизионную комиссию из 3–х человек верующих. Исполнительный орган и ревизионная комиссия избираются самими верующими. На избранных составляется список по форме: фамилия, имя, отчество, год рождения, гражданство, судимость, место работы, место жительства.*

*3. Заполнить анкеты служителями культа (священником, дъяконом, псаломщиком) по форме: фамилия, имя, отчество, духовный сан, год рождения, подробный перечень прежней службы или работы и место жительства, а также находился ли на оккупированной немцами территории и чем занимался. Заполняют те, кто имеет указ о назначении за подписью Архиепископа «Василия».*

*Списки исполнительного органа и ревизионной комиссии, а также анкеты служителей культа по каждой церкви отдельно должны быть написаны чернилами разборчиво и доставлены в Облисполком уполномоченному по делам православной Церкви не позже 20 марта 1945 года.*

*Уполномоченный Совета по делам*

*Православной Церкви подпись Макаренко»*

Каждый член церковного совета и ревизионной комиссии заполнял анкету со следующими вопросами: Ф.И.О., год рождения, адрес, образование, социальное и имущественное положение, должность, судимость, пользуется ли избирательным правом. Священники

[2] в настоящее время входит в Гродненский район

в автобиографиях дополнительно указывали национальность, социальное происхождение, продолжительность военной службы, находился ли за границей и в связи с чем, какие правительственные награды имеет, выполняемая работа с начала трудовой деятельности, состав семьи, чем занимаются члены семьи. Примеры таких биографий будут приведены ниже. Новая администрация начала с регистрации православных церквей.

## Положение в православной церкви

В архивах сохранилась довольно полная под «Список православных церквей, действующих в районе Скидельского благочиния Гродненской области»:

| *Наименование насел. пункта* | *Название церкви* | *Ф.И.О. служителя культа* |
|---|---|---|
| *г. Скидель* | *Свято–Михайловская* | *протоиерей Сомкович Юльян Владимирович* |
| *с. Комотово* | *Преображенская* | *протоиерей Омельянович Иосиф Семёнович* |
| *д. Головачи* | *Кресто–Воздвиженская* | *свящ. Смольский Всеволод Всеволодович* |
| *с. Мильковщина* | *Свято–Покровская* | *протоиерей Халецкий Вячеслав Васильевич* |
| *с. Дубно* | *Свято–Николаевская* | *свящ. Корзун Анатолий Николаевич* |
| *с. Озёры* | *Свято–Духовская* | *протоиерей Севастианюк Алексей Наумович* |
| *м. Лунна* | *Свято–Предтеченская* | *протоиерей Калишевич Александр Степанович* |
| *с. Жидомля* | *Свято–Казанская свящ.* | *Мисенок* |

*Иоанн Степанович*
*с. Черлёна Рождество–Богородичная свящ. Сапега*
*Викентий Константинович*

*Все церкви относятся к патриархии, все служители культа утверждены в должности Василием, Архиепископом Минским и Белорусским.*

*6 марта 1945 года, протоиерей И. Сомкович».*

21 августа 1945 г. Поместный собор РПЦ утвердил предварительно одобренное СНК Союза СССР секретное «Положение об управлении РПЦ», в котором в совет из трёх человек вводился настоятель прихода, он же становился председателем (ранее председатель избирался), таким образом в православной общине утверждалось единоначалие.

На первый взгляд, РПЦ, которая перешла под власть Москвы, пользовалась преимуществом перед католиками — за ней были сохранены женский и мужской монастыри, семинария в Жировичах, ей был передан 26.04.1948 г. бывший костёл Святого Георгия в Житомле, на момент регистрации в котором было 950 верующих[3]. Но в целом она оказалась в худшем положении и в итоге полностью утратила самостоятельность. Показательно, что православные митрополиты были марионетками в руках светских властей, их руками и их волей назначались лояльные батюшки и увольнялись неугодные, они всецело зависели от власти и выполняли её волю. Выражаясь современным языком, Архиепископы Минские и Белорусские Василий, Питирим, Гурий, Варлам, епископы Варсонофий, Антоний и др. были наёмными менеджерами, задачей которых было довести до банкротства некогда успешное предприятие (церковь), с этой задачей они справились, самая молодая из белорусских православных епархий — Гродненская — была ликвидирована, просуществовав только полвека, или, как выражаются сейчас, её деятельность «пресеклась». Разложение церкви, начавшееся сверху, перекинулось на приходы: батюшки сплошь и рядом нарушали тайну исповеди, не заботились о прихожанах, занимались личной жизнью, не редки были случаи, когда и члены церковных советов использовали доверие прихожан в своих корыстных интересах.

[3] в наст. время это Свято–Благовещенская церковь, памятник деревянного зодчества 1743 г.

## Головачи

Способов ослабить влияние священников на людей было достаточно, для этого их часто перемещали из одного прихода в другой,



**Крестовоздвиженская церковь в Головачах**

где они не успевали закрепиться, не могли хорошо узнать прихожан и вникнуть в их заботы и нужды. Яркое представление об истории угасания Головачской Крестовоздвиженской церкви (1881 г.) мы можем проследить по биографиям её настоятелей.

В.В Смольский в автобиографии 1953 г. писал (сохранены правописание и пунктуация): «*Я, Смольский Всев. Всевол. Род. 1 апреля 1902 г. в Гродно. Отец мой из крестьян, служил в Гродно счётным работником, мать была домохозяйкой. Пятилетним ребёнком я сломал ногу и проходил на костылях 27 лет. В 1913 г. окончил Народное училище. В 1918 г. окончил В.Н. Училище в г. Алапаевске (Урал). В 1915 г. был эвакуирован с родителями на Егоршинские каменно–угольные копи, Свердловской области, где в летние каникулы я работал счетчиком на шахтах. В 1918 г. мои родители умерли. В 1919 г. поступил*

*в Музыкальное училище и вместе с тем работал. В 1921 г. вернулся из беженства в Гродно и в июле 1922 г. получил место псаломщика, на каковой должности прослужил почти 14 лет. В 1931 г. окончил курсы псаломщиков–регентов в Жировицах. В 1933 г. была сделана операция ноги, что дало возможность отбросить костыль. За время лечения я учился, экстерном сдал экзамены и был посвящен в диакона в гор. Гродно 27 января 1935 г. В декабре 1935 г. выдержал экзамен экстерном за курс Духовной семинарии при Гр. Консистории, и был посвящен во священника в гор. Гродно в феврале 1936 г., с назначением викарным священником к Островской церкви около Баранович. С 1 сентября 1936 г. назначен настоятелем Головачской церкви. В 1946 г. прослушал пастырские курсы в Гродно. В семье у меня жена и три сына. Священник Всеволод Смольскій. Марта 5 дня 1953 г.»* Но как видно, власти не очень–то доверяли священникам, Скидельский благочинный Сомкович дополняет: *«Для уточнения автобиографий [...] настоятеля Головачской церкви священника В.В. Смольского сообщаю следующее: [...]Священник Смольский Всеволод Всеволодович 25 января 1935 г. в г. Гродно епископом Антонием в сан диакона и тем же епископом в Гродно 15 февраля 1936 г. в сан священника»*. По распоряжению Митрополита Минского и Белорусского Питирима 26 сентября 1956 г. переведён на службу в Калининскую епархию (РСФСР), на учётной карточке стоит приписка: *«Выбыл в Балагое Калин. обл.»*.

Пётр Иванович Битель (род. 19 июня 1912 г. в м. Радунь) более известен как белорусский поэт, педагог и краевед, а также как переводчик на белорусский язык поэмы А.Мицкевича «Пан Тадеуш», которую он переводил в сибирском лагере в Кемеровской области (Кузбасский угольный бассейн). В Справке из ИТЛ 5 июля 1956 г., подписанной начальником лагеря Дудиным, говорится: *«Выдана гражданину БИТЕЛЬ Петру Ивановичу год рождения 1912, национальность белорус, уроженец м. Радунь, Радуньского р–на, Гродненской области в том, что он содержался в местах заключения МВД с 24 ноября 1950 г. по 5 июля 1956 г., откуда освобожден решением комиссии Президиума Верховного Совета СССР, протокол № 56 от 29 июня 1956 г. на основании Указа от 24 марта 1956 г. со снятием судимости. Следует к месту жительства Молодеченской обл. Воложинский р–н, с. Лютош»*.

Митрополит Минский и Белорусский Питирим своим указом назначил П.И. Бителя с 24 сентября 1956 г. на должность настоятеля Крестовоздвиженской церкви села Головачи Скидельского благочинного округа. На тетрадном листе в линейку написана его автобиография,

приводим её полностью: «*Родился я 6.VI.1912 г. в м. Радунь Гродненской обл., отец мой в то время был почтовым служащим. В 1914 г. мы эвакуировались в Россию и проживали до 1921 г. в Новгородской губ. Когда возвратились обратно, то польские власти отцу моему службы не предоставили, и он остался работать на собственном хозяйстве (3 дес. земли) в дер. Лютошь Воложинского р–на Молодеченской обл. После семилетки я поступил в учительскую семинарию (конечно, польскую), которую окончил в 1931 г. в Вильно с правом преподавания в семилетке. Два года после окончания семинарии я был безработным и за это время подготовился экстерном за духовную семинарию. В 1933–34 г. служил в польской армии. С 1935 по 1939 г. работал в Мирском р–не учителем и зав. начальной школы. В это время окончил заочно высшие учительские курсы в гор. Вильно. В 1940–41 г. работал директором Средней школы в гор. Воложин Молодеченской обл., а потом школьным инспектором Воложинского р–на. Во время оккупации работал в гор. Воложине на педагогической должности.*

*В 1945 г. мобилизован полевым военкоматом, служил в 206 ЗСП на территории Германии. В 1946/47 уч. году работал преподавателем белорусского и немецкого языков в Забрезской НСШ Воложинского р–на. В 1947 г. рукоположен во священника митрополитом Питиримом. В 1947–48 г. Был настоятелем церкви в селе Мижевичи Слонимского района, 1948–50 г. — настоятелем церкви в гор. Докшицы Молодеченской обл.*

*24.XI.50 г. был арестован и решением Особого совещания приговорён к 10–ти годам исправительно–трудовых лагерей. Работал в Западной Сибири и Казахстане.*

*В июне м–це 1956 г. определением Комиссии Верховного Совета СССР освобожден досрочно со снятием судимости. 12.XI.1956 г. Священник Битель (подпись)*».

Однако уже через год ему предложили написать прошение о переводе на другое место службы. 4 октября 1957 г. он получил Указ Питирима, который гласил: «*Вы, согласно прошения, перемещены на должность настоятеля Свято–Николаевской церкви города Петрикова Житковичского благочинного округа Гомельской области*». 22 октября 1957 г. П.И. Битель сдал справку о регистрации духовенства Уполномоченному отдела по делам РПЦ Гродненского облисполкома и акт передачи церковного имущества церковному совету: «*1) Церковное здание с находящимся в нём инвентарём и утварью согласно имеющейся инвентарной описи, сост. в 1956 г. полностью. 2) Кассовую книгу, приходно–расходные документы и числящуюся по ним сумму*

*60 руб. 35 коп. 3) Две папки со служебной корреспонденцией. 4) Церковные материалы: свечей разных — 7 кг., иконок 10 шт., крестиков 29 шт., венчиков и молитв 8 шт. 5) Документацию по сбору пожертвований на дом священника и наличными сумму 3550 руб. Всё перечисленное принял совет и претензий к настоятелю не имеет».*

11 февраля 1958 г. Питирим назначил Лонгина Дмитриевича Нагорного настоятелем церкви. Его автобиография написана крупным запоминающимся почерком, вот что он о себе рассказал: «*Я, Лонгин Дмитриевич Нагорный родился 24 апреля 1935 г. в семье священника в м–ке Новоельня Дятловского района Гродненской обл. С 7 лет пошёл в школу, где и окончил 2 кл. В 1945 г. вместе с семьёй переехал в г. Червень, а затем в Борисов. В г. Борисове я окончил 3 кл., семь классов окончил в д. Малево Несвижского района Минской обл. В 1952 г. работал в Несвижской кинофикации в качестве киномеханика. В 1954 г. окончил курсы шофера в г. Барановичах. С 1955 по 1958 год занимался в Минской Духовной семинарии. В феврале 1958 г. меня рукоположили в сан священника и направили в д. Головачи Скидельского района, в н. в. нахожусь в Головачах*». Имеется приписка другим почерком: «*в сан диакона 2/II–1958 в сан иерея 9/II–1958 псаломщик с 1952 по 1954 г.*»

Сохранилась фотография священника, это был молодой симпатичный человек, бритое лицо которого украшали щеголеватые стильные усики. Молодой батюшка проявил себя как активный и предприимчивый человек, и судя по всему, неплохой организатор и проповедник. Вот что сообщает анонимный агент о беседе с Нагорным 2 сентября 1958 г. Годовой доход церкви — 11 тысяч рублей, в 1958 г. собрано 4300 рублей, уплачен епархиальный взнос — 3000 рублей. За 8 месяцев было 7 венчаний, 14 крещений, 6 погребений, основной доход — от продажи свечей, кружечно–тарелочный сбор по большим праздникам — до 80 рублей. В 1958 г. верующими было собрано 13 тысяч рублей для покупки причтового дома для священника, за который уплатили 20 тысяч рублей. Со слов Нагорного, в церковь ходят в основном женщины, за последнее время посещаемость увеличивается. Если раньше на вечернюю службу приходили 1–2 женщины, сейчас до 25 человек. В день праздника чтимой иконы Николая верующие не вмещались в ограде церкви, на службе было до 100 человек детей школьного и дошкольного возраста, хотя приглашали только 40. Некоторые верующие из числа служащих приезжают из Скиделя, на Пасху приносили полотно в дар, причащаются и исповедуются, но их фамилий не назвал. Нагорный рассказал, что для поднятия авторитета

по договорённости с руководством колхоза ходит на полевые работы в колхоз, за что председатель колхоза иногда предоставляет ему автомашину. Нагорный в ближайшее время намерен произвести ремонт храма, вокруг церкви посадить фруктовый сад, а церковь оградить хорошим забором. При церкви имеется церковный хор в порядке самодеятельности. Ввиду отсутствия гарного масла, он покупает вместо него вазелиновое».

Деятельность молодого батюшки вызвала беспокойство властей, он был приглашён в Минск к Митрополиту. Нельзя исключить, что против священника была устроена провокация — в Скиделе на железнодорожной станции у него пропала справка о регистрации общины. 13 января Нагорный написал по этому поводу объяснительную записку, он предполагал, что справка могла выпасть из кармана, когда он доставал деньги, чтобы расплатиться за обед в вокзальном ресторане. В этот же день газета «Гродненская правда» опубликовала фельетон «Ищущий да обрящет», в котором авторы Б.Попов и И.Серов, не жалея ярких эпитетов, взахлёб рассказывали о пьяном скандале, который, якобы, учинил в поезде священник Нагорный, сменивший рясу на мирской костюм. Они красочно описали, как уже пьяный батюшка сел в поезд, размахивал фотоаппаратом, «хотел дать затрещину проводнице, но одна женщина в купе не вытерпела: «Что ты, бесстыдник, разошёлся! Человек с виду интеллигентный, а ругается, как ломовой извозчик». Кто–то сказал, что «все они такие — с усиками и бакенбардами, одним словом — стиляги». Пассажиры вызвали милицию, и Нагорного высадили в Лиде, судили в Скиделе, он получил пять суток ареста за мелкое хулиганство. Фельетон прозвучал на всю страну по всесоюзному радио.

15 января Митрополит Питирим освободил Нагорного от должности настоятеля церкви «за безобразное поведение». Одновременно псаломщик В.Ф. Пик получил новое место службы в Могилёвской области (к месту служения так и не явился). На собрании учредительной группы был избран и новый председатель церковного совета (староста) А.А. Соколинский вместо Степанчука. Надо сказать, что времена изменились, и с Нагорным обошлись весьма «гуманно», он не был осуждён, а лишился только службы.

28 февраля 1959 г. священником в Головачскую церковь был назначен Валентин Витальевич Рубанович. Биография знакомит нас с событиями его жизни: родился в дер. Берёзово Рокитновского района Ровенской области в семье псаломщика, с 1930 г. воспитывался

в семье деда — священника (отца умершей матери) в дер. Ремель Брестской области, там же работал псаломщиком. В 1949 г. сочетался законным браком с дочерью псаломщика церкви хутора Мерлин Ольгой Павловной Ноздрин. 4 сентября 1952 г. выдержал испытание при Пинском Епархиальном управлении на получение сана священника, 27 сентября рукоположен в сан диакона, 21.2.1953 г. —Архиепископом Минским и Белорусским Питиримом — в сан священника.

Переведён согласно прошениям:

20.10.53 г. — настоятелем Покровской церкви д. Жуков Борок Столбцовского района Минской области.

25.01.56 г. — настоятелем Николаевской церкви деревни Старо–Белица Уваровичского района Гомельской области.

29.11.57 г. — в Петро–Павловскую церковь деревни Мизгеры Слонимского района Гродненской области.

26.02.59 г. — настоятелем Крестовоздвиженской церкви деревни Головачи Скидельского района Гродненской области.

Каждое, даже, на первый взгляд, разумное решение власти служило поводом для ужесточения положения верующих и несло отрицательные последствия для церкви. Например, распоряжение Уполномоченного о заключении договора между общиной и причтом о переводе причта на твёрдый оклад от 25 февраля 1962 г. вовсе не было проявлением заботы о священнослужителе и не гарантировало священнику его получение. Вот выдержка из договора: «*Перевести с 1 марта 1962 г. причт на твёрдый оклад ежемесячной зарплаты. Настоятелю церкви священнику Рубановичу В.В. — 80 рублей, исполняющему должность псаломщика — 20 рублей*». Но уже в апреле батюшку перевели (опять с формулировкой «по его просьбе») в Песковский приход Лидского района.

В мае 1963 г. Уполномоченный по Гродненской области А. Гашников подготовил заключение о снятии с регистрации религиозного общества, которое охватывало верующих пяти населённых пунктов, и церкви с учёта действующей. Обосновывая такое решение, уполномоченный ссылался на то, что приход ранее был приписным к Скиделю и только во время Отечественной войны выделился в самостоятельный, материально слабый (хотя всего четыре года назад собирались немалые суммы пожертвований и на деньги прихожан был куплен дом для священника), указывалось также, что в 1960 г. батюшка провёл всего 3 венчания, 33 крещения детей и 24 погребения, в 1961 г. — венчаний — 2, крещений — 37, погребений — 16. Подчёркивалось,

что приход не в состоянии уплачивать священнику 50 рублей и после перевода В.В. Рубановича отказался от приглашения другого священника. Верующие, якобы, пожелали объединиться со Скидельским религиозным обществом, так как они больше посещают городские службы, «увязывая это с выездом в праздничные дни на базар, а также обращались за совершением треб, где обряды проводились более пышно».

23 мая 1963 г. А. Гашников направил письмо в Москву на имя Председателя совета по делам РПЦ при Совете Министров СССР тов. Куроедову: «*Приходская церковь в дер. Головачи Гродненского района построена в 1881 г., каменная, площадью 295 кв. метров, не действует с апреля 1962 г., так как община данной церкви, ввиду малой посещаемости верующих и незначительных материальных доходов, будучи не в состоянии в дальнейшем самостоятельно содержать молитвенное здание и служителя культа, объединилась с обществом г. Скидель, находящимся в 5 километрах от деревни Головачи. В апреле 1962 г. Рубанович был переведён в Песковский приход, о чём я не возражал*». 12 августа 1963 г. приход был ликвидирован, райисполкому было разрешено переоборудовать церковь под общественно–культурные нужды. Церковь была закрыта, однако переоборудование не состоялось, чтобы её не смогли открыть и проникнуть внутрь, верующие прятали ключи в разных местах, одно время даже в собачьей будке.



**Черленская церковь Рождества Богородицы**

## Черлёна

По такой же схеме одновременно с церковью в Головачах была закрыта церковь в деревне Черлёна. К ней относились Казаковцы, Русиновцы, Лавна, Хартица, Сарочицы. Служили священниками: в 1945 г. — Сапега Викентий Константинович 1912 г.р., в 1946 г. — Моисеев Анатолий Васильевич, бывший псаломщик, окончил богословский факультет Варшавского университета.

В ноябре 1947 г. настоятелем церкви был назначен

Всеволод Владимирович Жебровский. При нём 7 января 1959 г. случилось происшествие, о котором доложил анонимный осведомитель: «*В первый день праздника «Рождества» в Черлёнской церкви Скидельского района на утренней службе присутствовало около 200 верующих, в их числе 150 женщин, в числе которых находилось более половины молодых девушек. Из беседы с жителями деревни Черлёна перед праздником верующие обратились в правление колхоза «Правда» с просьбой о предоставлении в рождественские дни выходных дней, правление колхоза им заявило, что есть решение районных организаций о работе в эти дни. После чего верующие ультимативно заявили, что в этот день они работать не будут, правление колхоза, поддавшись влиянию верующих, решило в рождественские праздники не работать*». Последствия были таковы: по Указу Митрополита Гурия Жебровский переведён (хочется сказать «сослан») в Свердловскую епархию, а псаломщик Иосиф Иванович Холецкий уволен «ввиду отдалённости проживания».

26 ноября 1959 г. священник Петропавловской церкви села Волпа Матус Афанасий Михайлович перемещён в Черлёнскую церковь на должность настоятеля, 22 июня 1962 г. он был освобождён от должности с «почислением за штат и предоставлением пенсии» по распоряжению Архиепископа Минского и Белорусского Варлама.

Заключение о снятии с регистрации и закрытии приходской церкви в деревне Черлёна гласит: «*Изучением на месте установлено, что население Черлёнского прихода в религиозном отношении пассивное, посещаемость церкви небольшая и ежегодно идёт на убыль. За последние 3–4 года в обычные праздники на молебствие приходило до 15 человек престарелых женщин, в престольные (пасху, рождество и др.) до 70–80 человек. Материально церковь верующие поддерживали слабо [...] Как выразился в беседе бывший священник данного прихода Матус А.Ф., будучи на этом приходе с 1959 г., он влачил нищенское существование, так как его доходы не превышали 30–40 рублей в месяц. [...] В июне 1962 г. он оставил церковную службу и в н.в. проживает в м-ке Мосты совместно с сыном, который работает мастером на фанерном комбинате*». Стандартное лживое обоснование гласило: «*...община не в состоянии материально содержать служителя культа и молитвенное здание ввиду малой посещаемости верующих... Учредительная двадцатка данной церкви распалась, а оставшееся незначительное число верующих данного прихода уже длительное время пользуется соседней церковью в местечке Лунно*».

